**Бібліятэка «Беларускі калегіюм» рэпрэзэнтуе тэксты вядомых беларускіх інтэлектуалаў. Гэта эсэ, аналітыка, дасьледаваньні і дыялёгі пра Беларусь, грамадзтва, культуру і час.**

Кніга ўяўляе збор прыватных успамінаў, сямейных аповедаў, апокрыфаў і паданьняў, сведчаньняў розных людзей, што давялося аўтару чуць, жывучы ў Менску і ў Вільні, вандруючы па ўсёй Беларусі. Унікальны аўтарскі досьвед, багацьце мовы і разнастайнасьць сюжэтаў робяць гэтыя тэксты каштоўным дакумэнтам і захапляльнай чытанкаю для тых, хто цікавіцца пытаньнямі нацыянальнае ідэнтычнасьці і цікавіцца гісторыяй нашае культуры.

# Зьмест

# Наш новы сьвет

## Казалі мне

Колькі ежджу па Беларусі, увесь час імкнуся пагаварыць зь людзьмі. Каб завязаць гаворку зь якім вясковым беларусам, шмат ня трэба. Ну, для пачатку хоць бы спытаць, у які бок ехаць, альбо калі будзе набажэнства ў сьвятыні, ці што гэта за крыж за вёскаю. З маіх назіраньняў, сёньня беларусы ўсё неахвотней гавораць пра сваю цяперншчыну й вальней ды падрабязьней згадваюць мінулае. Ужо не спрачаюцца, як колісь, пра сваю беларускасьць ані на Шчучыншчыне, ані на Палесьсі. Амаль сьцерліся паняткі часоў — *«польскі»*, *«нямецкі»*, *«савецкі»...* Але й ***беларускі час*** яшчэ не надышоў.

Пад Менскам мне, напрыклад, распавялі адну вусьцішную гісторыю, як чалавек засіліўся ў 1937 годзе. У яго была ладная гаспадарка, вялікая, 5 дзяцей, сям’я. Але ўсіх ягоных і жончыных сваякоў выслалі тою зімою на Далёкі Ўсход. Ня маючы іншага спосабу ўратаваць уласных дзяцей, мужык цішком павесіўся ў паветцы. Як праз колькі дзён прыйшлі энкавэдысты забіраць ягоную сям’ю, то й сям’я ўжо была не кулацкая. Удаву зь дзецьмі пакінулі ў спакоі.

А іхныя сваякі з Далёкага Ўсходу гэтак ніколі назад і не вярнуліся.

Таго ахвярнага самагубцу пахавалі, натуральна, асобна. А пасьля вайны па ягонай магіле прайшла дарога. Цяпер ніхто й ня ведае, дзе пахаваньне.

Кажуць, што найбольш актыўнымі памагатымі савецкіх карнікаў былі зазвычай людзі свае, суседзі, аднавяскоўцы. Вось гісторыя кабеты з Лагойшчыны. Калі ў вёску завіталі менскія энкавэдысты зь нейкім габрэем на чале, то ледзь не паўвёскі паказалі на іхную хату, бо муж кабеты за царом быў афіцэрам. Мужык той, былы афіцэр, тымчасам быў у лесе. Да яго пабегла сваячка папярэдзіць, каб не вяртаўся да ночы.

А сям'ю ўжо былі саджалі на падводы, забіралі ўвесь больш-менш прыдатны рыштунак, ад сякеры да рыдлёўкі. Кабета ж узялася апошні раз накарміць сямёх сваіх дзяцей. Ад няма чаго рабіць у хату зайшоў той чужы габрэй-начальнік, запытаўся: *«Что за суп?»*. *«З трыпутніку»*, — адказала гаспадыня. *«Можно попробовать?»* Жанчынка кіданулася, аддала сваю талерку, памыла лыжку. Той быў узяў лыжку варыва, харкнуў на падлогу, адным рухам выйшаў з хаты. На двары ён загадаў вызваліць падводы, паскідаць усё назад. *«Они и тут с голоду сдохнут!»*

А на вуліцы пільна паўглядаўся ў вяскоўцаў, якія зь цікавасьцю назіралі, як будуць вывозіць суседзяў, плюнуў і ў іхны бок. На тым усё скончылася. Сям'я перабралася ў іншую вёску. А зь іхнай роднай вёсачкі да вайны выслалі ці паарыштоўвалі ледзьве не палову людзей. У вайну ж згарэла й рэшта хатаў.

У вайну ўвогуле рабілася шмат неймавернага. Яшчэ больш неймавернаю можа падацца сёньняшняя інтэрпрэтацыя тае вайны.

Пад Лынтупамі, скажам, ёсьць рэшткі колішняга млына. На мае запыты розныя людзі з тубыльцаў распавялі ледзь ня тузін зусім розных гісторыяў. Адныя казалі, што млын узарвалі немцы, бо, нібы, там, у млынаровай хаце, хаваліся партызаны. Іншыя пярэчылі, што гэта зрабілі тыя самыя савецкія партызаны, бо млынар быў за немцамі солтысам. Іншыя гаварылі, што гэта зрабілі

бандыты па вайне. Некаторыя ўдакладнялі: польскія акоўцы. Адныя казалі, што тых савецкіх партызанаў пабілі літоўскія паліцаі, а другія — што па вайне польскіх партызанаў расстралялі чырвонаармейцы. Прытым, высьвятляецца, магіла такі ёсьць. Пагорак, зарослы дзірваном, на краі кладоў. Усе баяліся дагледаць брацкую магілу, хоць, у любым разе, партызаны былі з тутэйшых.

Таксама пад Менскам, у Міханавічах, распавялі мне гісторыю, як адзін савецкі тамтэйшы партызан забіў па вайне роднага малодшага брата, бо той быў у беларускай самаахове. Старэйшы брат, на добрым падпітку, вёў яго на вачах усёй вёскі на могілкі, несупынна б’ючы штых-нажом. На могілках ён перарэзаў скрываўленаму брату горла й пайшоў піць далей. З таго дня ніхто партызану рукі не падаваў, нібы рукі ў таго да канца дзён былі ў крыві. Але ніхто й тут не парупіўся пра магілу хлапца-«самаахоўца», нават родныя, баючыся савецкіх уладаў. Хоць хлапец, бадай, за ўсю вайну ні разу й ня стрэліў.

У Магільным, што на Вузьдзеншчыне, распавялі мне пра камсамольца, што па вайне зачыняў царкву. Ён сам палез быў скідаць крыж з макоўкі ды зачапіўся за той крыж і разьбіўся вобзем. Усе сьведкі пералжагналіся. Недзе ў 60-я родзічы атэіста-маладзёна спрабавалі колькі разоў паставіць крыж на ягонай магіле, але кожнага разу пільныя аднавяскоўцы выварочвалі ўначы тыя крыжы. Хоць ці ня ўся вёска талакою разьбірала царкву, каб зь яе скласьці ў іншым месцы клюб. Сёньня клюбу ўжо няма. Няма тамака пакуль і царквы. А на магіле камсамольца такі стаіць жалезны блакітны крыж.

Пра ўсё гэта беларусы гавораць цяпер сьмялей, ахвотна й падрабязна. Але ніхто не пачуваецца вінаватым і не зьбіраецца высьвятляць праўды дарэшты. А пагаварыць... пагаварыць можна.

## Патаемныя жаданьні

Імклівы рост этнічнае ідэнтычнасьці беларусаў з 1980-х гадоў напачатку нават выглядаў парадоксам. Бо паралельна нарастала ўніфікацыя духоўнае й матэрыяльнае культуры ў СССР. Амаль паўсюдна ў Беларусі, напрадвесьні перабудовы, наважылася цікавасьць да «каранёў», да помнікаў даўніны, да фальклёру й нацыянальнае гісторыі. Рабіліся спробы рэанімаваць старасьвецкія абрады й сьвяты, а нават увесьці ў «общепит» стравы нацыянальнае кухні. У прафэсійнай культуры выкшталтавалася цэлая «фальклёрная» плынь, пачаліся пошукі «загадкавай душы народу». Шмат у чым таму спрыяла блізкасьць Балтыі й Украіны, дзе гэтыя працэсы былі яшчэ больш відавочныя. Дыялектыка палягала й на тым, што, памнажаючы культурны прадукт у нацыянальных формах, камуністычныя ўлады не адказалі на выклік часу пра «сацыялістычны зьмест». Нават усесаюзнае чэмпіёнства менскага (кіеўскага, тбіліскага) «Дынама» ўспрымалася як нацыянальны трыюмф. І гэтая колькасьць, нават эрзацнага й павярхоўнага, прадукту, урэшце перарастала ў якасьць. У мацаваньне этнічнае ідэнтычнасьці й усьведамленьне сваёй выключнасьці.

Прытым напрыканцы існаваньня СССР у беларусаў этнічная ідэнтыфікацыя была куды больш выразная, як, напрыклад, у расейцаў. Гэтак, паводле вынікаў этнасацыялягічных дасьледаваньняў, праведзеных у 1988 годзе, блізу 25% пашпартных расейцаў ня здолелі адказаць, на чым палягае іхная этнічная роднасьць, апроч «пятае графы» ў чырвоным пашпарце. Ня маю пэўнасьці, што сёньня сытуацыя істотна розьніцца,

калі мець наўвеце этнічную еднасьць расейцаў, напрыклад, Латвіі, Казахстану й Сахаліну... Этнічныя закалоты ў Францыі альбо ў Бэльгіі сьведчаць, што падобныя праблемы нікуды ня дзенуцца ў агляднай пэрспэктыве. То бок пошукі ўласнае ідэнтычнасьці, уласнага «мы» для розных народаў — адна з самых актуальных праблемаў культуры й палітыкі. Відавочна, што ўсьведамленьне сваёй прыналежнасьці да пэўнага народу, пошукі яго асаблівасьцяў маюць вялізарную значнасьць для адносінаў між людзьмі ды паміж групамі, але перадусім — для самаацэнкі чалавека.

Бясспрэчна, што важным чыньнікам росту нацыянальнае самасьведамасьці ў 1980-я гады стала абвастрэньне ў герархіі СССР унутрыапаратных, унутрыпартыйных супярэчнасьцяў. Балазе, да таго часу этнічныя беларусы пачалі складаць абсалютную большасьць ва ўладных структурах БССР. Роўна ж як і ў культуры ды навуцы. Зрэшты, і адукацыю бальшыня адмыслоўцаў атрымоўвала ўжо ў сваім краі. То бок на мяжы 1970—1980-х гадоў этнічна беларуская эліта запанавала тут, авалодаўшы спачатку адміністрацыйнымі рэсурсамі, а затым і мэханізмамі ідэйных уплываў. На фоне абвастрэньня палітычнае й эканамічнае канкурэнцыі розных тэрытарыяльных утварэньняў у самой імпэрыі да жыцьця было пакліканае ўнутрыэтнічнае ўзаемадзеяньне, нягледзячы на нібы татальную ўніфікацыю матэрыяльнае й духовае культуры. Апатэозам нацыянальнага пачуцьця сталася бурапеннае сьвяткаваньне 100-годзьдзя народзінаў Янкі Купалы й Якуба Коласа, калі ў нас толькі сьляпы й глухі пра тое ня ведаў. Вялікія посьпехі на савецкай эстрадзе беларускіх выступоўцаў надавалі аптымізму ўсім беларусам, мацуючы тую новую, нязнаную ідэнтычнасьць. Выцягнутыя з фальклёрных рэгіянальных крыніцаў песьні станавіліся агульнанацыянальнымі шлягерамі ў рок-н-рольнай аранжыроўцы... У застольнай аранжыроўцы.

І, вядома, Чарнобыль, які дзіўным чынам супаў з 1000-годзьдзем хрэсту Русі й пачаткам рэлігійнае талеранцыі...

За дваццаць з гакам гадоў, пасьля нечуванага ўсплёску моды на рэлігію, мы бачым, што беларусы па-ранейшаму ставяцца да пытаньняў веры ў найлепшым выпадку «фальклёрна» (паводле вызначэньня колішняга мітрапаліта Смаленскага й Калінінградзкага, цяперашняга Патрыярха Кірылы). Красамоўным прыкладам рэальнага стаўленьня да рэлігійнай традыцыі ў нашай краіне, што некаторыя ўпарта працягваюць называць «праваслаўнай» — калядныя сьвяты з 25 сьнежня, з шалёным (адпаведна ўяўленьням і адукацыі) застольлем у навагоднюю ноч і праглядам зусім ня посных тэлепраграмаў. Так, паства маладзее. Але збольшага за кошт натуральнага адыходу старое паствы. І колькасьць вернікаў застаецца стабільная. Адсотак парафіянаў — блізкі да статыстычнае памылкі. Адпаведна, за два дзясяткі гадоў мы ўжо можам пераканацца, што й «хрысьціянскія вартасьці» ня ёсьць чыньнікам нашае новае ідэнтычнасьці. Пагатоў, калі ўлічыць пярэсты канфэсійны склад.

Яшчэ большым парадоксам стала поўная індыфэрэнтнасьць да пытаньняў экалёгіі. Той магутны ўздым экалягічных рухаў, што быў ускалыхнуў беларускае грамадзтва пасьля Чарнобылю, сышоў на нішто. У пясок. І чарнобыльская трагедыя, адыграўшы вялізарную ролю ў справе кансалідацыі нацыі (на супрацьпастаўленьні «мы», пацярпелыя беларусы, і «яны», непацярпелыя савецкія народы), насуперак усім сурокам і прагнозам амаль цалкам выпала з комплексу цяперашняе беларускае ідэнтычнасьці.

Але беларусы, тым ня меней, усё больш выразна дыфэрэнцыююць сябе сярод іншых. Бо беларускасьць, часам эфэмэрная ці ірацыянальная (калі вядзецца,

напрыклад, пра дэмакратычныя каштоўнасьці ці свабоду рынку), усё ж выконвае свае важныя функцыі: 1) дазваляе арыентавацца ў навакольным сьвеце, пастаўляючы спарадкаваную (часам скажоную) інфармацыю; 2) перадвызначае агульныя, падставовыя вартасьці (прырода—чалавек—дзяржава, продкі—нашчадкі ды г. д.); 3) бароніць, адказваючы за сацыяльнае й псыхалягічнае самапачуцьцё («у нас — гэтак, а там — так», «нашы перамаглі» ды г. д.). Што яшчэ засталося? Нацыянальная мова, страчаная большасьцю беларусаў, тым ня меней, па-ранейшаму ўспрымаецца як сымбаль адзінства. Толькі як сымбаль… Для бальшыні яна ўжо нават і ня «матчына», а хіба «бабчына»… Тым ня меней роля гэтага сымбалю для беларусаў калясальная! У 1999 годзе, паводле перапісу, 85,6% прызналі роднаю моваю толькі беларускую, а зь іх — 3 683 000 сказалі, што нібы карыстаюцца ёю ў паўсядзённым жыцьці!!! Ведама ж, гэта няпраўда. Бо каб гэтак было, мы б чулі сваю мову штодня ад кожнага трэцяга! Што пацьвердзіў і апошні перапіс, паводле якога гэтыя «роднамоўныя» лічбы аказаліся моцна скарэктаваныя. А значыць, гэта толькі лічбы... Але, у любым разе, яны сьведчаць пра тое, што беларусы на перапісах гэтак галасуюць, пратэстуючы супраць цяперашняе культурнае палітыкі, выяўляюць свае патаемныя жаданьні. Адно зь якіх — каб ***Беларусь была беларуская***.

## Чорная нябачнасьць

Наш народ прывык падазраваць, што ніхто нічога за нішто ня зробіць. Лепш нічога не рабіць, каб толькі яго не абвінавацілі. Доўгая прывычка да савецкай рэчаіснасьці й выклікае ў Беларусі непаразуменьне рэчаіснасьці заходняй. Гэта перашкаджае нашым людзям зьмяніць сваё жыцьцё на лепшае. Ды ня хочуць верыць, калі ім гаворыш.

Агульнае высновы ня здолела зрабіць Беларусь за гэтыя жалобныя гады пасьля чарнобыльскае катастрофы. Ня выславіла, ня ўцяміла, сама не закрычала... Рыхтык паводле Багдановіча: *«...І душу тваю абакралі, — У ёй нават мовы няма».* Не ўзьнялася й культура да нейкіх высноваў, вобразаў, што былі б агульнапрынятыя. Мастакі памалявалі жудзікі, пісьменьнікі нарабілі рэпартажаў дый... прысталі. Прысталі, як і люд увесь, што спрадвеку ТАМ жыў.

У любым разе мы маем справу зь цёмнаю, непадуладнаю нам, разбуральнаю сілаю, зь якою немагчыма пагадзіцца. Я прыгадаў у нашай гісторыі падобную сытуацыю. 20 траўня 1654-га процьма войскаў маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча рушыла з трох бакоў на Беларусь. З поўдня да іх далучылася казацкая арда Хмяльніцкага. У момант край заліло больш як 100-тысячнае войска чужынцаў. Ім супрацьстаяла ў дзесяць разоў меншая армія Вялікага Княства на чале зь Янушам Радзівілам. Вынікі гэтае драмы красамоўна апісаў Сыракомля:
*«...Вайна з Расеяй набыла жахлівы характар. Шчэрба, Загіеў і Хаванскі занялі ўсю Літву. У Менск увайшлі*

*казакі, татары й калмыкі... У крыві й попеле загінула большая частка жыхароў, зьнішчана большасьць дамоў, манастыроў, сьвятыняў. І прыйшоў мор, які цягнуўся больш чатырох гадоў: ад кастрычніка 1653 да студзеня 1658 году. Горад абязьлюдзеў, стаў пустэльным, павялічыліся толькі межы могілак — «залюдніліся гарады мёртвых»*[1].

На першы погляд, паратунку не было. Але толькі на першы. Крывавая вайна, што спустошыла дашчэнту Беларусь, урэшце скончылася. Былі калясальныя страты, але ўсё ўвабралася ў свае берагі. Беларуская арыстакратыя ізноў выратавала сваю зямлю. Беларусь выйшла з трынаццацігадовай вайны з апакаліптычнымі стратамі. Яе насельніцтва зьменшылася на 53%. Найбольш пацярпелі збольшага тыя ж самыя тэрыторыі, што й пасьля аварыі ў Чарнобылі: Гомельшчына й Магілёўшчына. Там не засталося пад канец вайны нават трацiны ад даваеннай колькасьці жыхароў!

Што ў той сытуацыі мусілі рабіць валадары? Адразу ж улады вызвалілі жыхароў пацярпелых земляў ад падаткаў. Дзе на 10, дзе на 15, а дзе й на 20 гадоў! Людзі мусілі ачуняць, аджыць, нарадзіцца ўрэшце! У момант жа былі панавыдавалі каралеўскія прывілеі тамтэйшым жыдам, каб ажывіць гандаль ды рамёствы. І вялізарныя ахвяраваньні беларуская магнатэрыя павыдаткоўвала на бажніцы й кляштары, што сталіся асяродкамі духоўнасьці й асьветы, гаспадаркі й мэдыцыны. А ў першую чаргу — асяродкамі сацыяльнае апекі.

А зараз параўнаем, што зрабілі ўлады ў Беларусі пасьля Чарнобылю. У першыя гады «чарнобыльскі» падатак у чарнобыльскіх жа раёнах складаў па прадпрыемствах

[1] Сыракомля, Уладзіслаў. Добрыя весьці: паэзія, проза, крытыка. Мінск: Мастацкая літаратура, 1993. С. 390.

ажно 25%. Гэта быў ці ня самы балючы ўдар «пад дых» тамтэйшай эканоміцы. Лягічна было б сабе ўявіць, што калі ўся Беларусь плоціць «чарнобыльскі» падатак, то мо з «чарнобыльцаў» яго не спаганяць. А не! Прадпрыемствы ў забруджаных нуклідамі раёнах плацілі 6-адсоткавы «чарнобыльскі»падатак. І ўсе астатнія падаткі таксама!

Вось дзе й была закладзеная ваколчарнобыльская карумпаванасьць. Дзеля таго, каб пералічваць й сачыць за спагнаньнем падаткаў, спатрэбіўся дадатковы легіён бюракратаў. І сама меней яшчэ столькі ж — дзеля разьмеркаваньня сабраных сродкаў. Вось як падрывалася вера людзей у справядлівасьць, у дзейснасьць людзкае салідарнасьці. Чарнобыльцы самі ж на сябе зь сябе здымалі падаткі! Па ўсёй краіне выкалочваліся апошнія грошы, што, прайшоўшы праз сіта дзяржаўнага разьмеркавальнага апарату, кроплямі прыходзілі да зоны бяды.

Цяперашняе кіраўніцтва Беларусі, як і папярэдняе і як яшчэ ранейшае, проста ня можа ўзяць у цям гэткія тэрміны вызваленьня пацярпелага люду, як дзясятак ці паўтара дзясятка гадоў. Бо мысьліць выключна сёньняшнімі, аднадзённымі катэгорыямі.

Сапегі, Радзівілы, Храптовічы былі перакананыя, што лёс дзяржавы будзе залежаць ня толькі ад іх, але й ад іхных унукаў і праўнукаў. Уяўляючы сабе жыцьцё нашчадкаў, яны рупіліся, каб край даваў плады й у будучыні... Пасьля войнаў з Расеяй вясковае насельніцтва раўнастайна перасялялі з Захаду на Ўсход. Зьявіліся буйныя ліцьвінскія асады яшчэ ў XV стагодзьдзі па ўсёй усходняй Беларусі: Гайна, Коханава, Абольцы ды багата яшчэ… А ў XVII зьявіліся новыя й у Мсьціслаўскім, Аршанскім, Мазырскім ды Полацкім паветах. Гэтак пакрысе й паўстаў цяперашні беларускі этнас.

Сытуацыя вакол Чарнобылю падобная. Толькі зь іншым знакам. Трэба было раўнастайна зьмясьціць людзтва з Паўднёвага Ўсходу ў бок Паўночнага Захаду. Куды ж пайшлі тыя самыя падатковыя грошы, павыбіваныя з усіх без разбору беларусаў? Не на разумнае адсяленьне. А на прымацаваньне людзей у радыяцыйна брудных раёнах. Дзякуючы катастрофе ў канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў непазнавальна зьмянілі свой воблік Брагін, Столін, Ельск, Лельчыцы, Чэрыкаў. Гарады ўпарадкавалі, у іх панабудавалі новых адміністрацыйных будынкаў, навюткага жыльля. Будаваліся ў гэтых раёнах на «чыстых» дзялках зямлі новыя вёскі. Гэта ўсё таксама страты ад катастрофы.

Людзі адтуль зьедуць урэшце. Тым, каму дарагая будучыня нашчадкаў. Пры гэтым запавольваліся тэмпы будаўніцтва ў чыстых раёнах і гарадах. Прырост жыльлёвага фонду ў забруджаных раёнах толькі за 1986—1990 гады склаў амаль чатыры мільёны квадратных мэтраў. Калі б хоць палову (!) гэтага жыльля пабудавалі ў чыстых раёнах,то больш за сто тысячаў чалавек маглі б жыць у нармальных умовах і не баяцца за лёс сваіх дзяцей ды свой таксама. А каб яны былі вызваленыя ад падаткаў, то мо Беларусь увогуле забылася б на тую трагедыю.

На жаль, ані тады, ані цяпер лёс Беларусі не вырашаюць арыстакраты. Якую б шкоду не прынес Чарнобыль, большую ці меншую, пра што мы й насамрэч ня можам спрачацца, бо ня маем ня ў чым пэўнасьці, наступствы хцівасьці й цынізму ўладаў ужо відавочныя. Роўна ж як і маральнае распусты тых, хто не забывае добра грэцца ад чарнобыльскага вагню.

Насамрэч праблема паразуменьня куды больш шырэйшая ў беларускім грамадзтве за чарнобыльскія й калячарнобыльскія праблемы. Вялікая колькасьць людзей і напраўду перакананая, што, напрыклад, на апазыцыйныя мітынгі ходзяць за грошы. Што, маўляў,

маніхвэстантам нехта раздае наяўныя амэрыканскія рублі. Даходзіць да анэкдотаў. Прытым маральная канвэргенцыя захоплівае ўсё большыя пласты народу. Спачатку хлеб зямны, а там разьберамося... Як Бог да мяне, дык і я да Бога.

## Не адной веры

*Ва ўсім нашым краі, пэўна, найгорай маюцца сьвятары ў губэрні Магілёўскай. І літовец, і латыш стараецца па магчымасьці ўзнагародзіць свайго душапастара. Беларус аб тым ніколі не падумае. Ён заўсёды хоча ды імкнецца мець задарма. І таму «Бог заплаціць» часта ёсьць тут адзінай узнагародаю сьвятару за ягоную працу. Ці то галеча, ці адсутнасьць зямлі робіць беларуса гэткім, ці проста брак жаданьня штосьці ахвяраваць царкве, цяжка сказаць, але факт ёсьць і можа быць лёгка канстатаваны»[1].*

Юзафат Жыскар

Ці зьмянілася што праз сто гадоў?

Беларуская нацыянальная самасьведамасьць вельмі моцна была ўскладненая канфэсійнымі самавызначэньнямі. Адно хоць згадаць драматычны аповед Максіма Гарэцкага «Не адной веры» (1922). Канфэсійная разрозьненасьць стала для беларусаў не духоўным багацьцем, як для ангельцаў ці немцаў, а, урэшце, яшчэ адною балючаю траўмаю. Выключная заслуга беларускае інтэлігенцыі, што гуртавалася вакол першых нацыянальных пэрыёдыкаў пачатку XX стагодзьдзя, — у пераадоленьні міжканфэсійных бар’ераў.

---

[1] Żyskar, Józefat. Nasze kościoły. Archidjecezja mohylewska / Pod. red. ks. Józafata Żyskara. W-wa, 1913. S. 30.

Гэтак сталася, што татальная сэкулярызацыя савецкага часу паспрыяла нацыянальнай кансалідацыі. Менавіта адсутнасьць рэлігійнага жыцьця пераламала міжканфэсійныя бар'еры, што здаваліся ўвогуле непераадольнымі, да 1907 году.

Спадзевы, што луналі сярод інтэлектуалаў у сярэдзіне 1980-х, на стварэньне ўласнай нацыянальнай царквы аказаліся марныя. Хоць прызнавацца сёньня атэістам — не прынята. Гэта амаль як прызнацца ў нетрадыцыйнай сэксуальнасьці.

За гады незалежнасьці беларусы гэтак і ня здолелі перакласьці Сьвятога Пісаньня цалкам на сваю мову. Расейская праваслаўная царква, пайшоўшы на некаторыя саступкі ў пачатку 1990-х, абдзяржавіўшыся, урэшце, стала маліцца на цара Мікалая II ды жаліцца пра распад СССР. Вельмі шмат зрабіла дзеля беларушчыны Рыма-каталіцкая царква, дзе й дасёньня нашая традыцыя і нашая мова існуюць інстытуцыявана, трывала. Але ўсё ж большасьць беларусаў па інэрцыі лічаць гэтую канфэсію «польскаю». І шмат у чым небеспадстаўна... Рэканструкцыя, узнаўленьне эвангелічнага кальвінізму ці Грэка-каталіцкай царквы мелі кароткі посьпех, але агулам вынікі вельмі сьціплыя... Выглядае, робячы гістарычныя рэканструкцыі абраднасьці, мы ня ў стане рэканструяваць масавую рэлігійную сьведамасьць. І рэч тут ня ў тым, што нейкая канфэсія непрыдатная для ўмацаваньня беларускае ідэнтычнасьці. Рэч у тым, што хоча нехта ці не, абсалютная большасьць беларусаў гэтак і засталася за апошнія чвэрць стагодзьдзя па-за рэлігіяй. Хоць і адбылася грунтоўная беларусізацыя Каталіцкай царквы, паўсталі даволі дынамічныя грамады вуніятаў, і, перадусім, вялізарнае разьвіцьцё атрымалі пратэстанцкія дэнамінацыі, у першую чаргу, на Берасьцейшчыне.

Ад часоў гарбачоўскае лібэралізацыі, здавалася б, можна было ўжо разабрацца, да каго прымкнуць, але... Факт — большасьць беларусаў ня мае пэўнасьці ў сваёй рэлігійнай прыналежнасьці. Гэта значыць, што ва ўмовах адсутнасьці дзяржаўнае манаполіі на СМІ, зь якіх беларусы і дазнаюцца сёньня пра рэлігійныя навіны, роля і месца рэлігіі стануць яшчэ больш маргінальныя. І выбар канфэсіі будзе дыктаваць адно хіба асабісты густ, а не спрадвечная традыцыя... А найперш мусім прызнаць, што ідэі стварэньня сваёй, нацыянальнай царквы безнадзейна спазьніліся. На гадоў 150. Адпаведна, гэтая тэма зойме сваё месца на той жа паліцы, дзе стаяць міты пра Вільню ды аўтэнтычную вёску, пасьля калектывізацыі, мэліярацыі, радыяцыі...

## Крыж у полі

Беларусы — гэта сума ідэнтычнасьцяў, рэгіянальных адрозьненьняў, што часам здаюцца экзатычнымі для іншых розных беларусаў.

Між Нароўляю й Чарнобылем яшчэ жывуць людзі, шчырыя беларусы, рымскія каталікі, якія гавораць на ўкраінска-польскай гаворцы, а моляцца цяпер па-беларуску. Гаворка людзей па-над Славечнай, ад Грушаўкі, ужо амаль украінская. Раней там пачыналася Кіеўскае ваяводзтва Польскага Каралеўства, затым Кіеўская губэрня. Але цяпер большасьць тамтэйшых вёсак, да самае ўкраінскае мяжы, адселеныя. Гавораць пра Варшаву, нібы пра нябесны Ерузалем. Прытым яны сьвядомыя беларусы й шчыра цешацца магчымасьці пагаварыць па-беларуску. Далібог, выглядае гэта зусім нязвычна для тых, хто трапляе сюды, напрыклад, зь Менску.

Грушаўка — цэнтар тутэйшых рымскіх каталікоў. Там, як і ў тузіне іншых вёсак Нараўляншчыны, у Аляксандраўцы, Мальцах, Габрыелеўцы, Чэхах, Лубені, Сьвячы, у самой Нароўлі, здаўна жылі рыма-каталікі, яшчэ ад тых часоў, як гэты закуток у XVII стагодзьдзі трапіў у склад Польскай Кароны. Уражвае тут сакавіцейшая ўкраінска-польская трасянка.

Вёска Грушаўка належала галоўчыцкім Горватам. У 1916 годзе жонкаю Станіслава Горвата стала італьянская графіня Францішка Анэля Паўленс дэ ля Рохэ. Графіня была жанчына пабожная. На ейнае жаданьне ў Грушаўцы паўстаў крыж, яна ж запрасіла біскупа для асьвячэньня месца будучай капліцы...

Крыж высьвяціў наш, беларускі, біскуп Магілёўскі Стэфан Дзенісевіч. Але да рэвалюцыі касьцёлу ці хоць капліцы паставіць не пасьпелі. Простыя беларусы за савецкім часам таемна па хатах маліліся ў сьвяты й пасты, бралі касьцельныя шлюбы і хрысьцілі дзяцей. І сёньня тутэйшыя старыя ня могуць стрываць сьлёзаў, апавядаючы пра ўсё, што ім выпала перажыць за часоў савецкага тэрору: як за Сталіным расстралялі 40 мужчынаў з Грушаўкі ды ваколіцаў. Арыштоўвалі і забівалі за веру нават салдатаў, нават падчас вайны.

У 1941 годзе нямецкія жаўнеры, увайшоўшы ў Грушаўку, убачылі вяскоўцаў, якія сабраліся на малітву перад крыжам пані Горватавай ды прасілі Божае літасьці. І ўсе засталіся жывыя!

Усе савецкія гады шмат хто з грушаўцаў езьдзіў да касьцёлу ў Жытомір. Вера тутэйшых каталікоў-беларусаў толькі дужэла. Пасьля сюды патаемна пачалі наяжджаць і ксяндзы. Чаго толькі ні выраблялі тады савецкія начальнічкі: арыштоўвалі людзей, штрафавалі, абшуквалі. І цудам хіба можна вытлумачыць, што да нашых дзён ацалеў той самы, з старым касьцяным Укрыжаваньнем, ужо сьсівелы крыж пані Францішкі Горват! Ён і цяпер стаіць у абходжаным полі Антаніны Жураўскай, якой сёлета ўжо 94 гады: *«Діті, запам’ятайте: тількі з гэтым кшыжам можліво выжыті. У нас раней то ціла хрестівка була. Під кожнэй хатой кшыжы стоялі!»*

Пад гэтым самым крыжам і пачаліся адкрытыя маленьні ў 1988 годзе. *«Праз Пана нашага Езуса Хрыста, Уладара міласэрнасьці, які з Табою і Духам Сьвятым аказвае нам міласэрнасьць навекі. Амэн!»*

А як у 1988 годзе ў Грушаўцы была афіцыйна ўтвораная рыма-каталіцкая парафія, то каталікам аддалі пад капліцу будынак былога фэльчарскага пункту. А цяпер тут стаіць ладны, сапраўдны, велічны касьцёл

Божае Міласэрнасьці, што здалёк бялее на высокім пагорку пасярод вёскі. Мара людзей і пані Горватавай зьдзейсьнілася, праз 82 гады...

Старыя пераказваюць гэтую дзіўную гісторыю на ўсе лады. І моцна трываюць у веры, што дае ім апірышча на гэтай апаленай Чарнобылем зямлі. І вёска не пустуе, надвячоркам дзіцячы сьмех чуваць адусюль.

## У што вераць беларусы

Суседку-пэнсіянэрку, філёляга з Акадэміі навук, чарговы скандал вакол непадпісаньня беларуска-расейскае дамовы аб нафце зусім не хвалюе. *«Падпішуць, а дзе дзенуцца?»* — кажа яна. У гэтых простых словах няпростага чалавека тоіцца вельмі важная падказка ў пытаньні пра беларускую веру. Беларусы цалкам шчыра й бяз шчыгулаў вераць у тое, што ім абавязкова дадуць і нафту, і газ. Ну проста абавязаныя даць! Дарэчы, беларусы гэтак і не прасяклі, што нафты для РБ хопіць, а ня хопіць жмені прыватных прадпрыемстваў, якіх «крышуе» дзяржава...

Маладыя й немаладыя сем'і з энтузіязмам запісваюцца ў чаргу на паляпшэньне жыльлёвых умоваў. Нехта ж мусіць даць ім жыльлё! Нехта павінен рэалізаваць, расьпіхаць, разьвезьці навырабляных рэчаў з складоў дзяржпрадпрыемстваў! Тое, што яны мала каму патрэбныя, маральна й тэхнічна састарэлыя, мала цікавіць шараговых беларусаў-працаўнікоў. Іхная справа — схадзіць на працу, а пасьля атрымаць за гэта грошы. І бясплатную мэдычную дапамогу. І яшчэ ільготы. А яшчэ — дармовую адукацыю для дзяцей. Тое, ці спатрэбяцца тыя дыплёмы, яны сёньня пакуль ня думаюць.

Адкуль што бярэцца, як працуюць фінансавыя мэханізмы, як дзеіць рэальны рынак, да якога бальшыня нашых суайчыньнікаў гэтак і не спрычынілася, — беларусаў мала хвалюе.

Я добра пра гэта задумаўся, калі быў у Нараўлянскім раёне й бачыў, як там працуюць калгасы й заводы ва

ўмовах татальнае радыяцыйнае забруджанасьці. Ці насамрэч выраблены тут прадукты бясьпечныя — таксама не хвалюе тых, хто ходзіць на працу. На іхную думку, усё гэта абавязаныя недзе прыняць і заплаціць ім.

Прытым шараговы беларус з пагардаю глядзіць на бальшыню айчынных тавараў. Ну хто, напрыклад, марыць пра беларускі фотаапарат ці пра беларускі магнітафон? А іх працягваюць выпускаць.

Беларусы мараць пра тое, што нехта ім усё дасьць задарма. Як у дзіцячых мроях пра вялізарны магазын цацак, дзе можна ўзяць усё, што захочаш. Гэта прыпадабняе беларусаў да вызнанцаў карга-культаў. Такія карга-культы (ад ангельскага *cargo cult* — пакланеньне грузу) распаўсюджаныя на далёкіх выспах Акіяніі, дзе няма аніякае вытворчасьці, электрычнасьці, банкаўскіх апэрацыяў. Тамака людзі таксама вераць, што найноўшыя рэчы навукаёмкіх вытворчасьцяў створаныя духамі й прызначаныя наўпрост для іх. Некаторыя акіянійцы лічаць, што белыя людзі акрутным падманам атрымалі кантроль над усімі дабротамі цывілізацыі спажываньня. Кшталтам, як у Беларусі: *«Мы ж у савецкія часы цэлыя гарады ў вас будавалі ў Сібіры, здабывалі вам і нафту, і газ! А ў роднай Расеі нам не далі аніводнага радовішча!»* І гэта прамаўляецца ўсур’ёз, як малітва.

У карга-культах выконваюцца адмысловыя рытуалы, падобныя на дзеяньні цывілізаваных людзей, каб прадметаў спажываньня стала болей. Напрыклад, правадыры прамаўляюць адмысловыя прамовы, у якіх выліваюць сваю крыўду на чужы сьвет. Сытуацыя кансэрвуецца праз тое, што астраўляне не разумеюць маштабаў, тэхналёгіяў і значнасьці вытворчасьці. Іхныя ўяўленьні пра камэрцыю, фінансы і культуру астатняга сьвету фрагмэнтарныя й не зьвязаныя міжсобку. Гэта кшталтам таго, як дэпутат «палаты прадстаўнікоў»

Сяргей Касьцян у інтэрвію кажа: *«…Сэрвіс не павінен быць напышлівы, эўрапейскі, у ім мусіць быць нацыянальная славянская экзотыка: як калісьці ў нас на Палесьсі казалі, «латушкі», гліняныя міскі, драўляныя лыжкі… Калі б мы гэты сэрвіс наладзілі, плыні турыстаў у Беларусь былі б большыя, чым у Турцыю ці Эгіпет»*. І гэта кажацца ўсур'ёз, і беларусы гэтаму вераць.

Сярод найважнейшых рытуалаў карга-культу — мілітарызаваныя шэсьці й парады. Вернікі карга-культаў рэгулярна праводзяць шыхтаваньне, імітуюць вайсковую муштру й маршы, накшталт вайсковых, выкарыстоўваючы самаробныя муляжы замест стрэльбаў і аўтаматаў, малююць на целах «ордэны» й «вайсковыя» знакі адрозьненьня.

Астраўляне імітуюць сапраўдную «заходнюю» зброю, надзяваюць мундуры белых, крочаць маршамі, сьпяваюць песьні, сэнс словаў якіх ім невядомы. У самых вядомых формах карга-культу вызнаўцы робяць з трэсак, саломы, пальмавага лісьця копіі ўзьлётных палосаў, аэрапортаў, радыёвежаў. Вераць, што гэта прыцягне ўвагу транспартных самалётаў з грузамі для іх. Гэтак, як і беларусы імітуюць маштабныя «вучэньні», праводзяць мілітарныя гульні кшталту «Зарніцы» й сьвяткуюць тры разы на год ваенныя сьвяты, спадзеючыся даказаць сваю прыхільнасьць савецкім духам, якія абавязкова наўзамен прышлюць ім шмат грузаў з Расеі, дадуць задарма энэрганосьбіты, тэхналёгіі ды разьбяруць няхітрыя прадукты аграрнае вытворчасьці... Засталося толькі яшчэ раз зазірнуць у гараскопы, знайсьці прагнозы Глобы й як мае быць сустрэць кітайскі новы год, у спадзеве, што Тыгр, Дракон або Певень прынясуць яшчэ болей ільготаў, дабротаў і грузаў. Проста зь неба!

## Бязвольныя не выклікаюць жалю

У альбанскага пісьменьніка Ісмаіла Кадарэ (Ismail Kadare) ёсьць апавяданьне пра турэцкага караваншчыка, які выконвае дзяржаўную замову — вязе з сталіцы на заходнія межы Асманскае імпэрыі незвычайны груз: чорныя накідкі з чадрамі. У гэтыя самыя чадры мусяць быць убраныя жанчыны Грэцыі, Альбаніі, Сэрбіі. Турак-караваншчык, просты шчыры чалавек, вельмі дзівіцца чужым норавам, раскаванасьці ды адкрытасьці балканскіх жанчын. Міжволі сьціплы караваншчык аказаўся праваднікам асманскае культуры, ідэалёгіі... За ягонымі плячыма застаецца колер ночы. За ягонымі плячыма моўкне сьмех. Але... гарэзьлівыя, сьветлыя вочы эўрапеек закідваюць у ягонае сэрца зерне сумневу...

Зьнямелыя народы Балканаў, спыніўшы разьбег уласнае цывілізацыі, страцілі ня толькі сваю дзяржаўнасьць, але і культурную самастойнасьць. Адбыўся глябальны пераварот — з цэнтру ўсходнехрысьціянскага мэсіянізму Балканы ператварыліся ў аб’ект цюркскае акультурацыі.

Антычная Грэцыя пасьля страты ўласных дзяржаўных формаў яшчэ бясконца доўга слала сьвятло свае цывілізацыі ў Эўропу і Азію. Заваёўнікі самі былі паняволеныя элінскаю культурай ды накінулі яе шматлікім народам аж да Аральскага мора і аўганскіх гораў. Высокі кшталт грэцкае скульптуры дайшоў да нас пераважна... у безьлічы рымскіх копіяў, а антычная філязофія зьберагласся... у мудрагелістых арабэсках мусульманскіх перапісцаў... І сёньня любы з колькасьці народ можа прымусіць цэлы сьвет

спажываць прадукт свае культуры, калі ў народу ёсьць воля. Нас можа не абыходзіць ні колькасьць ірляндцаў, ні нават лёс іхнае мовы, але мы чытаем Джойса і слухаем ірляндзкі рок, бо яны паняволілі сьвет. Гэта значыць, што і мы можам зьняволіць сваёй культураю сваіх заваёўнікаў, а можам і заваяваць сьвет, калі толькі нам ня здрадзіць воля.

З часоў позьняга Адраджэньня нацыянальныя культуры, якія калісь былі экспансіяністамі і накідвалі свой кшталт культуры ўсяму вядомаму сьвету, але пачалі дбаць толькі пра кансэрвацыю ўласных здабыткаў, непазьбежна пераўтвараліся ў рэцыпіентаў — спажыўцоў чужых культурных уплываў і на стагодзьдзі сыходзілі з арэны. Напрыклад, Нарвэгія выйшла зь летаргіі толькі ў другой палове мінулага стагодзьдзя, а напачатку нашага ўжо ўвесь сьвет ведаў музыку Грыга, літаратуру Гамсуна, мастацтва Мунка. Іхным памкненьнем найперш было скарыць Эўропу, а ўжо нарвэжцамі ім было наканавана застацца.

Індыкацыя жывой культуры — яе гатовасьць даць сьвету адказы на агульначалавечыя пытаньні. Тады праявы культуры становяцца не падпоркамі мосту, а самім мостам, па якім мы пераходзім у заўтра...

Беларусь за часамі Адраджэньня вяла рэй у славянскім сьвеце. Сымбалем нашае цывілізацыі стала друкаваная кніга. Яскравы прыклад нашае экспансіі — славутая Берасьцейская Біблія, выдадзеная Мікалаем Радзівілам Чорным адмыслова па-польску, каб іскры Рэфармацыі закінуць нашым суседзям на Захад. Лягічным працягам фэерычнае эпохі беларускага кірылічнага друку быў сталы ўплыў на Ўсход, які выявіўся ў самых розных формах культуры: ад разьбы па дрэве і кахлярства да тэатру і вершаскладаньня. Тым шрыфтам, які вырабіў пастар з Слуцку Галяш Капіевіч, дасёньня паслугоўваюцца сэрбы і ўкраінцы, асэтыны й манголы.

Ад часоў каралевы Боны ў XVI стагодзьдзі сама Беларусь стала аб’ектам італьянскай культурнай экспансіі. Па выніках мы атрымалі ня толькі рэформу землекарыстаньня й эўрапейскую ўрбаністычную культуру, але і высокі кшталт дойлідзтва. Беларусь стала цэнтрам барока, апошнім яго фарпостам на краю цывілізацыі. А ўжо на пачатку XVII стагодзьдзя Беларусь рэтрансьлявала гэты стыль, адаптаваны й зьбеларушчаны, у розныя краі. Перанос вонкавага ўплыву далей стаў эфэктнаю ды эфэктыўнаю формаю ўласнай экспансіі.

Беларусізацыя формаў барока і іх экспарт — ці ня самы вялікі ўнёсак Беларусі ў гісторыю сусьветнага мастацтва. Віцебская пара пачатку стагодзьдзя — яшчэ адзін прыклад. Віцебск выправіў у сьвет не беларускае мастацтва, а саміх беларускіх мастакоў. Яны перайшлі мост, які за іхнымі сьпінамі ахутала ноч.

А сёньня мы ізноў гародзім падпоркі, цешымся з пацьвілых паляў, што засталіся ад тых мастоў. Засяроджаныя на самадастатковасьці, на ўнутраным спажываньні, на хатнім ужытку... Ня дзіўная рэч — упэўніваць самога сябе ў сваёй перавазе над астатнімі. Той, хто гэтым займаецца, звычайна носіць на сабе чужую рацыю, як чорную турэцкую чадру.

...Стары караваншчык, герой апавяданьня Кадарэ, спакутаваўся ад сумневаў. Пакрысе ў ім высьпела адчуваньне жалю да тых жанчын, якіх ягоная дзяржава спавіла ў колер жалобы. Праз гэтае неакрэсьленае адчуваньне жалю караваншчык кепска скончыў свой шлях. Выходзіць, ня вартыя жалю тыя, хто ня мае волі, каб сьцьвярджаць сваю перавагу іншым.

## Quelle est votre nationalité?[1]

На Вадохрышча ня ўбіцца ў цэрквы! Чэргі па ваду расьцягваюцца на кілямэтры! А пасьля людзі з плястыкавымі бутэлькамі й балёнікамі штурмуюць транспарт. Няма столькі людзей у сьвятынях ані на Вялікдзень, ані на Раство Хрыстовае. У гэтым і тоіцца сакрэт двудушнага беларускага характару, забабоннасьці й стаўленьня да веры. Беларусы ў сваёй большасьці па-ранейшаму ня вераць у Бога, але хочуць атрымаць на халяву жывое гаючае вады. На ўсялякі выпадак.

Я сачу за праявамі жыцьця. Мне цікавыя таямнічыя памяткі здавёншчыны, што зажылі ў нашым паўсядзённым жыцьці сваім жыцьцём новым.

Беларуская ідэнтычнасьць складаецца з тысячаў характарыстык, гістарычных і натуральных перадумоваў. Але за апошнія гадоў дваццаць беларусы моцна зьмяніліся. А ад беларускае ідэнтычнасьці 1907 году нас аддзяляе ўжо «смуга стагодзьдзяў», што засьціць нам рэальныя ўяўленьні пра нашых дзядоў-прадзедаў ды пра нас жа саміх. Сёньня з нашае новае ідэнтычнасьці выпалі вялікія часткі нацыянальнае традыцыі. Напрыклад, уяўленьні пра прыроду, разам з «народным календаром» і «народнымі прыкметамі». Альбо пра пільную патрэбу ў адукацыі, якой трызьнілі беларусы напачатку XX стагодзьдзя, за якое ж іх ужо пераканалі, што цудоўна можна пражыць і безь яе.

---

[1] «Якой вы нацыянальнасьці?» (фр.).

Нішто не дае гэтулькі спажывы для разваг пра нашую цяперашнюю ідэнтычнасьць, што лепіцца літаральна на нашых вачах, як сьвяты…

Прыкметы этнічнае дыфэрэнцыяцыі амаль заўжды адлюстроўваюць пэўную аб’ектыўную рэальнасьць, часьцей за ўсё элементы духоўнае культуры.
Але гэтае алюстраваньне можа быць адэкватнае альбо не. А часьцяком і несапраўднае. У савецкі час нікому б у галаву не прыйшло «легалізаваць» трасянку й лузэрскую стылістыку. Спачатку гэта стала апраўданым прыёмам для сатырычных скетчаў «Сашы і Сірожы», а цяпер — магістральны кірунак афіцыйнае поп-культуры РБ.

Значнасьць і роля прыкметаў ідэнтычнасьці ва ўспрыманьні людзей з тае ці іншае этнічнае супольнасьці мяняюцца ў залежнасьці ад канкрэтнай гістарычнай сытуацыі. Напрыклад, ад ступені кансалідацыі этнасу, ад ступені яго суб’ектнасьці, ад спэцыфікі этнічнага атачэньня. У часы СССР добра зацьвікавалі ў савецкія галовы міт пра беларусаў-бульбаедаў, якія маюць па-над 1000 страваў з «другога хлеба». Але гледзячы на кардонкі з-пад піццаў, якімі пасьля сьвятаў засьмечаныя двары, я перакананы ў іншым. Цяпер беларусы ўжываюць традыцыйныя стравы, паводле хатніх рэцэптаў, толькі як выключэньне. Беларускімі стравамі сталі макарона, пельмені ды, для маладзёнаў, піццы. Нашыя кухары / гаспадыні ўсё часьцей аддаюць перавагу nouvelle cuisine[1]. А як часта спажываюць, напрыклад, якую банальную колісь бабку з грыбамі ці скваркамі, кожны з нас ведае сам.

Агульнасьць паходжаньня ўсіх адзінак этнасу — гэта таксама прыгожы міт; альбо з адной і той самай тэрыторыяй таксама могуць асацыяваць сябе некалькі

[1] «Новая кухня» (фр.).

народаў. Ня выкрасьліш, як ні хаці, напрыклад, польскасьці з Гарадзеншчыны альбо габрэйскай спадчыны з нашае гарадзкое культуры. А для беларускіх татараў Беларусь — адзіная радзіма. Ведаю багата людзей рознага паходжаньня, што сталіся беларускімі патрыётамі.

Разам з тым, бальшыня нашых традыцыйных элемэнтаў народнай пабытовай культуры за апошнія 30–40 гадоў зьнікла з рэчаіснасьці, перамясьціўшыся ў найлепшым выпадку ў музэі. У непапулярныя музэі. Туды ж перамясіць даўно пара і «вёску», як зьяву, як вялізарны міт XIX — пачатку XX стагодзьдзя. Большасьць нашых паваенных, пасьлячарнобыльскіх, постсавецкіх вёсак пераўтварылася ў «аграгарадкі» задоўга да таго, як гэтае слова знайшлося на языку сёньняшніх прапагандыстаў. Карабы з сылікатнае цэглы й шыфэру, што выстаўленыя ўздоўж асфальтавае дарогі ад шашы да калгаснае фэрмы, з жалезным крыжам на павароце, звараным з стандартных трубаў — нашая ўжо няновая ява. Ад Сапоцкіна да Лельчыцаў!

Этнічная супольнасьць — гэта перадусім агульнасьць уяўленьняў пра якіясь прыкметы, а не сама па сабе рэчаісная культурная апрычонасьць. То бок, можна акрэсьліць, што беларусы — гэта ўстойлівая ў сваім існаваньні група людзей, якая склалася цягам апошніх двух з гакам дзесяцігодзьдзяў; людзі ўсьведамляюць сябе беларусамі на падставе самых розных, часьцяком выпадковых (наяўнасьць калярытнага ПП РБ) прыкметаў, што ўспрымаюцца імі як этнавызначальныя.

## Працэс ідзе

Каму варта паставіць помнік? Калі ўжо казаць, хто найболей паспрыяў стварэньню беларускае нацыі ў XIX стагодзьдзі, то гэта пэўна ж будзе Іван Насовіч, пра якога амаль нічога не было чутно ў савецкі час. А менавіта ж ён, фактычна, і давёў існаваньне апрычонага беларускага народу з уласнаю моваю. Насовіч яшчэ ў 1850 годзе даслаў у Пецярбурскую АН кароткія філялягічныя назіраньні над беларускаю гаворкаю[1], невялікі беларускі слоўнік[2] і зборнік беларускіх прыказак[3]. А ў 1852 ужо выдаў «Беларускія прыказкі і прымаўкі»[4] з тлумачэньнямі. Падрыхтаваў і першы гістарычны слоўнік беларускае мовы[5]. У 1870-м выйшаў ягоны капітальнейшы «Слоўнік беларускай мовы»[6]. У працы зьмешчаныя больш за 30 тысячаў нашых словаў з тлумачэньнямі! Для параўнаньня — слоўнік расейскае мовы твораў А. Пушкіна, у чатырох тамах, зьмяшчае блізу 20 тысячаў словаў. Іван Насовіч памёр у 1877-м, задоўга да XX стагодзьдзя, за 40 з гакам гадоў да абвяшчэньня БНР.

---

[1] Опыт краткого филологического наблюдения о белорусском наречии. Аддзел рукапісаў бібліятэкі Расейскай Акадэміі навук, СПб.

[2] Собрание белорусских слов по алфавиту. Аддзел рукапісаў бібліятэкі Расейскай Акадэміі навук, СПб.

[3] Сборник белорусских пословиц. Аддзел рукапісаў бібліятэкі Расейскай Акадэміі навук, СПб.

[4] Носовичъ, И. И. [у арыгінале памылкова Н. Н.] Белорусскія пословицы и поговорки. СПб, 1852.

[5] Алфавитный указатель старинных слов, извлеченных из «Актов, относящихся к истории Западной России», изданных в 1853 году. Рукапіс завершаны ў 1876 годзе. Захоўваецца ў аддзеле рукапісаў бібліятэкі Расейскай Акадэміі навук, СПб.

[6] Носовичъ, И. И. Словарь белорусскаго наречія. СПб., 1970.

Дзякуючы дзейнасьці такіх асьветнікаў, як Насовіч і Багушэвіч, ужо ў сярэдзіне XIX стагодзьдзя ў этнічнай самасьведамасьці беларусаў адбыліся істотныя зьмены. Паводле перапісу 1897 году, 74% насельніцтва нашага краю лічыла роднаю моваю беларускую.

Да беларусаў сябе адносілі каля 43% саслоўя дваранаў. Роднаю моваю беларускую лічылі 40% чыноўнікаў ды 60% настаўнікаў. Сярод сялянства назва «беларусы» выцесьніла, нарэшце, большасьць лякальных этніконаў. Павыпадалі ўжо тады такія анахранічныя этніконы і палітонімы, як «крывічы», «палешукі», «ліцьвіны» і г. д. Тэрмін «Беларусь» трывала замацаваўся за ўсёй этнічнаю тэрыторыяй Беларусі, ад Беластоку да Смаленску.

Незалежна ад волі аднаго ці некалькіх людзей, беларуская нацыя цяпер ёсьць і будзе. Прынамсі, пакуль будзе адміністрацыйна-тэрытарыяльнае ўтварэньне. Ператварэньне БССР у беларускую нацыянальную дзяржаву, не зважаючы на моцны супраціў і дыялектычныя супярэчнасьці, паспрыяла імклівай кансалідацыі беларускае нацыі.

Выглядае, што працэс кансалідацыі, а разам зь ёю й паступовае гамагенізацыі ды монакультурызацыі ва ўмовах цяперашняга рэжыму — непазьбежныя. Дзяржаўная прапаганда, дзяржаўныя структуры й невядома ўжо якая школа робяць спакваля сваю справу. Пэўна, у іхным ідэале, Беларусь мусіць стаць маналітнаю, як бэтон пастамэнту.

Гэта ня тая Беларусь, якой яе мысьліў Іван Насовіч, і зусім, зусім ня тая, пра якую марыў Францішак Багушэвіч. Але яна ёсьць шмат у чым дзякуючы менавіта ім. Хоць бы помнікі якія ў іхны гонар паставілі б у Менску...

## Патас паразаў

*Самі шмат мы ў праклятай славе той вінаваты,*
*Што ня ўмеем злой долі змагаці.*

Янка Купала

...Значнасьць асьветнай і культурнай работы беларускай інтэлігенцыі ў стварэньні нацыянальнае палітычнае думкі, а затым і дзяржаўнасьці ўсё больш становіцца відавочнаю ў наш час, на пачатку XXI стагодзьдзя. Важкасьць унёску інтэлігенцыі ў стварэньне беларускай нацыі тым больш відавочная, калі зважаць на варункі пачатку XX стагодзьдзя, адкуль ідзе ідэя Беларусі. Але менавіта тады нарадзілася й ідэя пакуты ды паразы.

Так! Нацыя можа будавацца нават на гісторыі паразаў народу. І часам вельмі плённа! Калі пакінуць убаку міты абарыгенных народаў па ўсіх кантынэнтах, якія адно цярпелі пакуты і паразы ад калянізатараў, то застанецца яшчэ багата прыкладаў... Важна толькі, якая гэта параза і як яе паказаць. Бо паразе можа папярэднічаць вялікі супраціў. Гэтак, адным з кампанэнтаў ізраільскага нацыянальнага міту ёсьць памяць аб паразе ў Масадзе — гераічным супраціве зэлётаў вялізарнай, нашмат магутнейшай за іх рымскай арміі. А «Косава поле», страшнае паражэньне, якое стала адпраўным пунктам сэрбскае самасьведамасьці? Або генацыд армянаў у Турцыі ў 1915 годзе — найважнейшая частка армянскага нацыянальнага ідэнтытэту.

Беларуская нацыятворчая міталёгія таксама шмат у чым абапіраецца на гераічны рэзыстанс XIX стагодзьдзя й на боль ад жорсткіх паразаў. Гэтая частка нацыянальнай ідэалёгіі была падхопленая ў савецкі час і трывала ўвайшла ў нашую традыцыю, разам з Кастусём Каліноўскім і апраўданьнем зьняменьня народу з-за крывавай расейскай тыраніі.

Вінцэнт Канстанцы Каліноўскі прыйшоў у наш сьвет у 1838 годзе. І мог бы дажыць, дачакацца 1918-га!

## Траўмы нашыя

...Мы глыбака траўмаваны народ. Мы ня зьведалі сапраўдных трыюмфаў, не зазналі і сапраўдных паразаў. Бо ўсё, што рабілася ў XX стагодзьдзі, зрэшты, як і ў папярэднія, рабілася супраць нашае волі. Дакладней, не зважаючы на нас. Ці тое войны, ці тое Курапаты, ці тое Чарнобыль. Нават нашая незалежнасьць, пра якую крозілі адзінкі, дасталася нам зьнянацку, а не была выпакутаваная намі самімі. І сёньня большасьць ня мае ані волі, ані ўяўленьня пра тое, як і што мяняць у нашым уласным жыцьці, ва ўласнай ужо дзяржаве. Нават пра тое, пра што б хацелася марыць...

На шляху да праўдзівага, а не ілюзорнага загойваньня нашых траўмаў, комплексу пакрыўджаных, пакінутых, пакалечаных, трэба ўрэшце адчуць сябе «як усе».

Важна быць шчырымі з самім сабой, ацэньваючы тое, што адбываецца ў нашым супольным жыцьці сёньня. Калі сёньня на акалічнасьці жыцьця ўплываюць цяжкія ўспаміны, чужыя паводзіны і лад думак, нашыя ўласныя хвараблівыя пачуцьці, што засталіся ў спадчыну зь мінулага, вельмі важна сумленна прызнаць іх існаваньне... Высьвятляючы, якім чынам траўмы паўплывалі на нашае жыцьцё, мы адначасна прыйдзем да разуменьня таго, што вызваленьне — працэс асабісты, індывідуальны і ахоплівае амаль усе сфэры нашага жыцьця, а значыць, ня можа зводзіцца да адной толькі сацыяльнай адаптацыі ці палітычнага ўнармаваньня. Хочаш быць ты такім ці іншым — будзь ім! Май гонар.

## 150 гадоў з бульбаю

З пачаткам XXI стагодзьдзя беларусы пачалі губляць адзін па адным свае колішнія брэнды часоў БССР. Ну што, напрыклад, магло быць больш беларускае за бульбу? «Бульба» мае адзін-два сынонімы і сустракаецца ў кожным беларускім слоўніку. Чаго толькі зь яе не гатуюць беларусы. Ну не «1000 блюд из картофеля», але… Займаючы ў СССР 1% тэрыторыі, Беларусь давала 15% ад сукупнага збору гэтага другога хлеба.

Лягічна было б чакаць, што ў 2010-м, ва Ўсясьветны год бульбы, у Беларусі, на радзіме дзясяткаў гатункаў гэтага нацыянальнага ласунку, мусяць грымець канцэрты, выставы, сэмінары… Ат не! Нават помніку бульбе, у выглядзе залатой сьпіралі лушпіньня, што меўся ўпрыгожыць Паркавую магістраль сталіцы, гэтак і не паставілі. Пэўна ж, не да помнікаў клубневай расьліне ў Менску. У нас жа ўсё сур’ёзнае. Але пакуль бульбашы чухаліся, помнікі бульбе паўсталі па ўсім сьвеце, ад Балівіі да Румыніі. А ў Расеі тымчасам зьбіраюць пад 34 з паловаю мільёны (!) тонаў бульбы (240 кіляграмаў на кожнага з «дорогих россиян»).

Як ні парадаксальна, менавіта самая сур’ёзная ў сьвеце ўлада цяперашняй РБ амаль цалкам ігнаруе культурную й ідэйную спадчыну БССР. За выключэньнем сьцяга, герба і музыкі гімну ўзору 1950-х гадоў, фактычна нічога ў ідэалягічным партфэлі не засталося. Зьніклі магутныя міты пра «рэспубліку-партызанку», пра спрадвечнае змаганьне з панскім прыгнётам і расейскім царызмам; у Белавескай пушчы

замест зуброў пасяліўся нейкі Дзед Мароз, а замест Хатыні гасьцей возяць на атракцыён «лінія Сталіна», бяз дай прычыны адабралі імя ў праспэкту Машэрава... Скінуты за борт увесь культурны багаж, даробак беларускага мастацтва, музыкі й літаратуры за 70 гадоў… Забыліся й на бульбаскі брэнд пра 150 гадоў з бульбаю, пра «1000 страваў з бульбы», што спрабавалі ўвесьці ў «общепит», пра 25 беларускіх гатункаў. Некалі гэта кідаліся ў вочы нашым гасьцям, не-бульбашам. Ня горшы быў брэнд… І шкада ідэі помніку. Прыгожая была ідэя. Чаму за Лукашэнкам гэты брэнд адрынуты? Праўдападобна, пра гэта ва ўладзе ніхто й ня думаў. Як і пра шмат што іншае. Але можна прыпусьціць, што і гэта частка сьвядомай палітыкі выкараненьня колішняе ідэнтычнасьці й усталяваньня іншае. Бо чым, напрыклад, яшчэ растлумачыць, наколькі ціха й незаўважна прайшла 70 гадавіна далучэньня Заходняе Беларусі? А гэта ж акурат адно з самых трывалых савецка-беларускіх клішэ, памяць пра якое зацьвікаваная ў назвах вуліцаў «17 верасьня» ў кожным з заходнебеларускіх райцэнтраў.

## Векапомны верасень

Калі быў малы, з асалодаю разглядаў антырасейскі плякат Цэсьлера і Войчанкі, прысьвечаны Кастрычніцкай рэвалюцыі, на якім дзьвюхгаловы мутант-арол падаў спарахнелым лісьцем на тле пунсовага неба.

Чытаю ў «Дзёньніку» Рушчыца запіс, зроблены вось такім хмарным лістападаўскім днём, у глухім тады куточку на ўскрайку Налібоцкае пушчы, у Багданаве: *«Вядзецца пра стварэньне магутнае Беларускае дзяржавы (...) Бедная Расея! Усе выракаюцца яе з-за гэтых бальшавікоў...»*[1] Тая рэвалюцыя спарадзіла й вялікае мастацтва. Пераканаы — фэномэн Віцебску, узьлёты Шагала, які багаміў тую рэвалюцыйную віхуру да канца дзён, і Малевіча былі б немагчымыя... Зрэшты, як шмат што іншае...

17 верасьня 1939-га. Хочам мы таго ці не, але менавіта ў гэты дзень пачалася Другая сусьветная вайна для Беларусі. Рэальна савецкіх вайскоўцаў віталі сотні тысячаў людзей, якія наіўна верылі ў савецкую шчасьлівую долю альбо былі незадаволеныя польскаю палітыкаю: віталі габрэі, якія атрымалі спадзеў на выжываньне... І тыя зь іх, каго арыштавалі, выслалі альбо хто самахоць выехаў у СССР, тыя і ўратаваліся... У ваколіцах Берасьця і Горадні шчыравалі фашыстоўскія войскі, якія пасьля зладзілі з савецкімі сябрамі супольныя парады. Альтэрнатываю 17 верасьню ў 39-м

---

1 Ruszczyc, Ferdynand. Dziennik. Cz. I, Ku Wilnu 1894—1919. Warszawa, 1994. S. 309—310.

магла быць толькі нацыстоўская акупацыя. Вялікую колькасьць загінулых у Заходняй Беларусі савецкіх вайскоўцаў не ўлічылі ні савецкія, ні беларускія даведнікі ды энцыкляпэдыі, а страты ж польскага боку былі шмат большыя. І з абодвух бакоў загінулі беларусы, сваім жыцьцём заплаціўшы за гэткае злучэньне.

Савецкія ўлады не дазвалялі савецкім людзям свабодна перамяшчацца ў заходнія раёны аж да сьмерці Сталіна, але ўсё адно многія бывалі там нелегальна. Мая бабуля, напрыклад, хадзіла шматкроць пешкам у Мір, каб выменяць рызьзё на харчы. З былой мяжы сышло савецкае войска, пакінуўшы «лінію Сталіна», кашары, камунікацыі, склады. І жыць стала спакайней. Хоць і ненадоўга. То бок, для тысячаў сем’яў у БССР далучэньне мела канкрэтны, відавочны зьмест... Для даваеннага пакаленьня беларусаў гэта, без сумневу, была векапомная падзея. Беларусь набыла свае межы!

Калі паставіцца менавіта так, то напад Нямеччыны ў 1941-м акажацца ўжо паўторам, чарговым фактам, прычына ж пачатку вайны будзе ляжаць і ў савецка-нацыстоўскім хаўрусе. А тады мы мусім памянуць усіх палеглых і бязьвінна рэпрэсаваных — руйнуецца бальшавіцка-эрбэшная карціна сьвету.

Падзеі верасьня 1939-га ў гісторыі нашага мастацтва займаюць вузка акрэсьленае месца. Пасьля хвалі жывапісных і графічных твораў, зробленых да 1941 году, ніхто не вяртаўся да гэтае тэмы ў паваенны час. Нягледзячы на чырвоную дату «17 верасьня» ў беларускіх календарах, пра яе мала хто згадваў. А новае пакаленьне беларусаў няшмат што і ведала...

Пара радкоў у савецкіх падручніках анічога не прасьвятляла. Аднак праўда пра той год вытыркалася ў паўсядзённым беларускім жыцьці. Памятаю, у

кватэры аднаклясьніка я засьпеў госьця — калярытнага дзеда з даўжэзнымі чорна-срэбнымі вусамі, па-ўланску закручанымі ўгору. Стары вайсковы дзедаў фрэнч справакаваў мяне на пытаньне: *«Дзядуля, а вы ваявалі?» — «Вядома! Як і ўсе... Ахоўвалі тэлеграфныя лініі, каб бандыты дратоў не парэзалі». «Якія такія бандыты?»* — запытаўся я. *«Якія? Маскоўскія, халера на іх...»* — быў адказ. Я аслупянеў. Як патлумачыў пазьней аднаклясьнік, ягоны дзед і насамрэч быў уланам у Польскім войску, адседзеў у лягерах, пасьля быў у Іране, Італіі... У маёй галаве менскага вучня ўсе веды з гісторыі БССР паступова ператвараліся ў кашу.

Як ні парываўся я ў школе, а пазьней і ў мастацкай вучэльні намаляваць што-небудзь на гэты сюжэт, настаўнікі мякка, але катэгарычна адгаворвалі. Беларускія ж мастакі, не пасьпяваючы адсачыць чарговы выгін лініі партыі, увогуле адклалі тэму далучэньня Заходняй Беларусі да БССР убок. Створанае перад вайною патанула ў музэйных сховах. Найперш таму, што ў большасьці тых твораў былі выяўленыя Вільня й Беласток, якія па вайне апынуліся за нашымі межамі. Каб не вярэдзіць нацыянальнай сьведамасьці, на іх мусілі забывацца. Польшча стала па вайне братняю краінаю. Згадваць былыя звады было некарэктна. Дый асобы, выяўленыя на тых палотнах, прапалі.

Адзін з найбольш адметных тых твораў — «Сустрэча савецкіх танкістаў у Беластоку. 1939 год» Манасзона, які цяпер у каталёгах завецца сьціплей — «Сустрэча з танкістамі». Шмат людзкіх тыпажоў, якія слухаюць танкіста-балагура. Куток старога гораду. Дахоўка. Брук. Першапачаткова, праўда, мастак пісаў Вільню, але давялося крыху перапісаць і пераназваць, каб выставіць у 40-м у Маскве. На той жа маскоўскай Усесаюзнай выставе «Нашы дасягненьні» было прэзэнтаванае яшчэ адно палатно Манасзона — «Зьнянацку», якое ілюстравала дзейнасьць

партызанаў супраць польскіх жаўнераў. А побач у той экспазыцыі віселі «Народны сход Заходняе Беларусі ў Беластоку» Мадорава, «Беласток — савецкі» Давідовіча і Ціхановіча, «Белапалякі гаспадараць» Рана, «Раззбраеньне польскага атраду» Бжазоўскага, «Арышт савецкіх агітатараў» Андруховіча ды яшчэ тузін палотнаў на падобныя тэматы.

Сярод іх хіба толькі карціна Мазалёва, тады яшчэ зусім маладога мастака, «Горадня. 1939 год», засталася ў аналах беларускага жывапісу. На палатне — гарадзкі пэйзаж. Прыбяры дату — і нічога не застанецца ад верасьнёўскае драмы.

Было на той выставе перад савецка-нямецкаю вайною і багата графічных твораў. Толькі зь Беластоку выстаўляліся тады Краеўскі, Кжэчаноўскі, Малярэвіч ды Тыбер. Але найбольшы посьпех мела сэрыя графіка Гембіцкага, прысьвечаная вайне з Польшчаю. Калі я цяпер гляджу на ягоныя дрэварыты, скажам, на аркуш «Рэжуць драты», дык згадваю міжволі дзеда свайго аднаклясьніка. Таго самага ўлана, які сьцярог тыя драты й трапіў за гэта ў выгнаньне. Туды ж трапіў і мастак Гембіцкі, рэпрэсаваны перад самаю вайною. А дзясяткі палотнаў ды малюнкаў, якія адлюстравалі верасень 39-га, трапілі ў запасьнікі, разам з самою тэмаю...

## Моўная аўтаномія

Адзін зь ясных успамінаў майго дзяцінства — цыганскі табар на менскай вуліцы Пуліхава. Звон падковаў, колаў фурманак і кібітак на бруку, коні, каровы, козы, перагукваньні дзіўных смуглявых людзей. Апошняе, што я запомніў з таго цёплага кастрычніцкага вечара, было тое, што гэтыя непадобныя да нас людзі гаварылі па-беларуску, перасыпаючы нашую мову сваймі словамі.

Значна пазьней я згадаў гэты свой дзіцячы подзіў, калі, падкідаючы нагамі жоўтае лісьце, сьпяшаўся некуды паўз парк імя Горкага. Быў будны дзень, зіхоткі й чысты. У парку бязьлюдна. Ажно зьнянацку мяне паспрабавала перастрэць сівая цыганка. Каб хутчэй адчапіцца, я падкрэсьлена пачаў гаварыць на мове, спадзеючыся, што яна зьбянтэжыцца. Яна ж усьлед адказала мне таксама па-беларуску. Я зьніякавеў і аддаў сваю далонь у яе сухія брунатныя пальцы. *«У мяне няма грошай»,* — ці то сказаў, ці то падумаў. *«Я ведаю...»* — нібы адказала яна. Але ўсё ж паваражыла, трапна прадказаўшы мне пару маіх найбліжэйшых гадоў. Я пайшоў шчасьлівы. Ад таго, што пераадолеў страх. Ад таго, што ўпершыню празь беларускасьць убачыў сваю будучыню.

Цыганы й сёньня, асабліва далей ад вялікіх гарадоў, захавалі нашую мову. Чаму? Бадай, таму, што яны не падпадалі саветызацыі, а таму заўсёды мелі гонар жыць і казаць гэтак, як хочацца. Яны не імкнуліся пазбыцца свайго, а таму й сваю беларушчыну ўспрымалі натуральна, не чытаючы ні газэтаў, ні кніг.

А яшчэ таму, што заўсёды жылі купінамі, не зважаючы на лад, на ўладу, на мяшчанскія прымхі.

Беларуская мова вось ужо колькі дзясяткаў гадоў існуе менавіта як нізка купінаў сярод інакшага, не свайго сьвету. Большая ці меншая, гэта неістотна. Яна можа звацца творчым саюзам, музэем, рэдакцыяй, але перадусім яна існуе аўтаномна. Выйсьце за межы аўтаноміі азначае пераключэньне моўнага тумблера. Беларускі пісьменьнік ушчувае ўнучка: *«Не надо тебе этой игрушки, я тебе и так понакупил».* Вяртаецца да стала і піша для чыіхсьці дзяцей. Па-беларуску. Вядомы выпадак? Альбо мастакі ў майстэрнях: усе суседзі, свае людзі — тут і ёсьць нашая беларушчына. Выйшаў у краму па батон: *«чигирик-чигирик».* Боязь быць незразуметым? Ці нежаданьне падацца няветлівым? Чаго папрасіць, кАВЫ ці кОФА? Непрыемна, сорамна за самога сябе, за свой сорам. Падняўся на колькі прыступак назад, і ты зноў носьбіт мовы. Усё на месцах. Пара-тройка сяброў. Любімыя касэты, кнігі, любімая газэта. Але ж трэба ізноў ісьці ў гэты нязносны, апанаваны чужымі горад. Быў бы цыганом, дык сышоў бы адсюль увогуле.

Такія спробы сысьці былі. Пасесьці гуртом дзе ў Заслаўі, на летніках вакол Менску, ці аж пад Блакітныя азёры. Нехта спрабаваў усё пачаць па-новаму ў Наваградку, іншыя — у Залесьсі (Забродзьдзі, Завосьсі, Загародзьдзі). Каб не дваіцца, не змагацца, не... паддавацца. Вось тут ціха, усе свае. *«А паветра, паветра якое!»* Папрыжыліся... А аднае з добрых раніцаў пачуеш: *«Доброе утро! И в самом деле, хорошо тут у вас!»* Быў бы цыганом, цябе б абміналі.

Самае цяжкое — стаць ня гэткім, як быў учора. Я здолеў нешта ў сябе змагчы, толькі калі пакінуў школу. Паступіў у вучэльню — нібы ўсё новае, нібы новы й я. Каб не зьбівацца з тропу, пятнаццацігадовым, прыпальваў сабе далонь запалкаю. Пакуль будзе

балець — не саступлю. Але вось жа насустрач — былыя аднакашнікі: *«Ты чё, Серёга, в натуре? Или ты для прикола? Ну, ты маньяк!..»* Быў бы цыганом — вышчарыў бы зубы, а то й пугаю...

Пасьля саветаў, калі мова пачала нешта важыць, яна, нібы вада ў паводку, выйшла зь берагоў, шырока разьлілася там, дзе й цяжка было ўявіць — па габінэтах, па пляцах, па трыбунах. Вада, аднак жа, спала. Мова ўвайшла ў сваё звычнае, абвалаванае рэчышча.

Той кшталт культуры й мэдыяў, што быў створаны за апошні тузін гадоў, выглядае ня проста інтэлектуальнаю нікчэмнасьцю, але й прадуктам, непрыдатным для ўжытку ўвогуле. Мне бліжэй моладзевая аўдыторыя, якую добра ведаю. І магу з аплёмбам сьцьвердзіць, што кніг Чаргінца й Скобелева, запісаў Смолавай і Дарафеевай ці яшчэ каго з «заБеларусаў» ніхто не набудзе ў цьвярозым розуме. Яшчэ больш нагадвае сюжэты Кафкі сытуацыя зь «Беларусьфільмам», дзе прадукуюцца вялікія дарагія стужкі, кшталтам «Глубокое течение», «Вам задание» і да т. п., але, напэўна для аднаго адзінага гледача. Ну, а ўзровень тутэйшых каналаў тэлебачаньня даўно стаў прадметаў зьедлівых кпінаў іхных жа працаўнікоў. За цяперашнім ладам стварылася гамагенная карпарацыя, што прадукуе сваю «культуру» і «інфармацыю» з разьлікам на саму сябе. Вось гэта й ёсьць ілюстрацыя таго цывілізацыйнага гета, у якім жывуць яго стваральнікі й натхняльнікі...

Не, лепей ужо я застануся ў меншасьці. Культурнай... Гета — гэта адсутнасьць выбару, перадумова, створаная праз гвалт. У нашым выпадку беларушчына — гэта добраахвотны выбар. Заля зь незамкнёнымі дзьвярыма!

...Каб запрудзіць, разьліць шырока ваду, часам хапае аднаго камля, уваленага ўпоперак плыні гуртом руплівых баброў.

Калі хоць бы ў адзін дзень, разам, не сказаць аніводнага чужога слова, можа, спынілася б звычная плынь, разьлілася б шырэй?

Ці сысьці з СВАЙМІ за небакрай, усьміхаючыся, гледзячы, як ЧУЖЫЯ адганяюць ад нас сваіх дзяцей?.. Каб не пабачыць, як, нібы пасьля таго цыганскага табару, на вуліцу Пуліхава, на нашыя сьляды ляжа бэтон.

# Горад Ночы

## Над сьветлымі водамі Сьвіслачы

...Паводле паданьня, Менская ікона Божае Маці была напісаная самім эвангелістам Лукою. І прыплыла ў Менск супраць плыняў рэк ад Канстантынопалю. Даплыўшы да сутоку Сьвіслачы й Нямігі, спынілася. Тутака яе й знайшлі ды зьмясьцілі ў замкавай царкве. Вельмі сымпатычная легенда. І вельмі менская, па-мойму. Сапраўды, куды ж магло нешта прыплыць супраць плыні?

Усё сваё існаваньне Менск нібы ішоў супраць лёгік, насуперак гістарычнаму наканаваньню. Першая згадка пра яго — ня дата будаўніцтва альбо наданьня якіх прывілеяў. Не! Першы раз ён згадваецца разбураным, зьнішчаным дазваньня кіеўскім войскам. Пасьля Менск мяняўся несупынна, разбураючыся й уваскрасаючы. Напрыканцы XVIII — на пачатку XIX стагодзьдзяў Менск быў ужо цалкам каталіцкі горад, дзе праваслаўных было меней за мусульманаў. Як пісаў яшчэ Сыракомля: *«Сьпічакі й гмахі касьцёлаў, што здалёк кідаюцца ў вочы, надаюць Менску выгляд нашмат большага, чым ёсьць ён насамрэч»*[1]. Два тузіны рыма-каталіцкіх і вуніяцкіх кляштараў, зь вялікімі бібліятэкамі, выдатнымі зборамі мастацтваў, школамі ды шпіталямі, вызначаў твар гораду. У тым Менску былі выдатныя кнігарні, што маглі задаволіць самы запатрабавальны густ, былі свае друкарні, клюбы, тэатар і літарацкая

---

[1] Сыракомля, Уладзіслаў. Добрыя весьці: паэзія, проза, крытыка. Мінск: Мастацкая літаратура, 1993. С. 323.

кавярня ў Верхнім Месьце. Большасьць менчукоў пісала, дый гаварыла, бадай, па-польску... Пасьля ўсё зьмянілася яшчэ раз, і яшчэ, і яшчэ...

Несупынна мяняючы свае ўборы, мовы й нават антрапалёгію сваіх жыхароў, Менск увесь час выглядаў то ненатуральна вялікім, то недарэчна малым... Праблема сёньня ня ў тым, чым ёсьць гэты горад для самых менчукоў. Праблема ў тым, чым ён ёсьць для астатняй Беларусі.

## Танк

Кожнага дня цяпер мінаю вуліцу Танка.

Танк... Зусім чужое слова. Хто б у часы тае «Нашае Долі» ведаў такое слова? І слова гэтае прышчапілася канчаткова ў Беларусі толькі пасьля апошняй вайны. Менавіта «прышчапілася». Бо «прышчэпку» тую зрабілі гвалтоўна-адміністрацыйна, на тапанімічным узроўні. Які беларус зь Берасьцейшчыны мог сумнявацца, як назваць тыя машыны й тых жаўнераў, якія імі кіруюць, але пасьля таго, як ва ўсіх райцэнтрах зьявіліся вуліцы Танкістаў, сумнявацца ўжо не выпадала. Пры тым, забаўная акалічнасьць, гэткія назвы пачалі ўводзіць менавіта з Захаду на Ўсход. Відаць, заходнім беларусам гэткі давер мусіў бы імпанаваць, разважалі, бадай, у Маскве.

У Менску назоў «Танкісцкі» блукаў. У свой час гэткім найменьнем пазначаліся розныя вуліцы. Але па вайне яны прыпадалі кожнага разу на тыя кварталы, што пазьней зносіліся, паводле няўмольнае менскае лёгікі. Думалася ў свой час назваць Танкавай тую вуліцу, што вяла да ЦК КПБ. Раней яна была Падгорная — і слушна. Бо ў літаральным сэнсе адцінак цяперашняе вуліцы, што ідзе ад парку імя Горкага, уздымаецца пад гару. Вось тут дасёньня й стаіць менскі Танк. Той нібы самы, на якім экіпаж малодшага лейтэнанта Фролікава а 23-й гадзіне 3 ліпеня 44-га ўехаў у Менск. Памятаю, зь яго заўсёды сьмяяліся менскія інтэлігенты. Дзе й хто стаяў з сэкундамерам, каб упэўніцца, што менавіта гэтая машына першая ўварвалася ў нямецкі Менск? Тым ня менш, у 1952-м годзе вырашылі зьнесьці

ўнікальны помнік XVIII стагодзьдзя, былы (за царскім часам) земскі музэй. А на ягоным месцы паставілі танк. Адразу ж гэты аб’ект набрыняў усялякімі паданьнямі. Нібы там начуюць бамжы, нібы дзеці там гуляюць у «вайнушку» і гэтак далей... Зрэшты й сёньня мала хто з жыхароў вуліцы Фролікава ведае, чым ён быў такім.

Стаіць сабе і стаіць. Вырасьлі дрэвы, танк прапаў з пэрспэктывы старадаўняе вуліцы й нічога цяпер нікому не гаворыць. У энцыкляпэдыях напісана, што ён нібы на гранітным пастамэнце. Гэта лухта! Пастамэнт та́ньненькі, з друзу й бэтону, таму недзе раз на пяць гадоў танюсенькія пліткі з штучнага граніту, якімі ён абкладзены, мяняюць. А яны ўсё лупяцца ды лупяцца.

Пасьля на гэтай вуліцы, зруйнаваўшы з тузін старых дамоў, што, як кажуць, «не ўяўлялі сабою каштоўнасьці», паставілі новы вялікі дом, які ў народзе менскім завецца «ступенямі». І засялілі яго зусім не шараговыя менчукі. Сярод іншых, паводле зьбегу акалічнасьцяў, тут пасяліўся й Максім Танк.

Зрэшты, паэт тут жыў чамусьці нядоўга. Напачатку 80-х ён пераехаў у іншы дом, што на вуліцы Кульман. І той характэрны — яго менчукі здавён завуць «далярам», з-за выгінастае пляніроўкі. Гэта вельмі камфортны быў у свой час дом. Тут жылі міністры, іхныя намесьнікі ды іншая публіка. Харо-ш-ш-ы дом! Нават вуліца перад ім пешаходная, зь вербамі. Можна зь немаўляткам пагуляць.

Але ня гэтую вуліцу назвалі імем Максіма Танка. А перайменавалі былую, старую, паваенную вуліцу Танкавую, куды й насамрэч прарваліся ў першыя гадзіны ліпеня 44-га савецкія танкі праз магутную лінію нямецкіх дотаў. Між іншага, адзін з тых дотаў ацалеў, каля гатэлю «Плянэта»... Вось зараз напісаў і... нібы «настучаў». Скажу, а заўтра яго наўмысна зьнясуць. Зрэшты, я пра вуліцу Танкавую, якой цяпер

у Менску няма. Дом, што пачалі на ёй будаваць перад Алімпіядаю-80 у Маскве, цяпер на менскім жаргоне завуць «Брэсцкая крэпасьць». І праўда, дом бясконцы. Каб была беларуская кніга рэкордаў, то быў бы ў ёй як самы даўгі. Там быў прапісаны й народны пісьменьнік Васіль Быкаў, тамака ж майстэрні беларускіх мастакоў і мастацтвазнаўцаў найноўшага часу. Але што пэўна, Максім Танк ня меў аніякага дачыненьня да гэтае «крэпасьці» й да гэтае вуліцы... Як і да дэбільнае спаруды на плошчы Незалежнасьці, што завецца Пэдагагічным унівэрсытэтам... Колісь, перад тады невялікім тым будынкам, зь бюстамі клясыкаў на фасадзе, за Хрушчовым высаджвалі пальмы. А сёньня імя паэта нададзенае бэтонна-шкляной пачвары, што замыкае праспэкт колісь Сталіна, Леніна, Францішка Скарыны, а цяпер Незалежнасьці...
Пры чым тут Максім Танк? А дом на вуліцы Кульман? А што такое ці хто такі Кульман? Ці гэта не выбітны нямецкі паэт Квірын Кульман (Quirinus Kuhlmann), якога закатавалі дзікія маскалі ў 1689 годзе? Не.

## Менск пад Месяцам

1

Менск пад Месяцам — зусім іншы, чым удзень. Гэта горад шэптаў і шоргатаў, таямніцаў і тугі, зданяў і здарэньняў. Хіба самае цікавае, па-чалавечы, тут здараецца менавіта ўночы.

Калі сядзіш перад Купалінкамі, што быў стварыўшы Анікейчык сорак гадоў таму, сочыш, як ля самай тваёй галавы шнуруюць кажаны, ловячы ледзь чутна нябачных табе ў змроку ночы хрушчоў, разумееш, што гэта і ёсьць твой горад. Тут, дзе да вайны былі старыя дамы, а цяпер, у шатах ужо старых ліпаў, блукаюць забытыя цені забытых душаў. І што яшчэ можа быць больш вымоўнаю мэтафараю ночы, чым дзяўчыны, якія пускаюць купальскія вянкі ў зіхоткі атвор фантану?..

Сярод ночы Менск становіцца сам сабою. Ён пахне сьвежым хлебам зь пякарняў, што ні на хвіліну не спыняюць сваёй працы, ветрам з палёў і чорных лясоў, што ўсё далей адыходзяць ад гораду. Ён пахне вадою рэк, што зьбягаюць адсюль да Чорнага мора. Толькі ўначы можна ўбачыць усё хараство найважнейшае менскае артэрыі — Сьвіслачы, на якую нанізаны ўвесь астатні сьвет гэтага гораду. Яе цяжкія воды, у якіх жыве безьліч нябачных арганізмаў, у водбліскаx лятарняў і фараў зіхцяць, як цела адной вялікай істоты, што ляніва люляе невысокія пустэльныя берагі.

Хіба самым складаным для архітэктараў ёсьць стварэньне плошчы. У сьвеце ня так ужо й шмат

плошчаў, вартых агульнае ўвагі. Колькі плошчаў ведаеце вы? Рымскія плошчы Гішпаніі, на Капітоліюме, ці Навона — недараўнальныя. А вартых увагі плошчаў у Беларусі — вобмаль. Каб яны былі ўрачыстымі без фанабэрыі ды ўтульнымі безь цеснаты. Пра наяўнасьць у Менску Юбілейнай плошчы, названай у гонар царкоўнага Нікейскага сабору, ці пра плошчу 8 Сакавіка альбо Парыскай камуны ведаюць адно старажылы. Да непазнавальнасьці зьмяніліся старыя менскія плошчы: Цэнтральная, Круглая, Свабоды… Усё панявечылі за апошнія гады. А пра плошчу Францішка Багушэвіча ўвогуле ніхто не здагадваецца… Уладыслаў Сыракомля гэтак пісаў пра менскія плошчы ў 1857 годзе: *«…Новы горад, які многія гады быў звычайным гандлёвым месцам, разбудаваўся прыгожымі плошчамі і гмахамі важнага значэньня. Рынак Новага гораду, гандлёвае месца і бульвар (для шпацыраў), у абсадзе маладых дрэваў, атачаюць прыгожыя мураваныя камяніцы: дамы купцоў Гольдберга і Ансэльрода, узьведзеныя паводле пляну архітэктара Хрышчановіча; лютэранскі касьцёл, вымураваны ў 1844 годзе; дом мешчаніна Ліпінскага; дом графа Тызенгаўза, у якім цяпер паштамт, і некалькі іншых»*[1].

Раней, калі на Цэнтральнай, альбо з 1977 году — Кастрычніцкай, плошчы ляжаў ільсьняны лябрадоравы брук, а большую яе частку займаў парк з шурпатых вязаў ды падстрыжаных кустоў, тут было ўтульна й сьветла. У суплёце вулак і завулкаў Верхняга гораду бруіла густое чалавечае жыцьцё. А вось аўтамабіляў было вобмаль. Лёгка было ўявіць, у якім такім дворыку вырас Станіслаў Манюшка.

Па выходных гурмы дзяцей запаўнялі тут вуліцу Энгельса й прылеглыя двары. Дзятва імкнулася да

---

[1] Сыракомля, Уладзіслаў. Добрыя весьці: паэзія, проза, крытыка. Мінск: Мастацкая літаратура, 1993. С. 327.

кінатэатру «Піянэр» і да ТЮГу. А дарослыя з дарослым выглядам ішлі ў кінатэатар «Новости дня». Дарэчы, старасьвецкіх і, трэба зазначыць, вельмі дагледжаных дамоў на Энгельса й Кірава было куды больш. Таму вуліцы выглядалі па-чалавечы, сумаштабна. Цяпер гэта толькі ваколіцы гмаху былога ЦК КПБ, дзе пануе першы і апошні мажнаўладца. А ў выходныя дні тут зусім пуста. І толькі начное сутоньне, што пераліваецца ў фантан, зроблены на ўзор Лёрэнца Бэрніні (Lorenzo Bernini), сьцеражэ памяць пра нешта большае, што адбывалася тут. Уночы тут утульна і зацішна. Адсюль, як з схову, можна назіраць за вялізарным горадам, што разьлёгся вакол на шмат кілямэтраў.

Некалі я выходзіў у Менску з вакзалу на вялізарную плошчу, што маціцова зіхцела антрацытавым бляскам чорнага бруку. У гадзіньнік на вежы ўтыркаўся слуп пражэктарнага сьвятла. А над яе блізьнючкаю, вежаю з гербам, вісела плятынавая поўня. Мой Менск — панятак зьменлівы й рухомы... Зоркі рэдкіх лямпачак уначы, між суплётаў гальля, указвалі дарогу людзям. Россып зораў у небе брукаваў дарогу птушкам.

Менск адпавядаў сам сабе. Прасторныя плошчы, вывераныя, у цішы майстэрняў і габінэтаў, пэрспэктывы вуліцаў. Вывераная, прадугледжаная начная ціша... Сёньня ж тут проста транспартны вузел. Вежы сталі меншыя — праз суседзтва з бэтонным хаосам, што ўтварыўся тут за апошнія дваццаць гадоў. Брук закачалі, зрабілі стаянкі, паркоўкі, парэзалі ўсе лініі колішніх пэрспэктываў.

Архітэктура — самая выяўная, бачная частка нацыянальнае самасьці, ідэнтычнасьці. Яна не вымагае адмысловае адукацыі, каб успрымаць яе найбольш важныя характарыстыкі. Бальшыня людзей беспамылкова вызначыць асаблівасьці таго ці іншага будынку.

Архітэктура — гэта наш сьвет. Можна выключыць тэлевізар, выйсьці з глядзельнай залі, закрыць кнігу… Але архітэктура атачае нас паўсюль. З таго часу, як мы сталі людзьмі, мы будуем свой Дом — культуру. Невыпадкова панятак адзінства і мэтазгоднасьці сьветабудовы ўвасоблены ў грэцкім слове *οἶκος*, «дом». Сюды ж уваходзяць заняткі, забабоны, звычаі ды звычкі, усё, што вартае называцца культураю ў шырокім сэнсе, улучна з архітэктураю. Бо акурат яна, архітэктура, разам з мастацтвам і рэлігіяй вылучае нас зь іншых жывых стварэньняў. Мы можам не валодаць тэхналёгіямі генэтыкаў ці досьведам этолягаў, але мы беспамылкова адрозьнім стварэньне чалавечых рук.

Зь першасных буданоў і зямлянак чалавек імкнуўся да дасканаласьці свайго будаваньня,
як вобразу сусьвету. Як аснова самаідэнтыфікацыі горадабудаўнічы асяродак у стабільным грамадзтве абапіраецца на аднаўленьне базавых каштоўнасьцяў, устойлівых стэрэатыпаў, іншых элемэнтаў, перадвызначаных традыцыяй культурнага разьвіцьця…

Агульны сымбалічны асяродак архітэктуры злучае мноства культурных утварэньняў, што складаюць народ Беларусі — тракт, вуліца, пляц, ратуша, царква, касьцёл, сынагога, могілкі… Зразумелая ўсім і агульнапрызнаная як сыстэма сымбаляў, архітэктура выступала нарматыўным рэгулятарам паводзінаў і спрыяла культурнай кансалідацыі.

Гісторыя нашае архітэктуры — гэта гісторыя нашых вобразаў сусьвету, нашага разуменьня свайго месца між сьветам натуральным і сьветам Боскім. Сымбалізм нашага дойлідзтва быў ясны і зразумелы, як супрацьстаўленьне зямнога і нябеснага. Бадай, як ні ў воднага іншага народу Эўропы, нашыя шараговыя, жылыя й гаспадарчыя, будынкі не адрозьніваліся настолькі недасяжна, непераадольна, непараўнальна ад будынкаў сакральных. Гэтак відавочная гэтая

бездань у Будславе, і ў Юравічах, і ў Глыбокім, і безьліч дзе яшчэ… Архітэктура Менску зараз зьнямела, яна ня мае сваёй мовы.

2

Для суб’екту, асобнага чалавека ці сацыяльнай або рэлігійнай супольнасьці, страта архітэктурнага сымбалю ідэнтычнасьці азначае страту культурнага арыенціру, а ў шэрагу выпадкаў маргіналізацыю й выпаданьне суб’екту з культурнага й сацыяльнага поля. Страта ж адзінай, супольнай ідэнтычнасьці грамадзтва як цэласнага ўтварэньня фрагмэнтуе яго, становіцца вынікам, альбо й прычынаю, расколу сацыякультурнае прасторы.

У сучасным Менску самае прыкрае — адсутнасьць значнасьці. Яна, нязначнасьць, зьнясільвае. Адчуваньне значнасьці дадаецца архітэктуры часам, падзеямі, што зьнітаваныя менавіта з канкрэтнай адраснасьцю. Гэта людзкія лёсы альбо мастацкія ці літаратурныя тэмы, што нараджаліся ў пэўных сьценах. Але значнасьць можа праграмавацца ўжо пры будаўніцтве, самімі дойлідамі. Ці грамадзтвам, што запатрабуе гэткай значнасьці, дзеля сьцьвержаньня сваіх ідэалаў або памкненьняў. А што рабіць, калі ідэалаў ужо няма, а пра памкненьні яшчэ не задумаліся?..

Мы пазнаем прызначэньне такіх будынкаў па іхных формах. Пазнавальнасьць — адна з найважнейшых якасьцяў архітэктуры, дзякуючы чаму мы арыентуемся, адрозьніваючы шпіталь ад банку, вакзал ад палацу. Але ў Менску палацавыя інтэр’еры зарылі ў зямлю мэтрапалітэну, а палацы выглядаюць прамысловымі аб’ектамі, вакзалы ж — як крытыя рынкі, і наадварот. Уначы, у зіхценьні таннага шчасьця галоўнага праспэкту ці ў беспраглядным сутоньні чорных двароў, мы

ў Менску зусім ня маем пэўнасьці ў сутнасьці й прызначэньні ўсяго, што нас тут атачае...

Апроч прызначэньня будынку мы ж мусілі б адчуваць таксама й жыцьцёвую прастору, уваход, пад’езд, лесьвічную пляцоўку… Наш позірк у Менску часьцей не фіксуецца на ўзроўні чалавечага вока. Першыя паверхі вуліцаў насамрэч успрымаюцца з пакаёвага гледзішча. Адпаведна, яны мусяць быць дэталізаваныя, мадуляваныя, цікавыя па-чалавечы: дзьвярныя клямкі, парэнчы, кветкі, вокны з ваканіцамі, дзьверы як візытоўкі… Мы ж ходзім штодзень міма акурат такіх першых і цокальных паверхаў, адчуваючы іх усёй сваёй існасьцю, бо глядзім на гэта ўсё ва ўпор, як у сьцены ўласных кватэраў. Вырасьлі пакаленьні, для якіх гэта ўжо няважна. Як і шмат чаго іншага ў жыцьці…

Менск, як і ўся Беларусь, яшчэ ніколі ня нёс такіх стратаў сваёй гісторыка-культурнай тоеснасьці, якія ён перажывае цягам апошніх гадоў — менавіта ўлетку 2005 году з будаўніцтва камэрцыйных комплексаў рынкавага тыпу на Нямізе пачалася тая хваля неабгрунтаванай будаўнічай інтэрвэнцыі ў гістарычную тканку тысячагадовага гораду, якую мы назіраем сёньня.

Падобнае мела месца да сярэдзіны 70-х, але нават тады, пасьля зносу старажытнай Нямігі, кіраўніцтву БССР хапіла розуму прыслухацца да меркаваньняў спэцыялістаў і, нягледзячы на ўжо вынесены прысуд Верхняму Гораду на поўнае зьнішчэньне, пачаць фрагмэнтарна выконваць заканадаўства ў галіне аховы спадчыны. У выніку мы маем унікальны ансамбль. Пакуль маем. Чаму ў Менску нельга заваліць якую пачварную спарудзіну-скрыню з сылікатнае цэглы й панэляў, а вось атрымаць дазвол на зьнішчэньне ў сто разоў больш каштоўнага помніку старасьвеччыны можна? Менавіта з-за таго, што бальшыня (!) людзей, ня кажучы пра чыноўнікаў, цяпер у Менску ня бачаць

увогуле нічога, вартага захаваньня, шанаваньня, ашчаджэньня...

Дэтэктыўным сюжэтам стала далейшае будаўніцтва ў гістарычных ахоўных зонах Менску. У гэтым сюжэце ёсьць усё: ад дэзынфармацыі дзяржаўных наглядных органаў і эквілібрыстыкі з матывацыйнымі інтэнцыямі, з падробкаю праектных матэрыялаў да звычайнай непрыхаванай карупцыі. Не сумняваюся, што ўсе кропкі над «і» тут будуць з часам пастаўленыя, бо далейшае выкананьне дзяржаваю сваіх абавязкаў у дачыненьні гісторыка-культурнай спадчыны ў адваротным выпадку будзе папросту заблякаванае...

Але настолькі бязьмежнага ігнараваньня ўласнага заканадаўства, як сёньня, яшчэ не назіралася ніколі. І ніколі яшчэ гісторыка-культурны масіў эўрапейскай краіны ня меў настолькі маштабных стратаў, калі без навуковай фіксацыі ды вывучэньня нішчацца ня толькі помнікі разам з культурным пластом, але і падважваецца сама мажлівасьць у далейшым навукова абгрунтаванай рэгенэрацыі гістарычных тэрыторыяў.

3

А паркі, славутыя менскія паркі, якімі мы ганарыліся й у якіх выраслі, сёньня зьнікаюць, выміраюць нягучна. У гады майго дзяцінства ў парку Горкага праводзіліся конкурсы дзіцячых малюнкаў на асфальце. Гэта было прыгожае відовішча: пярэстыя карцінкі, намаляваныя каляровую крэйдаю. На шэрым асфальце яны трывалі некалькі дзён. Праходзячы міма, я імкнуўся не наступіць. Але дажджы й вецер рабілі сваё.

Гледзячы на кубамэтры бэтону й асфальту, ня верыцца сёньня, што гэты парк — адзін з самых старых у Беларусі, і яму больш за 200 гадоў. І ўжо паўтара стагодзьдзя таму ён быў візытоўкаю Менску. *«Найперш*

*кідаюцца ў вочы гаі й прысады велізарнага гарадзкога саду...»*[1] — пісаў у 50-я гады XIX стагодзьдзя Павал Шпілеўскі. Усьлед за ім гарадзкому, ці, як яго тады называлі, губэрнатарскаму, саду, прысьвяцілі нямала дыфірамбаў Сыракомля й Гаўсман.

Парк у 90-я гады XVIII стагодзьдзя заклаў губэрнатар Захар Карнееў, які быў масонам і лічыўся лібэралам. На ягоны гонар пры першым дрэўцы, якое Карнееў пасадзіў сваймі рукамі, калегі-масоны паставілі своеасаблівы помнік — конусападобную калёну з лацінскім надпісам: *«Сад гэты пасаджаны й разьведзены рупнасьцю і ўпартасьцю менскага губэрнатара Карнеева».* Крыху пазьней, у сярэдзіне XIX стагодзьдзя, пасярэдзіне парку паставілі яшчэ адну калёну, з патэтычным надпісам па-лацінску «Post laborem requies»[2]... Сам сад Шпілеўскі апісваў так: *«Пачынаючы з траўня, сад напаўняецца ледзь ня штодзень амаль усім горадам: па вечарах у ім грае музыка, а па высокаўрачыстых днях бывае ілюмінацыя й калі-нікалі фэервэрк. Перад садам бярозавы гай, аддзелены ад цэнтру Сьвіслаччу, якая апярэзвае сабою астатнюю прастору саду, і, пры злучэньні зь невялікаю пратокай зь левага боку, утварае прыгожую паўвыспу. Бярозавы гай гэткі густы, што скрозь гушчар сваёй зеляніны амаль ніколі не прапускае сонечных прамянёў.*
*Ён увесь перасечаны сьцежкамі й прысадкамі, якія прымыкаюць да ракі, на беразе якое стаіць дамок, пабудаваны Сямёнавым, дзе ён жыў улетку»*[3].

Сямёнаў — яшчэ адзін зь менскіх губэрнатараў, які таксама праславіўся добрымі справамі ў беларускай сталіцы. Былы дзекабрыст, ён быў ініцыятарам збору

1 Шпилевский, П. М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. Мн.: Полымя, 1992. С. 131.
2 «Пасьля працы — адпачынак» (лац.).
3 Шпилевский, П. М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю... С. 151—152.

дакумэнтаў, якія тычыліся нашае гісторыі. Ён стварыў у Менску першую публічную бібліятэку й рэканструяваў гарадзкі тэатар. Што да ягонага дамка — дык ён застаўся толькі на малюнку. Традыцыя ладзіць у парку панскія сядзібы скончылася на Якубу Коласу, якому перад вайною падарылі цагляны дом на гары, што стаіць і сёньня. Купала ж ад гэткага прэзэнту адмовіўся. Але менавіта Купалу ў парку быў пастаўлены бюсьцік. Ён стаяў ахайна на курганку, акурат пасярод паляны. Але ў скульптара, які зрабіў гэты бюст яшчэ пры жыцьці паэта, было прозьвішча Раберман. І калі брат скульптара зьехаў у Ізраіль, бюст прыбралі.
А калі зьехаў і сам скульптар, дык бюст той паставілі ў Вязынцы.

Шпілеўскі падрабязна апісаў і іншыя цікавінкі парку: *«...Каля дамка ёсьць штучная горка, званая, немаведама чаму, Усьціньняй, злучаная мастком над маленькім каналам з курганом, зрэзаным сьпіральнымі сьцежкамі, абапал якіх кветнікі. Б’е тут крыніца з жалезістымі водамі, аточаная агароджаю. За мастком некалькі маленькіх палісаднікаў, за якімі ўжо перакінуты цераз Сьвіслач прыгожы пантонны мост з лавамі. Наўпрост ідуць вельмі шырокія прысады, у засені цяністых вязаў, клёнаў, ліпаў, каштанаў. На рагу іхным зладжаныя драўляныя падмосткі для музыкаў... Налева ад яловых прысадаў — шыкоўны таполевы гаёк, у глыбіні якога знаходзіцца драўляны павільён... З-пад кораню алешыны прабіваецца чыстая, як крышталь, крыніца зь серністымі водамі... Шмат хто зь мясцовых жыхароў ходзіць сюды раніцай і п’юць па некалькі шклянак вады...»*[1]

Адным словам, быў папулярны культурны курорт з жывою музыкаю. Рэшткі той агароджы вакол лячэбнае

[1] Шпилевский, П. М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю... С. 152.

крыніцы я памятаю зь дзяцінства. Памятаю таксама драўляныя павільёны. У адным зь іх гулялі ў шахматы, у іншым быў цір.

Але з году ў год у старасьвецкім парку станавілася ўсё больш бэтону й асфальту. Калі дызайнэр Цьвінгель зрабіў новыя масткі з каванкаю й некалькі фантанчыкаў, выкладзеных бітай пярэстай пліткаю, гэта ня выклікала пярэчаньня. Але ўсьлед зьявіліся новыя павільёны, бэтонныя эстрады і... нарэшце, палац зімовага спорту паводле праекту Грыгор’ева. У дадатак на месца колішняга зялёнага лужка, дзе бавілася дзятва з мамкамі, навезьлі паламаных бэтонных трубаў і прысыпалі жвірам... І чым больш станавілася бэтону, тым менш функцыянальны рабіўся парк. Фантаны пасохлі, нават самы стары, на гары, што з каменнымі жабамі, якіх зьвезьлі ад «Хлопчыка зь лебедзем». Жабы, дарэчы, 1874 году.

Пасохлі пітныя фантанчыкі Цьвінгеля. Ссох фантанчык ля вадаспаду. Бэтонныя эстрады палушчыліся, і ў пустых павільёнах месьцяцца нейкія склады. У бэтоннай спарудзе Грыгор’ева пасьля пяцігадовае рэстаўрацыі гуляе ў хакей Лукашэнка. А па цёмных начных прысадах бадзяюцца чыесьці сабакі. І ня ладзяць больш конкурсаў крэйдавых малюнкаў на асфальце, у адным зь якіх, зусім малы, перамог і я…

Для асобнага чалавека ці сацыяльнае супольнасьці страта станоўчае ідэнтычнасьці азначае страту культурнага арыенціра, у шэрагу выпадкаў маргіналізацыю і выпадзеньне дадзенага суб’екту з поля сацыякультурных узаемадзеяньняў. Страта адзінай ідэнтычнасьці грамадзтва як цэласнага ўтварэньня павышае яго фрагмэнтацыю, спрыяе анэміі, расколу сацыякультурнае прасторы.

4

Назавем рэчы сваймі імёнамі: адбываецца злачынства. У якую бавоўну б не спрабавалі ўгарнуць гэтае злачынства чыноўнікі. Менск рызыкуе ўвайсьці ў гісторыю як сталіца, што страціла 95% сваёй аўтэнтычнай мураванай спадчыны без вайны. І адзінае, чым застанецца займацца будучым пакаленьням рэстаўратараў краіны, гэта навуковаабгрунтавана рэгенэраваць гістарычную плянавальную структуру каштоўнасьці.

Далейшае горадабудаўнічае разьвіцьцё плянавальнага ядра Менску гэтак ці іначай прывядзе да перагляду сучаснай штучнай хаатычнай мадэлі «асваеньня» гарадзкога цэнтру, якая замест вываду зь яго неўласьцівых транспартных плыняў менавіта тут іх канцэнтруе.

Гісторыя пра пляны зносу былой Нацыянальнай бібліятэкі надзвычай павучальная. Грамадзтва столькі гадоў верыла «мінкультуры», што зьнесьці помнік і «аднавіць» яго з новых матэрыялаў не ўяўляе праблемы, што чынавенская зьмяя, урэшце, укусіла сябе саму за ўласны савецкі хвост. Ці нехта насамрэч усур’ёз будзе спрачацца, што канструктывісцкая «ленінка» ёсьць помнікам менш вартым за тысячагадовы Верхні горад?

Для мноства культурных утварэньняў, што складаюць грамадзтва, аб’яднаўчым пачаткам выступае агульны сымбалічны асяродак. Зразумелая ўсім і агульнапрызнаная сыстэма сымбаляў, выступаючы нарматыўна-вартасьцевым рэгуляратарам паводзінаў, спрыяе культурнае кансалідацыі ў межах пэўных сацыяльных супольнасьцяў — як падмурак самаідэнтыфікацыі. Альбо яе адсутнасьці. Гэта ясна бачна на прыкладзе стаўленьня да мэмарыялаў і

манумэнтаў. Па-ранейшаму бальшыня тых, хто жыве ў Менску, ня ведае, дзе такая «Яма», а дзеці, стукаючы па бронзавай галаве чалавека на лаве ў парку Горкага, не здагадваюцца, што гэта вялікі пралетарскі пісьменьнік. Колькі разоў даводзілася тлумачыць, хто такі Гарэцкі, што карузьлікам прысеў у нішы старасьвецкага дому, ці хто такі Драздовіч, які шпарка выйшаў з крамы ў Траецкім…

Бальшыня беларусаў гэтак і не зразумела, што ж адбылося з помнікам Багдановічу, што ўжо быў прастаяўшы 30 гадоў на ўласным месцы, а потым зьбег уначы ў іншы, цёмны кут прысадаў Опэры… І ўсё менш разумею тут я. Хіба толькі на зьбегу дня, калі паветра чысьцее, калі не чуваць тлуму й не відно немаведамага прызначэньня пэрсанажаў, мой, мой любімы стары горад, заліты халодным сьвятлом Месяца, сумна й мудра ўсьміхаецца мне на ўсю шырыню каламутнае Сьвіслачы.

## Помнік К. Т.

Калі ў 1970-я гады нас, школьнікаў, вадзілі ў Купалаўскі парк, то перад славутым фантанам «Купалінкі» нашыя настаўніцы сарамліва хіхікалі. Дзяцей, вядома, вабілі пырскі вады, а ня бронзавыя выявы аголеных дзяўчат. А настаўніцы, можа, першы раз у жыцьці атрымлівалі ўрок чыстае эстэтыкі. Таму й хіхікалі зь незвычайнага для савецкага мастацтва сюжэту. Помнік самому Купалу, створаны ў 1974 годзе скульптарам Анікейчыкам у суаўтарстве з Гумілеўскім і Засьпіцкім, на той час мала запомніўся. Ды і тагачасная крытыка млява адрэагавала на ягонае зьяўленьне. Менавіта «Купалінкі» — першае савецкае манумэнтальнае «ню» — сталі візытоўкаю беларускае плястыкі 70-х гадоў...

Купала ж выйшаў няўцямны. Адкуль відаць, што гэта паэт? З расхінутага крысься шыняля? Ці з кія ў руцэ? Брутальнасьць стылістыкі пазбаўляе вобраз нават намёку на рамантыку. Гэта мог быць помнік і старшыні калгасу, які ўзіраецца ў свае палеткі...

Не паддаюцца беларускім скульптарам вобразы дзеячаў нацыянальнае культуры. Падобную да Анікейчыкавай кампазыцыю абраў скульптар Голубеў, робячы помнік Язэпу Драздовічу. Шырокая хада, кій у руцэ... Добра што яшчэ помнік падпісалі: «Язэп Драздовіч. Беларускі мастак», а то ніхто б не зразумеў, навошта яго, маленькага, паставілі перад дзьвярыма парцалянавае крамы. Дзеля рэклямы хіба што?..

Помніку Максіму Багдановічу скульптар Вакар спачатку не падпісаў. І праз гэта часта здараліся непаразуменьні.

Чаму ён стаіць перад Опэраю? Сьпявак? Кампазытар? З дыялёгу, пачутага ў аўтобусе: *«Каму гэта помнік?» — «Ня ведаю, можа, Высоцкаму?» — «Не, Высоцкаму рана...»* Нехта знайшоўся: *«Багдановічу!..» — «А хто гэта?» — «Партызан нейкі...»* Зараз Багдановіча зусім ужо вольна перанесьлі зь першаснага месца да дарогі й прымусілі ўважліва чытаць імёны клясыкаў марксізму, што разам зь імем Сталіна рупліва вылепілі наноў на мурах сувораўскай вучэльні.

Памятаю, як абмяркоўвалі праект аднаўленьня Верхняга гораду. Тады ўвагу гледачоў і апанэнтаў прыцягнуў квадрацік з подпісам: «Помнік К. Т.». На запытаньне архітэктары адказалі, што тут плянуецца помнік сьвятому Кірылу Тураўскаму. Маўляў, ён дзеяч старажытнай культуры, а помнік будзе ў старым горадзе і гэтак далей... Чаму ня Э. П. (Эўфрасіньні Полацкай), альбо Ф. С. (Францішку Скарыну)? Адказу не было...

Фармалізм вынікае зь незасвоенасьці вобразаў культурных герояў у нацыянальнай сьведамасьці. На гэтым штучным фармальным патасе была пабудаваная ўся сыстэма адукацыі, культуры і, як вынік, няпэўных мастацкіх вобразаў. Можа, прычына ў савецкім урбаністычным асяродзьдзі, у савецкай самацэнзуры, дзе няма месца прасьветленай старасьвеччыне, нацыянальным героям? Але ж і ў Празе беларусы паставілі Скарыну, які ўсім духам сваім просіцца на плошчу якога-небудзь з нашых безаблічных райцэнтраў! А ў Менску Скарыны гэтак і не паставілі. Ня здолелі стварыць вобразу. Нават такога, які скульптар Глебаў зрабіў для Полацку. Там гэта работнік у сярмязе з падкасанымі рукавамі. Гэткі задуменны сьлесар у барэце: «Георгий Скорина». Калі сам скульптар недасьведчаны альбо няшчыры, рэакцыя гледачоў зазвычай непасрэдная. Можна скласьці цэлую нізку показак і кпінаў, якімі дасьціпнікі ўзнагародзілі «Коласа на кучы», «самую вялікую

настольную статуэтку» — помнік песьняру на аднайменнай плошчы ў Менску.

Мае рацыю Адам Глобус у сваёй кнізе «Сьмерцьмужчына», калі кажа, што ў беларусаў няма сваіх могілак. Помнікі на могілках падпісаныя ў нас папольску, па-расейску, па-жыдоўску... а па-беларуску няма. Значыць, манумэнты дзеячам Беларушчыны зьявяцца не раней, чым зьявяцца Беларускія магілы? Але ж надмагільлі нашых паэтаў — беларускія. Ці ў беларусаў паміраюць толькі паэты? Ці толькі паэты — беларусы?..

Рана ці позна мы знойдзем адказы на гэтыя пытаньні. Пакуль жа ходзім да тых нацыянальных помнікаў, якія такіх пытаньняў не нараджаюць. Напрыклад, да фантану ў Купалаўскім парку. Перад «Купалінкамі» ўжо ніхто не хіхікае. Значыць, нешта зьмяняецца, цячэ разам зь сьвіслацкімі водамі. А яшчэ мы ходзім да драўлянага крыжа ў Курапатах, які людзі самі прынесьлі на руках і самі паставілі. Гэты крыж не выклікае пытаньняў: навошта ён тут? Нават у тых, хто яго некалькі разоў ламаў... Гэта ўжо НАШ крыж.

## «Тут жыў я»

Калі я распавёў Уладзімеру Караткевічу, што мару зьехаць зь Менску ў Вільню, ён, на маё зьдзіўленьне, адрэагаваў надта рэзка. «Ну што вам у Вільні — намазана чым ці што? У нас жа ёсьць Менск, свая сталіца. У Менску сёньня жыве большасьць нашых пісьменьнікаў і мастакоў. Вось ужо і свае мэмарыяльныя таблiцы пазьяўляліся. Абрасьцем пакрысе тымі таблiцамі, як мохам, — і будзе табе наша гісторыя...»

Сапраўды, мэмарыяльных таблiцаў у Менску становіцца ўсё болей. Часам і празь меру. Памятаеце дом на рагу Маркса й Леніна, той самы, дзе цяпер музэй Броўкі? На пачатку стагодзьдзя яго паставіў слынны менскі архітэктар Гай. Дасёньня ж умудрыліся гэтак шчыльна завешаць шыльдамі, што за імі ўжо не відаць сьценаў. Аднак адчуваньне гістарычнае повязі гэтак і не прыйшло. Можа, ад таго, што над домам па-ранейшаму, вось ужо чвэрць стагодзьдзя, навісае арматура рэклямы «Аэрафлёту», якая сама ня памятае, калі яна сьвяцілася нэонавымі лямпачкамі? Ці ад таго, што сам чыгунна-бронзавы «іканастас» выклікае супярэчлівыя пачуцьці: Чарвякоў і Панамарэнка, Дзяржынскі і Мацэпура, Броўка й Нікольскі? Ці кожны мінак скажа, чым славуты Панамарэнка альбо якой навукай займаўся акадэмік Нікольскі?..

Кажуць, недзе тут жыў і шэф НКВД Цанава. Аднойчы просты мінак спытаўся ў яго, колькі часу? Уражаны Цанава азірнуўся навокал і ня здолеў адказаць

(бо не насіў гадзіньніка). Быццам наступнае раніцы на гэтым доме зьявіўся гадзіньнік. Гадзіньніка даўно няма, але вуліцы носяць усё тыя ж імёны заснавальнікаў навуковага камунізму. Што ж, і гэта свая гісторыя... Хто што хоча, той тое й памятае. Даўней адрасам гэтага дому быў рог вуліцаў Падгорнай і Губэрнатарскай (былой Францішканскай). Можа, каб гэты будынак адмылі ад колеру энкавэдэшнага шыняля, зьнялі каўпак аэрафлётаўскае рэклямы, зьвезьлі б усе мэмарыяльныя дошкі й зрабілі адну малюсенькую: «Помнік архітэктуры, дойлід Гай», — мінакі б прыпыняліся міжволі, каб разгледзець яго старасьвецкую пекнасьць?

Мэмарыяльныя знакі самі па сабе мала што значаць, калі ў народнай сьведамасьці яны не асацыююцца з падзеямі альбо з асобамі, ролі якіх ясныя ўсім. За гады незалежнасьці шматкроць спрабавалі зрабіць, напрыклад, мэмарыяльны знак пры будынку КДБ — памяці бальшавіцкіх ахвяраў. Тады б роля гэтае ўстановы ў нашай гісторыі была вызначаная. Можа, такі знак зьмяніў бы і нашую сёньняшнюю гісторыю... Не пасьпелі прымацаваць і ўжо гатовую табліцу на былы архірэйскі дом, дзе ў 18-м годзе 25 сакавіка абвесьцілі незалежнасьць...

Выглядае, што мэмарыяльныя знакі ў Менску — гэта ўсяго толькі захоп прасторы. Але ўявіце сабе, каб у Парыжы ці Рыме задаліся мэтаю адзначыць таблiцамі ўсіх пісьменьнікаў, кампазытараў і мастакоў, што там жылі... Бадай, тады не знайшлося б месца жывым людзям. У Менску інакш. На доме нумар 29 па вуліцы Пуліхава на адным рагу — мэмарыяльная шыльда Пімена Панчанкі, на другім — Кастуся Кірэенкі, а таксама Івана Чыгрынава й Барыса Сачанкі. Для жыхароў дому — гэта былыя суседзі, для выпадковых людзей, што часам прамінаюць гэты двор, — «нейкія пісьменьнікі».

Нацыя помніць сваіх герояў ня дзякуючы фізычным якасьцям чыгуна ці бронзы. У доме, на якім вісіць шыльда Пестрака, таксама жыў Зьміцер Бартосік, бард, літаратар і журналіст, — і ў Менску ўжо лягчэй сустрэць чалавека, знаёмага з творчасьцю жывога барда, чым з творчасьцю «заслужанага дзеяча культуры БССР».

Для любога народу аб’яднаўчым пачаткам выступае агульны сымбалічны асяродак. Як падмурак самаідэнтыфікацыі сацыякультурнае асяродзьдзе ў стабільным грамадзтве грунтуецца на ўзнаўленьні базавых каштоўнасьцяў, устойлівых стэрэатыпаў, іншых элемэнтаў, перадвызначаных традыцыяй культурнага разьвіцьця. У гэтым сэнсе паказальным ёсьць стаўленьне да манумэнтаў і мэмарыялаў.

Сёньня ёсьць у беларускай сталіцы і мэмарыяльная табліца Ўладзімеру Караткевічу на вуліцы Карла Маркса. Але не паболела ад шыльдавага моху беларускасьці. За сем гадоў «Наша Ніва» зьмяніла ў Менску шэсьць адрасоў. Аднойчы, седзячы ў рэдакцыі на вуліцы Куйбышава, нехта пажартаваў, што праз дзесяцігодзьдзі паўгораду будзе завешана мэмарыяльнымі знакамі «Нашае Нівы». А я падумаў: няўжо тут заўсёды будзе вуліца імя Куйбышава? Бадай, у тым Менску, дзе кожны мінак будзе ведаць пра першую беларускую газэту, вуліцы будуць звацца зусім па-іншаму, а тады нашай культуры не спатрэбяцца ніякія шыльды, і сталіца зажыве сваёй, сапраўднай гісторыяй...

# Закончаны мінулы час

## З мастакоўскага гледзішча

...У 1836 годзе пачалося будаўніцтва крэпасьці ў Брэсьце-Літоўскім. Старажытны горад зьнікае з твару зямлі, а на яго месцы паўстаюць магутныя прыгонныя валы і сьцены. Воляю лёсу працэс зьнішчэньня захаваў мастак Марцін Залескі. Акадэмік жывапісу на адмысловую замову намесьніка Польшчы графа Паскевіча напісаў два палатны зь відамі будаваньня крэпасьці Брэст-Літоўск у 1840 годзе. Якія былі прычыны разбурэньня старажытнейшых беларускіх сьвятыняў, берасьцейскіх цэркваў і манастыроў, каталіцкіх, вуніяцкіх і праваслаўных? Беларускае дойлідзтва было сьведчаньнем адметнасьці, саматоеснасьці краю. Якія пачуцьці вярэдзілі душу мастака Марціна Залескага, які напісаў панараму яшчэ не разбуранага, але асуджанага да страты Берасьця?.. Зграбныя касьцёлы, вялікія кляштары, старасьвецкія камяніцы, белы-белы горад. Але ўсё ўжо падрыхтаванае да выкананьня прысуду.

Усё гэта зьнішчаць, як папярэдне расейцы ўжо зьнішчылі сярэднявечны Бабруйск. Ці можна сабе ўявіць, што, скажам, французы пераўтваралі гарады Бэльгіі ці Гішпаніі ў руіны, каб паставіць на іх свае фартэцыі? Ці магло такое рабіцца хоць у якім закутку Эўропы? Дзе хрысьціянская ўлада сьведама зьнішчала хрысьціянскія бажніцы? Расейцы гэта зрабілі ў Беларусі, спляжылі дарэшты старыя магдэбурскія гарады з тысячагадоваю спадчынаю.

Акадэмік Марцін Залескі прыехаўшы быў у Беларусь на запрашэньне валадара-акупанта Паскевіча. На замову высокага саноўніка ён напісаў, апроч краявідаў Берасьця, Бабруйску, і два палатны для ягонага Гомельскага палацу. Ці ня лёс Берасьця й Бабруйску, што мастак увасобіў тады, сфармаваў яго як патрыёта? Гэтаксама, як і праз стагодзьдзе лёс панішчанай цывілізацыі фармаваў моладзь, якая праз разуменьне стратаў і горыч высьпявала да палітычнае барацьбы за незалежнасьць.

Зь іншага боку, што адчувалі тыя расейцы-мастакі, што прыбылі на Беларусь зь легіёнамі акупантаў і «засвойвалі» гэты край? Трутнёў, Струкаў, Гразноў, пасканчаўшы Строганаўскую вучэльню ў Маскве, прыехалі сюды ў 1863—64 гадах з афіцыйным заданьнем. Яны нястомна шкіцавалі, пісалі акварэлі, фіксуючы то адну, то другую сьвятыню, будынак, руіну. Рабілася гэта выбарачна. Адлюстроўвацца мусілі помнікі праваслаўя й *русскости* ў «Северо-Западном крае». Для Д. Струкава гэта была адна вялікая экспэдыцыя 1864 году — Полацак, Магілёў, Нясьвіж, Менск, некалькі мястэчак. Дзёньнік, палявыя зацемкі, стос малюнкаў — прызначаліся для мэтраполіі. Але іх вызначае шчырасьць, дакладнасьць дакумэнту, які сьведчыў, што край не зусім... *«русский»*.

Для прафэсара І. Трутнёва Вільня стала да скону месцам падзьвіжніцтва. Седзячы тут, як на высьпе, наракаючы, што сярод дапаможнікаў для маляваньня ў Віленскай школе *«в русском вкусе нет ни одного»*, ён сумленна фіксаваў тое, што бачыў: праваслаўную готыку Вільні, цэрквы, крыжы, камяні Полацку, Віцебску, Мсьціслава ды інш.

В. Гразноў быў побач з Трутнёвым, але ягоныя інтуіцыя і густ падказвалі свой кірунак: Сынковічы, Мураванка, Ліда, гарадзенская Каложа... зноў Вільня. Апроч таго, яму не чужыя былі й амбіцыі дасьледніка, публіцыста.

Ягонымі ілюстрацыямі аздобленыя кнігі П. Бацюшкава, трэці том «Живописной России». Бадай, ён як ніхто зь ягоных суайчыньнікаў адчуваў эўрапейскую традыцыю старабеларускай архітэктуры.

Мы мусім быць удзячныя гэтым чужынскім мастакам. Парадокс... А вось пра што мог думаць мастак Залескі, малюючы сьвятыні, падрыхтаваныя да зьнішчэньня?..

## Дзякуй, каралева...

Для тых, хто трапляў зь Беларусі ў Расею не на цягніку ці самалётам, а праяжджаў расейскую вёску зблізку, абавязкова мусіў пабачыць істотную розьніцу. Я не кажу пра лад жыцьця ці мэнтальнасьць. Найперш гэта вонкавая розьніца. За былымі ўсходнімі межамі былое Рэчы Паспалітае вёскі маюць хаатычную забудову, часьцяком нават цяжка вызначыць вуліцы й раскіданыя рознапамерныя лапікі гародаў ды палёў. Тое самае тычыцца й маленькіх расейскіх мястэчак.

Наадварот, чым далей вы рухаецеся на Захад, у Беларусь, тым больш жорсткім выглядае плянаваньне паселішчаў, нават самых мізэрных. А ўжо ад Менску да Горадні то й напагатоў не сустрэнеш нат выпадковага будана. Палі дакладна пашнураваныя, нават хаты нібы пабудаваныя паводле тыпавога праекту. Гэта вынік рэформаў, распачатых яшчэ за каралеваю Бонай Сфорцай ды завершаных за часамі ейнага сына Жыгімонта Аўгуста, які выдаў слынную «Ўставу на валокі» ў 1557 годзе. Тады ўсе вясковыя землі пералічылі наноў, разьмеркавалі на горшыя й лепшыя, увялі трохпольную сыстэму ды ўсе дзяржаўныя вялікакняскія ўладаньні падзялілі на роўныя кавалкі памерам адна валока, то бок па 21 з гакам гектары. Вынікам тае рэформы стала грандыёзная праграма пераўтварэньня старых паселішчаў і будаўніцтва новых. Вёскі ды мястэчкі перапляноўваліся нанава ці пераносіліся ўвогуле. Жылыя хаты пашыхтавалі ўздоўж выпрастаных вуліцаў, гаспадарчыя пабудовы — на другі бок.

Зямельная тая рэформа забясьпечыла таксама й дакладнае й аптымальнае спагнаньне падаткаў зь вясковага насельніцтва, а таксама блізу справядлівае разьмеркаваньне зямлі сярод сялянства. І што яшчэ больш істотна: пасьля пераразьмеркаваньня зямлі вясковае насельніцтва пасела на абшарах Беларусі больш-менш раўнастайна. Колісь закінутая зямля стала радзіць. Ну і ўрэшце, яна атрымала пэўных сваіх гаспадароў...

Яшчэ ў XVI стагодзьдзі рэформа ахапіла пад 90 адсоткаў вёсак на Гарадзеншчыне й пакрысе, зь некаторымі зьменамі, за сто гадоў дакацілася й да ўсходняе мяжы Вялікага Княства. Вынікам стала сапраўдная рэвалюцыя ў сельскай гаспадарцы ды ва ўрбанізацыі. Гэта можна бачыць і дасёньня няўзброеным вокам. Нічога ў выглядзе вонкавым нашых вёсак не зьмянілася з XVI стагодзьдзя!

А вось жа што не заўсёды трапляе на вока, дык гэта плён захадаў дзеля аховы прыроды, з тае самае «Ўставы на валокі»... Напрыклад, яшчэ з тых часоў забаранілі паляваньне на ваўкоў, лісіц і зайцоў з сабакамі, нават і шляхце. Гэта тое, да чаго Вялікая Брытанія толькі цяпер падышла! Катэгарычна забаранялася бескантрольнае паляваньне ў пушчах. Касіць там дазвалялася толькі ў пэўныя дні, каб не пужаць зьвярыну ды птушак. А вось жа па грыбы ды ягады можна было хадзіць адно дзеўкам ды дзецям. Катэгарычна забаранялася паляваньне на рэдкіх зьвяроў, напрыклад, на сарнаў ды даніеляў. Забаранялася лавіць рыбу падчас нерасту. Каб жа ж ня тыя ахоўныя захады, што былі зрабілі амаль паўтысячы гадоў таму, мы багата чаго не далічыліся б сёньня. Балазе, у беларускіх лясох яшчэ гойсаюць зьвяры...
А вось павучыцца мудрасьці колішніх уладароў было б ня лішне.

## Bene natus et posessionatus

Вобраз беларускага арыстакрата вельмі розьніцца ад падобных вобразаў у Заходняй Эўропе, а пагатоў у Расеі. Шляхта ў Вялікім Княстве паводле розных падлікаў складала пад 15 з гакам адсоткаў. Гэта быў найвышэйшы паказьнік сярод усёй Эўропы. Адпаведна, у той ці іншай ступені ці ня большасьць сёньняшніх беларусаў, пераплаўленых у гуце XX стагодзьдзя, носяць у сабе пырскі шляхецкае крыві.

За часамі станаўленьня Вялікага Княства нашае шляхецтва набрыняла комплексам спэцыфічных ідэяў, што прынята называць «сарматызмам». Па-першае, нашая арыстакратыя ўважала сябе сама меней за рыцараў Хрыста, што вартуюць веру на яе апошніх межах, за якімі пачыналіся «тартары» — неаглядныя й варожыя эўразійскія абшары. Натуральна, што абаронцам Веры мог быць адно homo militans, то бок чалавек збройны, які зь дзяцінства не разьвітваўся з шабляю. За часоў Рэчы Паспалітае толькі шляхта мела права насіць зброю. А за тое ім даваўся выключны прывілей — толькі яны баранілі сваю дзяржаву, праліваючы сваю крывю. Балазе, кадраў хапала. З таго вынікала адмысловая сыстэма выхаваньня хлапчукоў. Яны найперш мусілі быць лоўкімі ды зухаватымі ваярамі. Калі бракавала фізычнае моцы, яна павінна была кампэнсавацца ўмельствам страляць ды фэхтаваць. Пацы, Сапегі, Радзівілы, Храптовічы, Агінскія з гадоў трох сядалі ў сядло й бралі ў рукі зброю.

Каб конча вылучыцца з астатніх, шляхта нашая прышчапіла міт пра сваё паходжаньне наўпрост

ад сарматаў, качавых іранскіх плямёнаў Прычарнамор’я. Гэты міт паўсядзённа песьціўся й мацаваўся. На мяжы XVII і XVIII стагодзьдзяў сарматызм стаў зброяй і лекам супраць касмапалітызму ў культуры, то бок супраць вонкавых уплываў з Усходу, што было традыцыйна, але й з Захаду. Праўда, беларускія арыстакраты ахвотней атаясамлівалі сябе з рымлянамі. Праціўнікі вуніі з Польшчаю бурчэлі: «*Ляхове не была шляхта, а людзі простыя, ані мелі гербаў сваіх, але мы шляхта старая, рымская*».

Нешта падобнае мы можам знайсьці адно на супрацьлеглым краі Эўропы, у Гішпаніі. Дасьледнікі культуры шматкроць зварачалі ўвагу на незвычайнае падабенства ня толькі ідэалёгіі, але й мастацкіх формаў між намі й Гішпаніяй. Пры тым сьведчаньняў наўпроставага ўзаемаўплыву — мізэр. Між тым цэлыя жанры, напрыклад, партрэты арыстакратаў, маюць проста невераемнае падабенства... Гішпанскія ідальга гэтаксама пачуваліся рыцарамі Хрыста на мяжы эўрапейскае цывілізацыі, гэтаксама надавалі вялізарную ролю вайсковаму й фізычнаму выхаваньню, гэтаксама выводзілі свой паўмітычны радавод ад готаў і рымлянаў. Ідальга, як і нашая шляхта, складалі вялізарную частку насельніцтва. Што праўда, гэтая частка моцна скарацілася ў Гішпаніі за кошт ад’езду на канкісту ў калёніі.

Беларуская ж шляхта скарачалася ў бясконцых войнах на ўласных межах. Адно згадаць — напрыклад, у XVII стагодзьдзі было толькі 32 мірныя гады. Дый у папярэднія часы іх было ненашмат болей. Дзіва што цэлыя рады homo militans зьвяліся ў тых несупынных войнах. Не пайсьці на вайну альбо адкупіцца, як тое практыкавалася ў большасьці заходнеэўрапейскіх краінаў, было немагчыма. Бо менавіта коштам свае рыцарскае крыві арыстакратыя Рэчы Паспалітае аплочвала свае правы на вольнасьць і рэспубліканскі лад. Калі ў Францыі кароль Людовік XIV мог сказаць:

«Дзяржава — гэта я!», то ў нас гэта з поўным правам мог сказаць кожны шляхціц. Дый тыя, абраныя шляхтаю, каралі былі вартыя свайго рыцарства. Сьцяпан Батура біўся сам у сечах і на зуброў паляваў сам. А пра Яна Сабескага, які разьбіў туркаў пад Венаю, увогуле хадзілі легенды. Ён кіраваў гусарамі, летучы наперадзе іх у той вялікай сечы, што перадвызначыла лёс Эўропы. Няўжо ж тым, хто абіраў сабе гэткіх каралёў, можна было хавацца за іхнымі сьпінамі? Ня кажучы ўжо пра тое, што расповед пра баязьліўца мог бы разьляцецца ўмомант па ўсёй Рэчы Паспалітай...

Яшчэ адным складнікам ідэалёгіі беларускае арыстакратыі была зямля. Bene natus et possessionatus — высакародны землеўласьнік — вось ідэал рыцара! Колькі б тае зямлі не было, яна мусіла быць. Нават каб і самому давялося «высакародна араць сваё поле». Магнаты ж куплялі зямлю па ўсёй краіне, ад краю да краю. Пачуцьцё годнасьці было проста неаддзельным ад зямлі. Астах Валовіч ці Леў Сапега, пры тым, што былі адважнымі ваярамі, выдатна разьбіраліся ў аграрных пытаньнях, кіравалі найскладанейшымі зямельнымі рэформамі. Тыя, хто праліваў сваю крывю за сваю зямлю, умелі яе й цаніць ды гаспадарыць на ёй. Родавае гняздо, маярат, быў каштоўнасьцю выключнай. За яго трымаліся да апошняга, яго багамілі, рамантызавалі. Зямля продкаў у літаральным, вузкім сэнсе. Можаце сабе ўявіць, якія пачуцьці, напрыклад, мусілі казытаць душы ўладальнікаў сядзібы ў Мосары, што на Глыбоччыне, калі яшчэ ў міжваенным часе на фасадзе была каменная табліца ў гонар наведваньня яе Сьцяпанам Батурам, як той ішоў паходам на Пскоў... Не было заганаю й уласнымі рукамі корпацца ў зямлі. Наадварот! Яшчэ бацькі Фэрдынанда Рушчыца, графскага паходжаньня, разам з сынам самі выбіралі бульбу, поруч зь сялянамі. І зусім ня зь беднасьці, а з... арыстакратызму.

Хлапчукоў у 7–8 гадоў бацькі адрывалі ад мацярок й навучалі гаспадараньню й паляваньню. Хоць, што праўда, у бацькоў гэта не заўжды выходзіла. Бо чарговы покліч вёў іх у паход. І ролю мужоў у выхаваньні сыноў пераймалі жанчыны. Гэтак сталася нават з будучым каралём, Янам Сабескім. Ягоную маці шляхта ўважала гэтаксама за рыцара (ці тое рыцарку), як яго самога.

Панятак безьзямельнае шляхты зьявіўся вельмі позна, толькі ў XVIII стагодзьдзі, у выніку ўсё тых жа войнаў. Баючыся пазбыцца свайго шляхецтва, гэтыя бедакі змушалі дзяцей вучыць на памяць усю сваю генэалёгію, каб не прапасьці. А масава шляхта пастрачвала зямлю толькі ў выніку расейскае акупацыі. Ад таго моманту мара пра зямлю стала яшчэ адным неад’емным складнікам шляхецкага мэнталітэту...

Яшчэ адной адметнасьцю нашае арыстакратыі была яе адносна высокая адукаванасьць. Прынамсі, кожны шляхціц, нават шарачок, быў пісьменны. Мала таго, абавязковаю часткай адукацыі з XVI стагодзьдзя стала лаціна. «Я шляхціц, я гавару на лаціне», — лямантаваў шляхціц у лапцях, калі яго раптам блыталі з кім іншым. Магнатэрыя пагатоў рупілася пра выхаваньне нашчадкаў. Радзівілавых дзяцей навучаў Сымон Будны, які для іх пераклаў Катэхізіс на беларускую. А Мялеці Сматрыцкі выхоўваў дзяцей князя Саламярэцкага, між іншага, езьдзячы зь імі па нямецкіх унівэрсытэтах. Той самы Януш Радзівіл, які саджаў на калы казакоў, вучыўся дзецюком у найлепшых унівэрсытэтах Ангельшчыны, Нямеччыны, Нідэрляндаў ды Францыі. Вучылася нямала. Як на часы мяжы XVII–XVIII стагодзьдзяў, навучацца маглі амаль усе шляхецкія хлопцы. На гэтую тэму існуе багата літаратуры. У Слоніме, напрыклад, у 1790 годзе бэрнардыны вялі парафіяльную пачатковую школу, якую наведвалі 90 вучняў. У езуітаў вучыліся 104 вучні. Свае школы мелі таксама слонімскія

канонікі лятэранскія, францішкане, дамініканцы, піяры...

У 1736 годзе была створаная Літоўская правінцыя Ордэну піяраў. Спачатку працавалі шэсьць калегіюмаў: у Вільні, Дубровіцы, Любяшове, Шчучыне, Панявежы й Лідзе. Пазьней адчыніліся калегіюмы ў Зэльве, Лужках, Вількаміры, Расейнях, Віцебску, Сьніпішках, Дуброўне, Полацку. Сярод школаў аднымі зь першых зьявіліся вучэльні ў Геранёнах, Воранаве, Балотні. Хоць у езуітаў і базылянаў вучыліся ўтрая больш вучняў, але ў 1803 годзе ў піярскіх вучэльнях займаліся 1234 вучні, а ў 1822-м — 1401 вучань. Пасьля паўстаньня 1830–1831 гадоў у працэсе абмасквальваньня Беларусі ўсе піярскія вучэльні зачынілі.

То бок, у ордэнскіх школах па ўсім краі вучыліся тысячы дзяцей, пераважна з шляхты. Маладасьледаваная застаецца гісторыя кляштарных школаў для дзяўчатак. А такія былі ў брыгітак, бэнэдыктынак, марыявітак... Я не хачу сказаць, што справы з адукацыяй, а перадусім з узроўнем асьветы й культуры самой шляхты, былі ідэальныя…

Натуральна, чым вышэйшы быў род, чым большая была яго адукаванасьць, тым меней увагі надавалася рэлігійным звадкам. Бойкі на рэлігійнай глебе былі справаю чэрні й шалёнага сьвятарства. Арыстакратыя заўсёды знаходзіла між сабою агульную мову, не зважаючы на розьніцу вызнаньняў. Напрыклад, Ганна Стацкевіч-Багданава, якая фундавала ў Менску царкву й брацтва Пятра й Паўла (што на Нямізе), прызначыла апекунамі гэтага асяродку ў 1618 годзе вядомых магнатаў... кальвіністаў: Януша Радзівіла, Марціна Валадковіча, Яна Агінскага, Юрыя Тышкевіча ды колькі іншых. Маўляў, у гэткім выпадку пратэстанцкая арыстакратыя будзе аб’ектыўная й абароніць праваслаўных. А ў лісьце да гетмана Канстанціна Астроскага, праваслаўнага, вялікі канцлер Леў Сапега,

каталік, заклікаў да ўзаемапавагі. Гэта быў узровень палемікі «паноў-братоў», якія плячом да пляча было стаялі супраць агульных ворагаў.

Паміж мужчынамі-арыстакратамі, нягледзячы на ўсё іхнае братаньне, існавала складаная сыстэма герархіі й адпаведнага этыкету. Перад кім здымаць шапку, каму ціснуць руку, а каму цалаваць, каму ківаць, а перад кім складацца да зямлі — гэта была мудрагелістая навука. Пагатоў трэба было дакладна ведаць тытулы, званьні, заслугі. Гэта вывучалася ў паходах і на соймах. Памылковае прывітаньне было абразаю.

Да жанчын ставіліся прасьцей. Ім можна было кланяцца, цалаваць рукі й нават паўаголеныя грудзі, але ні ў якім выпадку не ў шчаку. Нават станавіцца на калені перад жанчынаю лічылася недапушчальным. Жанчыну трэба было проста шанаваць, а не блазнаваць перад ёю.

Істотным складнікам беларускага арыстакратычнага мэнталітэту было падкрэсьлена паважлівае стаўленьне да кабет. Тут было мала падабенства да куртуазнае культуры Заходняе Эўропы, пагатоў да расейскага дамастрою. У нашых «сарматаў» усё выходзіла натуральна. Шляхціц, які вяртаўся з татарскага палону ці з паходу на швэдаў, быў зусім не гатовы да сэрэнадаў ці да букетаў. Не вучылі куртуазнаму абыходжаньню ані ў сям’і, ані ў школах. А вось ліставаньне ўхвалялася. Нашая арыстакратыя пакінула немалую эпісталярную любоўную спадчыну. Насамрэч, як яшчэ можна было кантактаваць з каханымі, дзясяткі гадоў не пакідаючы сядла?

Разам з тым, усе ключы ад гаспадаркі былі ў жаночых руках. Жанчыну (бабцю, маці, жонку) блізу што багамілі, раўнуючы ейны цнатлівы вобраз з Паннаю Марыяй. Менавіта жанчыны перахоўвалі старыя звычаі ды сямейныя паданьні. Ва ўмовах, калі большасьць

мужчынаў непазьбежна гінула ў росквіце сілаў на войнах, на жанчыну палягаў увесь цяжар клопату пра дом і дзяцей. Каб у сьвет пайшло чарговае пакаленьне арыстакратаў, homo militans, высакародных землеўласьнікаў, якія будуць бараніць сваю дзяржаву й сваю зямлю.

## Па Вільні

*О Матка Боская, што ў Чанстахове ў храме.*
*Глядзіш спагадліва, што ў Вострай сьвеціш Браме...*

...Гэта радок з Адама Міцкевіча... Вострая брама. Менавіта сюды, да яе скіраваныя малітвы, позіркі й жаданьні мільёнаў жыхароў у нашых краях, вернікаў і проста людзей, зацікаўленых мінулым і будучым нашага краю. Ад Вострай брамы пачынаецца Вільня.

Чаму брама называецца Востраю? Калі б мы праляцелі над старымі вуліцамі на крылах, дык пабачылі б, што ўсе яны ўтвараюць абрыс сэрца. І гэты абрыс сэрца — як у картах масьць чырваў — упіраецца вострым канцом у гэтую браму.

Адсюль, ад Вострай брамы ляжыць просты шлях зь Вільні ў Беларусь. Як і спрадвеку. А гонар звацца сьвятым месцам брама гэтая заслужыла дзякуючы цудоўнаму абразу Маці Божае.

Традыцыйна лічыцца, што абраз гэты, напісаны пачаткова бізантыйскім майстрам, быў падараваны князем Альгердам сваёй жонцы, віцебскай князёўне Марыі, а яна, у сваю чаргу, ахвяравала гэты абраз тады праваслаўнаму манастыру Сьвятой Тройцы, што месьціцца побач з брамаю. Нагадаем, што Альгерд, сын Гедыміна, у юнацтве ажаніўся з дачкою віцебскага князя Марыяй Яраслаўнай і два гады пражыў у горадзе Ўсьвяты, а пасьля, да 1345 году, у Віцебску.
З дапамогаю брата Кейстута, троцкага князя,

Альгерд скінуў зь вялікакняскага пасаду Яўнута і сам стаў вялікім князем. Недзе ў гэты час і зьявіўся ў Вільні цудадзейны абраз Маці Божае. Легенда сьведчыць, што Альгерд, зваяваўшы крымскі горад Хэрсанэс, вывез яго з аднае з праваслаўных цэркваў. Гэта, вядома, не зусім так. Альгерд ніколі не ваяваў у Крыме й ня мог быць у Хэрсанэсе. Але сам факт паходжаньня абраза з Хэрсанэсу цалкам вераемны. Князь мог атрымаць яго ў падарунак альбо й у якасьці трафэю...

Доўгі час Вільня была аточаная драўлянымі сьценамі, ажно да канца XV стагодзьдзя, пакуль на загад вялікага князя Аляксандра яе не сьперазалі каменныя муры. 23 красавіка 1498 году біскуп Віленскі Войцех Табор абышоў з урачыстаю працэсіяй усю вялікую будоўлю й высьвяціў тыя месцы, дзе мусілі паўстаць брамы. Асаблівай урачыстасьцю вызначалася набажэнства на тым месцы, дзе мусіла паўстаць Крэўская брама, цяперашняя Вострая. А праз колькі гадоў, у 1503-м, біскуп Табор ужо высьвячаў вымураваныя новыя брамы, у якія, паводле старадаўняга звычаю, зьмяшчалі абразы. Напрыклад, у Троцкай — абраз Божае Маці зь дзіцяткам Ісусам. А вось жа дзеля Крэўскае брамы праваслаўны манастыр Сьвятое Тройцы ахвяраваў свой цудоўны абраз Найсьвяцейшае Панны Маці Божае.

Праміналі гады. Непагадзь і пякучае сонца рабілі сваю справу. Старажытны абраз пабляк і пашкодзіўся. Тады гарадзкі магістрат замовіў невядомаму італьянскаму майстру ўзнавіць чароўны абраз у былым бляску. Той управіўся з сваім заданьнем выдатна. Хоць новы абраз мала паводле вобразу свайго быў падобны да папярэдняга. Гэта — клясычны ўзор заходнеэўрапейскага рэнэсанснага жывапісу XVI стагодзьдзя. Таму невядомаму мастаку й належыць ягоная незвычайная кампазыцыя: маладзік, на які нібы абапіраецца Найсьвяцейшая Панна, і праменісты німб

над ёю ў зорках... Убор ейны — цёмна-сіняя з жоўтай аблямоўкаю й зялёнай падшэўкаю хуста, што затуляе ейную галаву й плечы. Сукенка — цёмна-пунсовай барвы, рукавы ж абшытыя белым. Сёньня гэта мала хто ведае, бо ўвесь абраз ухінаюць залатыя шаты.

Абраз Найсьвяцейшае Панны Марыі быў зьмешчаны пачаткова на браме звонку, з паўночнага боку, тварам да Беларусі...

У 1626 годзе ў Вільні зьявіліся айцы-кармэліты й пры Крэўскай, то бок Вострай, браме, разбудавалі сабе кляштар. Іх глыбака кранала пабожнасьць тутэйшага люду, што горача маліўся на цудадзейны абраз. Тады й зьявілася думка пабудаваць дзеля шанаванага абраза адмысловую капліцу. Варта тут згадаць, што з боку гораду вісеў яшчэ адзін абраз, напісаны тым жа самым італьянскім майстрам, абраз Госпада Ісуса. Калі ў 1654 годзе айцы-кармэліты атрымалі дазвол ад магістрату на будаўніцтва капліцы пры браме, змаглі забраць абодва абразы да сябе. Абраз Госпада Ісуса перанесьлі ў кляштар, адкуль у 1832 годзе, пасьля выгнаньня кармэлітаў і закрыцьця іхнага кляштару, ён быў перанесены ў Віленскую катэдру...

У 1671-м годзе біскуп Віленскі Аляксандар Сапега ў прысутнасьці капітула, сэнатараў і гарадзкога магістрату, пры вялікім сходзе народу ўрачыста перанес абраз Маці Божае ў новапабудаваную капліцу. Капліца тады была драўлянаю й па новай назьве брамы пачала звацца Вастабрамскай. Бо стагодзьдзямі віленскія вуліцы выпростваліся гэтак, каб шчыльней ды карацейшым шляхам дамкнуць да галоўнай сьвятыні. А таму вуліцы Вільні пад вострым вуглом зьбягаліся да сьвятое брамы. Дык вось з таго часу да чароўнага абраза, што ўжо быў ведамы на ўвесь край сваймі цудамі, люд паспаліты зьбіраўся на літанію, і на сьценах капліцы зьявіліся першыя воты, то бок ахвяраваньні Маці Божай Вастрабрамскай.

У 1706 годзе ў Вільні здарыўся вялікі пажар. Загарэліся й будынкі вакол Вострай брамы. Тады два манахі-кармэліты кінуліся ў капліцу ратаваць абраз. Але здарыўся цуд: вагонь суняўся й сьвятое месца ацалела. Але падчас наступнага пажару, у траўні 1715 году, цуду не адбылося. Капліца старадаўняя згарэла. Абраз жа ўратавалі й перанесьлі ў касьцёл сьвятой Тэрэзы, што й цяпер стаіць пры браме. Праз 20 гадоў рупнасьцю вернікаў з цэлага краю паўстала новая пекная мураваная капліца, у якой дасёньня «сьвеціць у Вострай браме» цудадзейны абраз Найсьвяцейшае Дзевы Марыі. І з тых часоў пакаленьні людзей маюць магчымасьць сузіраць яе тут ва ўсім харастве й у багатых кляйнотах.

Ну а калі мы выйдзем з старога гораду праз Вострую браму, то ўбачым суворы й просты, амаль глухі мур. Адно на самым версе ёсьць пекна аздоблены фрыз. На ім выяўленыя два драпежныя грыфоны, што трымаюць наш старадаўні герб — «Пагоню»... Зноў згадваецца паэтычны радок. Гэтым разам Максіма Багдановіча: *«Толькі ў сэрцы трывожным пачую за краіну радзімую жах, успомню Вострую браму сьвятую і ваякаў на грозных канях...»*

Пра «Пагоню» ведаюць цяпер, бадай, усе беларусы...

Стоячы каля Вострае брамы, людзі пытаюцца, што гэта за грыфоны? Рэч у тым, што ў сярэднявечнай геральдыцы грыфоны, мітычныя істоты зь целамі ільвоў ды галовамі арлоў, што нібы жылі ў гарах Малое Азіі, уважаліся за эмблему Хрыста. У сярэднявечных тэолягаў мы можам прачытаць і гэткае: *«Хрыстос ёсьць леў, бо ён царуе й валодае магутнасьцю, ён арол, бо пасьля ўзьнясеньня адлятае на нябёсы»*[1]. Само ўзьнясеньне Хрыста на нябёсы часьцяком выяўлялася з грыфонамі. Другі геральдычны сэнс гэтае

[1] Ісідор Сэвільскі. Этымалёгіі. Паводле http://slovari.yandex.ru/.

выявы — недатыкальнасьць. Грыфон азначае сабою цнатлівасьць аб’екту, што ён вартуе. То бок, гэтыя драпежныя крылатыя істоты стаяць на варце Вострае брамы, на варце цудоўнага абраза Маці Божае ў ёй, на варце Вільні й усяго краю нашага...

## Касьцёл сьвятой Ганны

У сваім рамане «Віленскія камунары» Максім Гарэцкі вуснамі аднаго з герояў, Мацея Мышкі, гэтак апісаў Вільню:

*«Вільня, як вядома, — самы прыгожы горад у сьвеце. У самым цэнтры гораду, там, дзе бурлівая Вялейка ўліваецца ў шырока-плаўную Вільлю, стаіць высачэзная, круглая замкавая гара — як вялізарная зялёная капа сена. (...) Кожны князь, ці княгіня, ці хоць гетман, каб праславіцца, абавязкова будавалі ў Вільні прыгожую старынную царкву альбо касьцёл, пра што цяпер пішуць усе энцыкляпэдыі ва ўсім сьвеце. Напрыклад, другая жонка Вітаўта, Ганна Сьвятаславаўна, князёўна Смаленская, збудавала касьцёл сьвятой Ганны — у чыстым гатыцкім стылі, чырвоны, цагляны. (...) Кажуць, што нават Напалеон разявіў рот на гэтае дзіва... Ён так залюбаваўся, што нібыта сказаў: «Каб мая сіла, узяў бы яго на далоньку і перанес бы яго ў Парыж». Энцыкляпэдыі пра гэта нічога ня пішуць, а ў Вільні гэта вядома кожнаму хлапчуку»*[1].

Гэтак уяўлялася Вільня й касьцёл сьвятой Ганны Мацею Мышку, аднаму з пэрсанажаў Максіма Гарэцкага. І праўда, касьцёл сьвятой Ганны праз стагодзьдзі й дасёньня ўважаецца за адзін з найлепшых помнікаў дойлідства ў Вільні. Ня дзіва, бо ані ў Вільні, ані ў цэлым нашым краі гэтая бажніца ня мае

[1] Гарэцкі, Максім. Віленскія камунары // Збор твораў у 4 т. Т. 3. Мінск: «Мастацкая літаратура», 1985. С. 151–152.

адпаведнікаў. Паводле сваіх канструктыўных асаблівасьцяў і мастацкіх якасьцяў, касьцёл сьвятое Ганны — бясспрэчны шэдэўр гатычнае архітэктуры эўрапейскае значнасьці. Нягледзячы на свае сьціплыя памеры — 19 мэтраў удоўжкі ды заледзьве не 9 мэтраў у шырыню, — гэтая сьвятыня да нядаўняга часу была таямніцаю для дасьледнікаў. Бо паводле свайго кшталту, кампазыцыі ды асаблівасьцяў пабудовы яна мае толькі адзін, дый тое далёкі аналяг — гэта касьцёл у горадзе Арвіета (Orvieto), што ў Італіі...

Доўгі час імя дойліда, які ўзьвёў сьвятую Ганну, было забытае, зацярушане пылам паўтысячагадовае даўніны. А таму невыпадкова, што гісторыя пабудовы абрастала паданьнямі. Вось, напрыклад, што ў Вільні можна пачуць пра тую далёкую мінуўшчыну...

*Жыў некалі ў Менску славуты майстар-дойлід, у гадох. Зваўся ён Войцехам. Меў ён адну-адзіную дачку, Марыю, заручоную з дойлідавым вучнем Іванам. Іван той быў начуты, што ў краях заходніх ёсьць майстры, якія будуюць нечувана пекныя палацы й бажніцы, пра якія стары Войцех нават ня мае ўяўленьня... І вырашыў ён выбрацца да тых блаславёных краёў. Дарма ўшчуваў і пераконваў яго будучы цесьць Войцех, што нічога такога не навучыцца той у чужаземцаў, чаму б ён не навучыў яго. Дарма прасіла яго й Марыя, каб яе не пакідаў. Іван, насуперак пераконваньням і просьбам, цьвёрда вырашыў выбрацца з родных краёў у сьвет. Але перадусім, каб не засмучаць сваіх блізкіх, згуляў вясельле. А праз колькі дзён пасьля шлюбу ўсё ж зьдзейсьніў свой намер... Шлях ягоны ляжаў праз розныя краіны, бываў ён шмат дзе, а ўрэшце быў прыпыніўшыся надоўга ў крыжацкіх землях, дзе дасягнуў славы найвыбітнейшага майстра справаў мулярскіх, чые творы абуджалі захапленьне й подзіў усіх, хто іх бачыў... Колькі гадоў нічога не было чуваць пра Івана ў краях нашых...*

*Тымчасам сьвяталюбная й дабрачынная жонка вялікага князя Жыгімонта, княгіня Ганна, вырашыла паставіць на славу Боскую новы касьцёл у Вільні. Яе выбар лег на Войцеха, бо быў ён самым славутым дойлідам у нашых краях. Таму яму й даручыла ўзьнесьці новую сьвятыню...*

*І неўзабаве дойлід той слынны, разам з дачкою сваёй, Марыяй, перабраўся зь Менску ў Вільню... Стары Войцех заклаў падмуркі й абяцаў, што ягоная спаруда будзе шэдэўрам і пераўзыдзе ўсё, што ён стварыў да таго. Ён быў перакананы, што новая бажніца ўславіць ягонае імя ў вяках.*

*Аднаго вечару, як стары дойлід сядзеў у сваёй хаце, што была паблізу новае будоўлі, і працаваў над шкіцамі ды красьлюнкамі, а Марыя, смутная й самотная, ціхутка сядзела ля каміну, у дзьвярох пачуўся стук...*

*Марыя пайшла адчыняць і зьнямела... На ганку стаяў яе каханы Іванка. Не было мяжы іхнае радасьці. Сардэчна павітаў свайго зяця й Войцех. Паселі яны за стол, Марыя прынесла кубкі з старым і моцным мёдам. Доўга, доўга апавядаў Іван пра розныя дзівосы, што бачыў ён у іншых краях, пра хараство тамтэйшых сьвятыняў ды замкаў, пра тое, як цудоўна й трывала там будуюць... Стары Войцех усё слухаў, слухаў яго з усьмешкаю ды ўрэшце прамовіў:*

*«Што ж, пабачыў ты нямала, мусіць, багата чаму навучыўся, бачу, што часу не марнаваў. Тым лепей ты ацэніш і мой шэдэўр. Пераканаесься, што мая сьвятыня ў параўнаньні з італьянскімі, францускімі ды нямецкімі — о то сапраўдны будзе цуд! Пабачыш, што Войцех хоць і стары, але куды больш варты пашаны, чымсьці тыя майстры, якіх ты тут узносіў! Заўтра ад рана пакажу табе рэч!»*

*На раніцу падаліся яны на будоўлю. Іван і праўда спадзяваўся пабачыць выбітны твор дойлідзтва, пагатоў Войцех не пераставаў яго ў тым пераконваць. Тым большым было ягонае расчараваньне, як ён пабачыў справу рук мулярскіх. Сьцены былі груваcткія, сьпічастыя дзьверы нізкія й нязграбныя... Ня мог ён хлусіць. А таму Іван быў зь цесьцем шчыры:*

*«Не, бацьку, не на тое я спадзяваўся! Я б збудаваў усё іначай. Тое, што бачу, — зацяжкое й гнятлівае. Адно да другога не пасуе. Я б стварыў сьвятыню лёгкую, бы пекная цацка. Мае гзымсы ды аркі былі б нібы сатканыя з карункаў, а вежы сягалі проста ў неба!»*

*І пачаў перабіраць ды ўказваць на розныя хібы будовы Войцеха. Кожнага разу дадаючы, як бы гэта ўдала зрабіў ён сам. Стары дойлід спахмурнеў, не даючы веры вушам сваім, як гэты маладзён можа ганіць яго самога. Слухаў ён слухаў, зьвёўшы сівыя бровы, ажно не стрываў:*

*«Гэй, ты, малакасос! Ты наважыўся ганіць шэдэўр самага слаўнага ўва ўсім краі майстра? За гэтую тваю дурную зухавасьць трэба цябе пакараць на ўсё жыцьцё! На! Бяры маю справу! Я адыходжу! Аддаю табе будову. Будзеш клікаць на дапамогу — не прыйду! Зьвернесься да мяне не раней, як скончыш будаўніцтва».*

*Марна сьлёзна й умольна ўгаворвалі Іван ды Марыя старога не пакідаць іх. Ня здолелі яны яго затрымаць. Ушчэнт пакрыўджаны й раззлаваны Войцех пакінуў Вільню.*

*Тымчасам Іван быў змушаны прыступіць да працы. Аддаўся ён рабоце з усім маладым імпэтам. Ня спаў начэй, крэсьліў, выдумляў. Што праўда, не разбурыў ён таго, што быў паставіўшы Войцех. А вось наверсе*

*паўстаў сапраўдны цуд. Ніколі й ніхто да таго часу ня бачыў гэткага хараства. Усё ў ягонай бажніцы было лёгкае, пекнае, нібы лунала па-над зямлёю. А шпіцы касьцельных вежаў і насамрэч сягалі гэтак строма, што здавалася, яны праткнуць самое неба... Больш за год трывала будаўніцтва. І ўвесь той час пра Войцеха не было ані знаку. А вось жа аднаго вечару зьявіўся і ён у Вільні. Агледзеў жытло дзяцей, палашчыў быў унучку, што ўжо была нарадзіўшыся, як яго не было. Але з Іванам быў зацяты:*

*«Што ж, зяцю! Кажуць, давершыў ты будаўніцтва касьцёлу. Прыбыў, каб пабачыць яго. Вось ужо ж уяўляю, што ты там наштукаваў... Праводзь мяне зараз жа!»*

*Не ўгаварылі ізноў Іван ды Марыя застацца старога, дачакацца да раніцы. Акурат у той час вызірнуў месяц. І цудоўны, невымоўнае прыгажосьці касьцёл увесь зазіхцеў у зорным сьвятле...*

*Доўга, доўга хадзіў Войцех з Іванам па рыштаваньнях. У лагодным сьвятле месяца добра было відаць, як яны падымаюцца ўсё вышэй ды вышэй. А як узьняліся да шпіцаў пад крыжы, то Войцех зусім стаў суворы й сьмяротна зьбялеў.*

*«Га! Зрабіў ты сапраўдны цуд. Стары Войцех перад табою ўжо паблякне. Хіба што шатан табе дапамагаў! Хай жа ён цябе й зараз ратуе!»*

*І з усяе моцы ўдарыў ён зяця ў грудзі. Дошкі рыштаваньняў не стрывалі. Іван паляцеў на дол, на халоднае каменьне бруку. Цела ягонае ўпала ля самых ног скамянелай ад жаху Марыі. А душа сьветлая, што імкнулася да неба, да неба й адляцела...*

Вядома, мне, як менчуку, вельмі сымпатычнае гэтае паданьне пра тое, што касьцёл сьвятой Ганны паставілі

архітэктары зь Менску. Але гэта ня так. У апошняе дзесяцігодзьдзе мінулага, XX, стагодзьдзя імя аўтара гэтага ўнікальнага здабытку было высьветленае. Гэта Міхаэль Энкінгер (Michael Enkinger), родам з Флямандыі. Менавіта пад ягоным кіраўніцтвам у 1495 годзе пры кляштары бэрнардынаў пачалі ставіць касьцёл сьвятое Ганны. Ведама, што майстар Энкінгер кіраваў будаўніцтвам 5 гадоў, да 1500 году, але зь невядомых прычынаў закончыць яго не пасьпеў, мо тутэйшы клімат яго змарыў.

Справу ж ягоную працягнула арцель майстроў з Паўночнае Італіі, за часамі каралевы Боны. Менавіта пры ёй, вялікай княгіні й каралеве, жонцы Жыгімонта Старога, пры Боне Сфорцы, якая сама паходзіла з Італіі, у наш край прыбыло багата ейных суайчыньнікаў. Таленавітых дойлідаў у тым ліку. Але будаўніцтва шэдэўру расьцягнулася ажно да 1564 году. У той час не было ўжо на сьвеце ані каралевы Боны, ані тых, хто запраектаваў гэты касьцёл. Была страчаная й сама мэта пабудовы. Рэч у тым, што першапачаткова касьцёл сьвятой Ганны ставіўся як пахавальня для жонак вялікага князя Жыгімонта Старога, гэтым і вытлумачваюцца ейныя невялікія памеры. Першае ж высьвячэньне бажніцы адбылося ў 1581 годзе. У тым жа самым годзе касьцёл сьвятое Ганны зьявіўся на пляне Вільні, які склаў вядомы нямецкі майстар Гогенбэрг (Franz Hogenberg). І з тых часоў сьвятыня стала адным зь неад’емных сымбаляў Вільні.

У 1613 годзе з паўночнага боку да прызьбітэрыю была прыбудаваная сакрыстыя й галерэя, што злучыла касьцёл зь вялікім бэрнардынскім кляштарам за ім. Галерэяй можна было трапіць у касьцёл сьвятых Францішка й Бэрнарда, вялізарная спаруда якога стварае магутнае архітэктурнае тло для пекнага й лёгкага касьцёлу сьвятой Ганны. З тых часоў тут мала што й зьмянілася. Мянялася, што праўда, усё навокал. Перад касьцёлам Ганны да канца XIX стагодзьдзя

стаяла магутная званіца ў стылі клясыцызму, якую быў паставіўшы яшчэ ў XVIII стагодзьдзі слынны віленскі дойлід Лаўрэн Стока-Гуцэвіч. З правага боку ішоў манумэнтальны мур з брамамі й вежамі, што атачаў увесь бэрнардынскі кляштар зь ягонымі славутымі садамі. Але да пачатку XX стагодзьдзя ўсе гэтыя будынкі наўкол касьцёлу сьвятое Ганны мелі ўжо зусім лядашчы выгляд, і іх пакрысе паразьбіралі, пагатоў сам кляштар быў зачынены расейскімі ўладамі яшчэ пасьля паўстаньня Кастуся Каліноўскага. А вось жа Ганна сьвятая засталася бязь зьменаў за паўтысячы гадоў, стаіць і дасёньня. Побач, спрабуючы заімітаваць яе стылістыку, у 1907 годзе паставілі яшчэ й званіцу. Але пільнае вока бяз цяжкасьцяў адрозьніць, дзе сапраўдная готыка.

Што да легенды пра сэнтымэнтальнае выказваньне Напалеона. Ну, памятаеце, узяў бы на далоні ці ў хустачку ды перавез бы ў Парыж... Рэч у тым, што гэткія ж легенды існуюць і ў Глыбокім, і ў Полацку, і ў Віцебску, адным словам — паўсюль, дзе бываў Напалеон і дзе ёсьць на што паглядзець. Гэта ўсё ж легенда і ня больш. Бо Банапарт, як не круці, быў чалавек свайго часу. А ў ягоныя часы да спадчыны мінулых стагодзьдзяў ставіліся няўважліва. Менавіта на загад Напалеона ў тым самым Парыжы зруйнавалі дзясяткі бажніцаў у сярэднявечным кшталце дзікіх готаў. Гатычнасьць у тыя часы была ледзь не сынонімам барбарства. А вось што да дойлідаў зь Менску, якія будавалі Вільню, то яны насамрэч былі.

## Касьцёл сьвятога Яна й дойлід Ян Франкевіч зь Менску

Сярод тых дойлідаў, якія стагодзьдзямі стваралі віленскае хараство, багата беларусаў. На вялікі жаль, большасьць гэтых імёнаў мала што кажа нашым суайчыньнікам. І гэта прыкра. Скажам, вось хто быў зусім забыты ў Беларусі — гэта Ян Франкевіч (у некаторых крыніцах — Франковіч, Frankewicz, Pranckovičius). Імя гэтае і дасёньня ведамае толькі вельмі вузкаму колу дасьледнікаў. Яго вы не спаткаеце ні ў беларускіх даведніках, ні ў энцыкляпэдыях.

Хоць менавіта гэты архітэктар запачаткаваў той горадабудаўнічы ансамбль барочнага кшталту, якім мы сабе і ўяўляем Вільню. Ён збудаваў найвялікшыя бажніцы на сумежжы XVI і XVII стагодзьдзяў: касьцёл сьвятога Яна пры ўнівэрсытэце, касьцёл сьвятога Казімера побач з ратушай, а таксама царкву Сьвятога Духа ў славутым манастыры пры Вострай Браме. Нарадзіўся ён у Менску, у 1559 годзе. Ведама таксама, што ён, як і ягоны бацька, быў менскім рамесьнікам-кушняром.

Затым ён увайшоў у закон езуітаў. Крыху пабыў у Рызе, у кляштары. Доўгі час ён жыў у Нясьвіжы, дзе быў у езуітаў пекарам. Тут у 1594 годзе Франкевіч сустрэўся з выбітным эўрапейскім архітэктарам — італьянец Джаваньні Марыя Бэрнардоні (Giovanni Maria Bernardoni) прыехаў на запрашэньне Радзівіла Сіроткі. За тыя гады Бэрнардоні здолеў навучыць усяму, што ведаў сам, свайго маладзейшага сябра, Франкевіча. Менавіта Ян Франкевіч ставіў купал над

нясьвіскім касьцёлам Божага Цела. Пра гэта сьведчыць выяўлены пры канцы XX стагодзьдзя, ва ўкраінскай Акадэміі Навук, арыгінальны альбом архітэктурна-будаўнічых праектаў дойліда й малявальніка Яна Франкевіча. Ён датуецца 80-мі гадамі XVI стагодзьдзя. У альбоме — багата малюнкаў, праектаў, абмераў, архітэктурных і скульптурных шкіцаў. Выглядае, што гэта быў адначасова й канспэкт, і дзёньнік, і нататнік, і альбом для маляваньня. Мова макаранічная, але дамінуе беларуская, у лацінкавай трансьлітарацыі. Напрыклад, вось такая цытата (у арыгінале — лацінкаю): *«Сэмінарыюм места нясьвіскага, збудаваны мяшчанамі нясьвіскімі, мае ў сабе 40 локцяў і зроблены з дрэва. Але я нарысаваў як мураванае...»* Дадаецца фантазійны красьлюнак. Гэты найкаштоўнейшы помнік нашага пісьменства й мастацкай культуры быў выяўлены ў бібліятэцы АН Украіны, што ў Кіеве, у 1989 годзе гісторыкам Г. Галенчанкам. А дасьледаваны быў пазьней гісторыкамі архітэктуры Т. Габрусь і В. Калніным. Але да канчатковага вывучэньня альбому Яна Франкевіча яшчэ далёка. Незразумелыя застаюцца дзясяткі малюнкаў і красьлюнкаў, ня вывучаныя належным чынам тэксты. Гэтак, беларускі кушнер і пекар, які ніколі ня бачыў Італіі ды наагул ніколі не зьяжджаў зь Беларусі, стаў першым у нашых краях архітэктарам эпохі барока. Маладому тады закону езуітаў бракавала, як бы сёньня сказалі, кваліфікаваных кадраў, таму, калі паўстала патрэба будаваць віленскі езуіцкі кляштар з касьцёлам сьвятога Казімера, выбар зрабілі на карысьць Франкевіча. Гэта было ў 1604 годзе. Будоўля расьцягнулася на 14 гадоў, але ў выніку паўстала ў Вільні бажніца ў няведамым тады тут стылі — барока. Паводле пляну і першапачатковага вобразу гэтая сьвятыня амаль дакладна паўтарала рысы касьцёлу Божага Цела, што ў Нясьвіжы. Але касьцёл сьвятога Казімера шматкроць перавысіў памерамі свой правобраз. Адно вышыня купала сягае на 40 мэтраў угару. Ян Франкевіч, усьлед за сваім настаўнікам

Бэрнардоні, імкнуўся стварыць бажніцу як мадэль Сусьвету: просты крыж, а над ім — купал, як мэтафара Ўсясьвету.

...Дарэчы, па вайне савецкія літоўскія ўлады яго былі замкнулі, а пазьней утварылі тут Музэй рэлігіі й атэізму. Божа ты мой! Ведаў бы пра тое Ян Франкевіч. Ды ўрэшце ўсё гэта скончылася. Ізноў гучыць пад яго скляпеньнямі арган ды б'юць званы на званіцах. Імя нашага слыннага дойліда па-ранейшаму застаецца вядомае толькі самаму вузкаму колу адмыслоўцаў.

Франкевіч перабудоўваў касьцёл сьвятога Яна. Яго гісторыя пачалася ў 1387 годзе, калі на гарадзкой гандлёвай плошчы паўстаў драўляны касьцёл, фундатарам якога выступіў вялікі князь літоўскі і кароль польскі Ўладзіслаў Ягайла. Гэта быў першы парафіяльны касьцёл Вільні. Ён меў выцягнуты трохнэфны кафалікон, восем апорных слупоў падтрымлівалі скляпеньні роўнавысокіх травэяў цэнтральнага і бакавых нэфаў, утвараючы, такім чынам, зальны аб'ём бажніцы.

На месцы гэтай сьвятыні ў канцы XIV — першай чвэрці XV стагодзьдзя паставілі мураваны касьцёл, асьвячоны ў 1427 годзе як касьцёл сьвятога Яна Хрысьціцеля і сьвятога Яна Эвангеліста. Падчас рамонтаў да бакавых фасадаў прыбудавалі дзьве капліцы. У 1571 годзе вялікі князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт Аўгуст перадаў касьцёл езуітам, якія прыбылі ў Вільню зь Нямеччыны. У час вялікага пажару ў Вільні 1 ліпеня 1610 году згарэў дах касьцёлу і ўся прылеглая да помніку драўляная забудова. Касьцёл стаяў напаўразбураны. Пра перабудоўваньне ж ёсьць паданьне. І досыць вусьцішнае…

*Памёр у Вільні адзін багацей. У касьцёле сьвятога Яна паставілі адмысловы катафалк... А ўначы злодзеі вырашылі скрасьці дарагія пярсьцёнкі й ланцугі*

*памерлага. Дзеля таго затрымалі тыя злыдні хлопца, які меўся той ночы пільнаваць касьцёл. Пагражаючы яму сьмерцю, змусілі яго паздымаць зь нябожчыка пярсьцёнкі, каб затым перадаць ім іх праз вакенца. Хлапец, які шматкроць ужо начаваў у гэтым касьцёле, гэтым разам адчуваў невыказную трывогу. Дрыжучы ад жаху, узяўся за палец нябожчыка, абы як найхутчэй паздымаць пярсьцёнкі. Але... нябожчык раптам заварушыўся ў труне, сьціснуў рукі, расплюшчыў шырака вочы і загадаў гучным голасам:*

*— Браты, нябожчыкі, ратуйце мяне!*

*Пачалі рухацца камяні пахавальныя, ламацца саркафагі, і, зь ляскатам расчыняючы дзьверы, вызваляцца ўваходы ў скляпеньні. Зь пякельнага вагню з трунаў паўставалі памерлыя і напаўнялі касьцёл... Увесь той тлум нябожчыкаў складаўся з магнатаў, сэнатараў, князёў-рыцараў і заможных мяшчанаў, не бракавала таксама і кабетаў ды нават немаўлятаў...*

*Злодзеі, чакаючы пад вакном, як пачулі той гвалт пякельны, паўцякалі. Хлапец, напаўпрытомны ад жуды, вырваўся з рук нябожчыка. Але памерлыя даганялі яго. Тады хлапчына зь вялізарным пачуцьцём пеаражагнаўся і ўзмаліўся:*

*— Езус, Марыя!*

*І тады з тае вышыні, на якую ўзьлезьлі, абрынуліся нябожчыкі ўніз, разам з сваймі трунамі ды надмагільнымі камянямі. Калі раніцаю касьцёл адамкнулі, людзі пабачылі наўкол безьліч костак ды мерцьвякоў сярод перакуленых надмагільляў, трунаў ды плітаў. Усё было параскурочана, уваходы ў пахавальні параскрываныя, дамавіны амаль усе пустыя, за выняткам некаторых, у якіх, як сьцьвярджае паданьне, спачывалі сном вечным айцы езуіты. Бо толькі, бадай, яны і былі без граху.*

*Тады прыступілі да разбору тых парэштках ды іхных трунаў, дзе яны калісь ляжалі. Трывала гэта ажно два тыдні, гэткае было іхнае мноства. Усіх тых нябожчыкаў перавезьлі за Рудніцкую браму і там, за касьцёлам сьвятога Сьцяпана, што й дасёньня стаіць за віленскім аўтавакзалам, пахавалі.*

Паданьне паданьнем, без гратэску тут не абышлося, але факт: касьцёл сьвятога Яна быў моцна пашкоджаны да прыезду Яна Франкевіча. Відавочна, гэта сталася вынікам бясконцых пахаваньняў у тоўшчы гатычных муроў. Вось яны і ня вытрымалі. Таму аднаўляць сьвятыню давялося нашаму земляку. Пра выгляд, які набыў касьцёл сьвятога Яна, мы можам меркаваць паводле красьлюнкаў і праекту Яна Франкевіча, што цудам ацалелі ды перахоўваюцца цяпер у адным з кіеўскіх архіваў. Калі параўнаць тыя старыя праекты пачатку XVII стагодзьдзя і цяперашні плян касьцёлу, то можна заўважыць, што ў агульных сваіх рысах будынак з тых часоў не зьмяніўся. Да нас дайшлі й скляпеньні, і бакавыя фасады, і вокны гэткімі, якімі іх узьвёў дойлід Франкевіч/Франковіч.

Ён стаў самым славутым на тыя часы архітэктарам. Езуіт Франкевіч, працуючы на свой закон, будаваў ня толькі касьцёлы, але і праваслаўную царкву Сьвятога Духа. Цяжка гэта ўсьвядоміць, памятаючы блізкую гісторыю міжканфэсійных дачыненьняў. Але неўзабаве, па сканчэньні вялізарных будаўнічых працаў у Вільні, праз колькі ціхамірных багатых гадоў, ізноў пачаліся войны... Праўда, стары дойлід Ян Франкевіч ужо расстаўся з сьветам гэтым у 1627 годзе і ня мог бачыць, як нішчыцца справа ягонага таленту. 8 жніўня 1655 году ад рана, калі люд віленскі кленчыў і маліўся ў бажніцах, у Вільню ўварваліся дзясяткі тысяч казакоў, што былі перадавымі войскамі арды маскоўскага цара Аляксея. За адзін той дзень у Вільні загінула палова насельніцтва гораду. Казакі падпалілі места з усіх бакоў. Пажары трывалі цэлы месяц, бо не было каму іх гасіць. І ад

расквітнелага места з найпякнейшымі бажніцамі засталіся толькі груды друзу і попелу. А як увайшоў сюды й сам цар Аляксей, то ў Вільні трэба было Вільні шукаць. Адбудоўваць горад давялося ўжо наступнаму пакаленьню беларускіх дойлідаў...

Вільня, якую стагодзьдзямі будавалі нашыя продкі, уяўляе сабою адзіны і непадзельны скарб. Дойліды-беларусы, ставячы тут сьвятыні й палацы, здолелі ўзьняцца да напраўду эўрапейскага ўзроўню архітэктурнага майстэрства.

У 1674 годзе касьцельныя скляпеньні ізноў абрынуліся. У пажары 2 чэрвеня 1737 году выгарала частка Вільні з касьцёламі сьвятой Магдалены, сьвятога Ігнацыя, францысканцаў, дамініканцаў. Агонь ахапіў гэтаксама касьцёл сьвятога Яна зь вежай-званіцаю й калегіюм. Згарэлі драўляныя аўтары, крыжы, амаль што ўсе абразы, новы арган і нават труны ў капліцах. Ацалела адно сакрыстыя, дзьверы якой былі абабітыя жалезам.

Ізноў выпала адбудоўваць Вільню беларускім дойлідам...

Праект рэстаўрацыі распрацаваў віленскі архітэктар Ян Глаўбіц, пратэстант-лютэранін, які працаваў у віленскіх езуітаў у 1737—1748 гадах. Для касьцёлу сьвятога Яна напрыканцы 1730-х адлілі новыя званы. Гэтую працу выканаў беларускі майстар-ліцейнік з Слуцку Ян Тамашэвіч.

Пасьля менчука Франкевіча самым славутым беларусам-дойлідам у Вільні быў Тамаш Жаброўскі. Нарадзіўся ён пад Наваградкам, у вёсцы Мітраполь у 1714 годзе. Яго ўважаюць за клясыка стылю ракако. Ён таксама быў езуітам і доўгі час выкладаў у іхнай віленскай Акадэміі матэматыку, архітэктуру і астраномію. Пры ўстанове ён і пабудаваў у стылі ракако славутую абсэрваторыю для сваіх дасьледаваньняў,

якая цудоўна перахавалася і да нашых дзён.

Таксама ў Вільні ён пабудаваў у 1748—50 гадох касьцёл сьвятога Ігната зь езуіцкім кляштарам, дзе засталіся багатыя аздобы паводле ягоных праектаў, а таксама кіраваў чарговаю перабудоваю касьцёлу сьвятога Яна. Касьцёл сьвятога Яна перабудоўвалі яшчэ больш за 150 гадоў, пасьля Жаброўскага.

Дарэчы, і апошнія ўпрыгажэньні, і будаўнічыя працы скончыліся толькі ў 1778 годзе, паміж першым і другім падзеламі Рэчы Паспалітае. Тады паводле праекту выбітнага беларускага дойліда Габрыеля Лянкевіча, прафэсара архітэктуры Полацкага калегіюму езуітаў, завершылі рэканструкцыю капліцы Агінскіх і аформілі фасад прэзьбітэрыю, што выходзіць на вуліцу.

Скончыўшы апошнія работы ў гэтым выбітным касьцёле, Габрыель Лянкевіч вярнуўся ў Полацак, дзе ачоліў Полацкі калегіюм, стаўшы ягоным рэктарам. Лянкевіч, зрэшты, не праводзіў карэнных капітальных рэканструкцыяў, ён толькі дадаваў свайго, для хараства... Упрыгожаная Лянкевічам бажніца сьвятога Яна з званіцаю набыла завершаны выгляд. Але і затым яе рэканструяваў наш зямляк Караль Падчашынскі, родам з Жырмунаў, што на Воранаўшчыне.
У 1839 годзе ў сьвятыню прывезьлі арган з полацкага касьцёлу сьвятога Стафана, што быў разрабаваны маскалямі ды перароблены на іхную царкву. На гэтым полацкім аргане ў Вільні граў слынны кампазытар зь Менску Станіслаў Манюшка, аўтар музыкі да першае беларускае опэры «Ідылія»...

Аснову сучаснага касьцёлу складае трохнэфавая зальная пабудова, якая з усходу заканчваецца не традыцыйна вылучанаю аўтарнаю апсыдай, а трохграннай аўтарнаю сьцяною, што ёсьць прыкметаю готыкі. Муры аўтарнае часткі і бакавых фасадаў кафалікону прарэзаныя высокімі стральчатымі

вокнамі, аформленымі складанапрафіляванаю цэглаю. Недалёка ад паўднёва-заходняга рогу касьцёлу высіцца вежа-званіца, што крыху выступае за лінію галоўнага фасаду. У сваёй аснове яна захавала гатычныя сьцены, пазьней апрацаваныя і надбудаваныя ў стылі барока і часткова клясыцызму.

У міжваенным часе й да 1941 году ў касьцёле сьвятога Яна быў вікарыем слынны беларускі ксёндз Станіслаў Глякоўскі… Дарэчы, на адрэстаўраваным аргане з Полацку першым, у 2002 годзе, заграў беларускі славуты арганіст Аляксандр Ісакаў...

## Ab ovo[1]

Калі пашукаць у нашай гісторыі адцінак, што сваім духам ці маштабамі пераўтварэньняў быў бы падобны на нашага сьветавычуваньня, то… мне знайшоўся б фрагмэнт, зьвязаны з цараваньнем над нашым краем расейскага самаўладца Паўла Першага. Чуткі ды здагадкі пра ягонага сапраўднага бацьку станавіліся тэмаю плётак яшчэ пры ягоным жыцьці. Праз сваю любоў да мундураў і шматлікіх парадаў, няўрымсьлівую заканатворчасьць і дзівакаватыя паводзіны Павал паўстае ў гістарыяграфіі перадусім чалавекам капрызным, разбэрсаным, які ня ведае, чаго ён хоча. Гэта так нам знаёма: разрыў з папярэднім чыноўніцтвам, неадназначныя павароты ў вонкавапалітычнай арыентацыі, узбуйненьне войска й паліцыі, адмена прывілеяў дваранаў і мяшчанаў, усталяваньне новага парадку атрыманьня пасаду ў спадчыну… Да таго невялічкага акрайца гісторыі між XVIII і XIX стагодзьдзямі варта прыгледзецца хаця б таму, што на мапах упершыню ўзьнікла Беларусь, як рэальная палітыка-адміністрацыйная адзінка з сталіцаю ў Віцебску. Дзівак-імпэратар Павал Першы злучыў Полацкае й Магілёўскае намесьніцтвы ў адну вялікую Беларускую губэрню. Вось так, проста, як яйка! Не хапала толькі імпэратарскага залатога жазла, каб стукнуць па тым яйку, зь якога вылупілася нязнаная раней птушка.

Пры тым за тыя паўтузіна гадоў, пакуль існавала губэрня, той цар пасьпеў зьмяніць ажно пяцёх

[1] Літаральна «зь яйка» (лац.). «З самага пачатку».

губэрнатараў! Што казаць, калі за сваё нядоўгае цараваньне Павал, які проста фантанаваў ідэямі рознага маштабу, выдаў ажно 2179 заканадаўчых актаў! Цар адправіў у адстаўку сямёх маршалаў і больш як трохсот старэйшых афіцэраў за дробныя правіны або проста таму, што яны яму не падабаліся. Перасьледаваліся сотні людзей, якіх цар палічыў «якабінцамі». Ён вярнуў цялесныя пакараньні для дваранаў, зьменшыў паншчыну й аброк, тым самым моцна абмежаваўшы прыгоннае права.

Сам жа цар Павал з задавальненьнем паўтараў: *«Я толькі жаўнер і ня ўмешваюся ні ў кіраваньне, ані ў палітыку».* І ён, першы мажнаўладца канкрэтнага афіцыйнага ўтварэньня — Беларусі, нарабіў тут справаў, што перадвызначылі шмат якія бакі нашае сучаснасьці. Ён, дарэчы, пацьвердзіў дзеяньне ў справаводзтве Вялікага Статуту Літоўскага на нашых землях. Адпусьціў зь вязьніцы Касьцюшку й амніставаў ягоных паплечнікаў. Менск тады быў ня толькі цэнтрам вялізарнай губэрні, але й новай праваслаўнай япархіі з сэмінарыяй. На распараджэньні цара Паўла нунцый Лаўрэнці Літа арганізаваў і апрычоную Менскую дыяцэзію з сэмінарыяй. Надышоў сапраўды «залаты век» для каталіцызму ў Беларусі. Першым менскім біскупам стаў віленскі канонік Якуб Дадэрка, *«удастоены міласьці»* імпэратара Паўла... А паўлаўскі губэрнатар-масон Захар Карнееў заклаў славуты Губэрнатарскі сад, што носіць цяпер імя пралетарскага пісьменьніка Горкага. З 1799 году ў Беларусі на загад Паўла Першага былі ўтвораныя пасады фіскалаў, якія абавязаныя былі *«разьведваць аб усялякіх злоўжываньнях і маўклівым уціску жыхароў»*. То бок кшталту прынцыпу «аднаго вакна», у абыход усіх іншых законных формаў. Тутэйшы люд ня ведаў, як ставіцца да такіх пераменаў на лепшае. Праўдападобна, што па-свойму Павал Першы любіў наш край шчыра. Ён з малым Міколам і зь іншымі сваймі сынамі ня раз гасьцяваў у Беларусі — у Менску, Слоніме, Лідзе.

У Беларусі часоў Паўла былі выдатныя дарогі з шлагбаўмамі ды паліцэйскімі будкамі, пафарбаваныя платы і фасады, што выходзілі на тыя дарогі. Вонкава гэта было падобна да культурнага ладу. Амаль Эўропа. У Беларусі дзівакаваты Павал Першы, урэшце, мала каго пакрыўдзіў. Хоць і зразумець яго не было каму. А вось ягоны сын Мікалай пакінуў тут зусім іншы сьлед.

43-гадовы Павал уяўляў сабой дзіўную сумесь жорсткасьці і плюгкасьці, містыцызму і мэркантыльнасьці. Сумленны, шчыры й пабожны ў свае маладыя гады, ён стаў, урэшце, недаверлівым і неўраўнаважаным. Дзікія выхадкі ды прыступы лютасьці станавіліся ўсё больш частыя, даходзіла да таго, што цар абражаў жонку нават у прысутнасьці слугаў! Пры тым ён стараўся выглядаць паважна. Але сур’ёзны выгляд, што ён на сябе напускаў, скаваныя манеры й пазёрства рабілі яго яшчэ больш камічным. Ён забараніў круглыя шапкі, доўгія нагавіцы, боты з адваротам, чаравікі з матузкамі. Тыя, хто ня меў сродкаў, насілі маленькія шапкі, з дапамогаю шпілек перарobленыя ў трохвуголкі, і закатаныя штаны, зацягнутыя пад каленам. Менш як за 5 гадоў ён дзевяць разоў зьмяніў мундуры коннай гвардыі!

Затое большасьць падданых гэтага цара яго ненавідзела й баялася, бо непрадказальныя дзеяньні раздражнялі, бянтэжылі, несьлі пагрозу звыкламу ладу, а значыць, і асабістаму дабрабыту мешчаноты, чыноўніцтва і дваранства. Небясьпека пэрсаніфікавалася ў імпэратары, і сьмерць Паўла, паводле шматлікіх сьведчаньняў, амаль ні ў кога ня выклікала шкадаваньня. Дарэчы, ён, высьвятляецца, справядліва ўвесь час баяўся, што яму здрадзяць, зарэжуць або атруцяць. З згоды старэйшага сына яго забілі.

Можа быць, за гратэскнымі праявамі самадурства і вусьцішнымі дэкларацыямі таілася, пэўна й ня цалкам

усьвядомленае, інтуітыўнае імкненьне па-новаму кіраваць краінаю. Тады яшчэ паўсярэднявечнаю. Вырваць яе з абдоймаў Азіі й уставіць між народаў Эўропы.

Між іншага, на дабрабыт тады ніхто не наракаў. Дакладней, за царом Паўлам горш людзям ня стала. Ці магло быць тады лепш — пытаньне, што так і засталося без адказу. Затое мы сёньня ведаем пэўна: імя Беларусі назаўжды ўвайшло ў палітычную гісторыю пры гэтым бажавольным салдафоне, які марыў быць сапраўдным эўрапейскім рыцарам.

## Клаўдзі Дуж-Душэўскі[1]. Сьцяг

...Сьцягі не існуюць самі па сабе. Людзі, далёкія ад гісторыі з геаграфіяй, надаюць ім часам неўласьцівы сэнс. У 80-я адзін мой знаёмец пажартаваў, што ступень дэмакратыі вызначаецца колькасьцю палосаў на сьцягу, маючы на ўвазе Кітай і СССР. У тыя гады модным дэкаратыўным элемэнтам быў сьцяг ЗША. Яго наляплялі паўсюль, дзе было магчыма: на штаны, рамяні, торбы... У гэткай любові да нацыянальнага сымбалю Амэрыкі было, вядома, ня столькі эстэтычнага захапленьня, колькі жаданьня задэманстраваць сваю апалітычнасьць. Нікога тады не абыходзіла гісторыя й сэмантыка сьцяга ЗША. Гэта быў сымбаль памкненьняў, тады яшчэ цьмяна ўяўных...

...Гісторыя й сэмантыка нацыянальных сьцягоў часьцяком пакручастая й парадаксальная. Сьцяг рэспубліканскае Францыі, узьняты ў 1789 годзе, як ні дзіўна, увабраў у сябе самыя старажытныя фэадальныя й клерыкальныя сымбалі. Сіні — колер плашча сьвятога Марціна, які адсек мячом ад яго кавалак, каб ухутаць жабрака. Аж з часоў караля Хлёдвіга, з 496 году, гэты колер — нязьменны францускі сымбаль. Чырвоны — колер сьцяга імпэрыі Карла Вялікага, прыняты ў 800 годзе. А ў 1498-м францускі сьцяг стаў белым — фамільным сьцягам Арлеанскае дынастыі

[1] Клаўдзі Дуж-Душэўскі (1891, Глыбокае — 1959, Вільня), архітэктар, выдавец, журналіст, грамадзкі дзеяч. Скончыў Віленскую рэальную вучэльню. У 1912–1917 вучыўся ў Пецярбурскім горным інстытуце. У 1921 адʼехаў у Коўна. У 1924 скончыў Літоўскі ўнівэрсытэт. Аўтар дзясяткаў будынкаў у Коўне, Панявежы, Клайпедзе, Шаўлях. Рэдактар часопісу «Беларускі асяродак».

каралёў. Злучаныя ў раўначасткавы трыкалёр, сымбаль Сьвятое Тройцы, сіні, белы й чырвоны сталі сьцягам... рэвалюцыі. Натуральна, народ не зьбіраўся паглыбляцца ў выкрунтасы дрымучае гісторыі, папросту гэты сьцяг паўстаў зь нетраў ягонае душы, як натуральна дадзены ад прыроды...

...Большасьць сьцягоў сьвету была створаная на мяжы XIX і XX стагодзьдзяў. Дасьледнік Вячаслаў Насевіч заўважае: *«Паколькі далёка ня ўсе эўрапейскія нацыі ў XIX стагодзьдзі мелі сваю дзяржаўнасьць, тады ж узьнікае і паняцьце нацыянальнага сьцяга як сьцяга нацыі, якая на гэткую дзяржаўнасьць прэтэндуе. Такую ролю выконваў, у прыватнасьці, бела-чырвоны польскі сьцяг ці эстонскі сіне-чорна-белы, які ўзьнік у 1881 г.»*[1]. І ў кожнага зь іх быў свой аўтар. Мастакі абагульнялі легенды, удасканальвалі традыцыю, кампанавалі ў эталён. Стварэньне нацыянальных сымбаляў — асобны разьдзел у гісторыі мастацтва. Напрыклад, расейскі мастак Мсьціслаў Дабужынскі стварыў сёньняшні сьцяг Літвы. Праўда, літоўцы ўсё ж настаялі, каб жоўтая паласа была не пасярэдзіне, а зьверху. Аргумэнтам Дабужынскага было тое, што ў эўрапейскай геральдыцы колеры (эмалі) павінны разьбівацца белым ці жоўтым (мэталам). Аргумэнт літоўцаў быў нечаканы: студэнты-літоўцы насілі на фуражках жоўтую стужку толькі ўверсе. З таго часу сьцяг Літвы падобны да сьцягоў Этыёпіі, Габону і Ганы...

...Напрадвесьні свае дзяржаўнасьці, да 1917 году, беларусы пэўна ведалі, што іхны знак — белая Пагоня на чырвоным тле. Аднак эталёну сьцяга не было. Існавалі паданьні, існавала народная сэмантыка арнамэнту. У часе лютаўскае рэвалюцыі беларусы паслугоўваліся чыста белым сьцягам, на якім зьмяшчалі лёзунгі. Аднак неўзабаве гэткі варыянт

---

[1] Насевіч, Вячаслаў. Гэты сцяг пачынаўся так… // Чырвоная Змена. 1995. 20 красавіка. №42 (13 900); тое ж: http://vln.by/node/47.

падаўся недасканалым. Пытаньне пра сьцяг паўстала рубам. Як і ўсе пытаньні ў тым годзе... Беларускія арганізацыі Пецярбургу зьвярнуліся да маладога архітэктара, выпускніка Пецярбурскага горнага інстытуту, Клаўдзія Дуж-Душэўскага, актывіста-выдаўца й тэатрала. Ва ўспамінах за 1934 год, напісаных па-літоўску, Дуж-Душэўскі адзначае, што беларусы ўважалі сваім дзяржаўным сьцягам той, што і літоўцы: белую Пагоню на чырвоным полі. Але нацыянальнага сьцяга не было. Піша, што яму давялося зрабіць некалькі праектаў нацыянальнага сьцяга, і адзін зь іх быў прыняты, менавіта: бел-чырвона-белы. З таго часу гэты сьцяг і лічыцца за беларускі. На жаль, аўтар не назваў даты зацьверджаньня свайго эскізу і хто менавіта яго зацьвярджаў. Мне асабіста было б цікава ўявіць і іншыя варыянты магчымага сьцяга. Праўда, сёньня гэтага зрабіць нерэальна... Паводле запісаных у 1968 годзе Адамам Мальдзісам успамінаў Язэпа Дылы, на Ўсебеларускім зьезьдзе выкарыстоўваўся чырвона-бела-блакітны сьцяг. Што гэта? Фальсыфікацыя? Памылка? На жаль, сёньня гэтага ўжо ня спраўдзіць...

Пра тое, што менавіта Душэўскі быў аўтарам сьцяга, я часта чуў у Вільні, і ні ў кога гэта не выклікала сумневу. Сын Дуж-Душэўскага Сьцяпан падрабязна выкладаў бацькаву канцэпцыю. Паводле яе, бел-чырвона-белыя кукарды й стужачкі на фуражках насілі студэнты-беларусы ў Пецярбурзе яшчэ да 1915 году. У гэтыя ж колеры спавіваліся розныя ўрачыстыя аздобы, сымбалізуючы ў стылізацыі народны арнамэнт. Праўда, гэткія ж колеры былі і ў латышоў. А таму беларусы з-за сваёй прыроднае сьціпласьці не сьпяшаліся «тузануць на сябе коўдру». Гэтак цягнулася датуль, пакуль латыскі мастак Яніс Гросвалдс (Jānis Grosvalds) не зрабіў праекту бел-чырвона-белага сьцяга для латыскіх стралкоў, які яны мусілі б узьняць над Мітаваю ў выпадку вызваленьня яе ад немцаў... З гэтае прычыны беларусы былі ў разгубленасьці, пакуль у 1917 годзе латышы не спынілі свайго выбару

на кармінавым палотнішчы зь белаю паласою. Такі варыянт нацыянальнага сьцяга Латвіі канчаткова зацьвердзілі ў траўні. З гэтай беларуска-латыскай спрэчкаю зьвязаны й славуты інцыдэнт падчас адкрыцьця Ўсебеларускага зьезду: нейкі латвійскі бальшавік заклікаў беларусаў адмовіцца ад гэткага сьцягу. Заля ўскалыхнулася ад абурэньня. Латыскі таварыш, напэўна, даўно не бываў на радзіме й ня ведаў, што ўсё ўжо залагодзілася.

У які ж дзень і дзе ўзьнялі сьцяг? Паводле сьведчаньняў, увесну 1917 году ён быў у Пецярбурзе на будынку Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. Дарэчы, Дуж-Душэўскі супрацоўнічаў з гэтым Таварыствам з 1916 да 1918 году. Падобна, што гэта магла быць менавіта ягоная ініцыятыва. Сьцяг Беларусі залунаў у падбітай сталіцы зруйнаванае імпэрыі. Неўзабаве штандар рушыў у Беларусь. 12 сакавіка ў Менску адбылося масавае сьвята — нацыянальны Дзень беларускага значка. Бела-чырвона-белыя значкі, кукарды й сьцяжкі можна было пабачыць паўсюль на вуліцах. Сьцягі, пашытыя паводле эскізу Дуж-Душэўскага, былі разасланыя ў мясцовыя арганізацыі. Радаслаў Астроўскі сьведчыў, што ён сам атрымаў сьцяг у траўні 1917-га ў Слуцку, дзе ў той час працаваў. На тым сьцягу было вышыта золатам: «Няхай жыве вольная Беларусь». У сьнежні 1917 году ў Менску падчас Усебеларускага зьезду бел-чырвона-белы сьцяг ужо адзінадушна ўважаўся за нацыянальны сымбаль Беларусі...

...На якім доме ўпершыню быў падняты сьцяг у Беларусі? На дзіва, усе помнікі Менску, зьвязаныя з эпохаю БНР, ацалелі. Гэта і славуты гарадзкі тэатар, дзе 7 сьнежня 1917 году трыюмфаваў Усебеларускі зьезд, разагнаны праз 11 дзён бальшавікамі. Гэта і будынак чыгуначнага дэпо, куды перабралася Рада Ўсебеларускага зьезду, сапраўдным дзівам яшчэ ацалелы паміж рэйкавых шляхоў. Гэта і будынак былога

Царкоўна-археалягічнага музэю, у якім абвесьцілі БНР, добра вядомы менчукам як «домік з шакалядкі», на якім яшчэ няма мэмарыяльнае дошкі, ужо вырабленай скульптарам Шатэрнікам. Гэта, нарэшце, і былы губэрнатарскі палац, дзе засядаў Народны сакратарыят. Менавіта гэта і ёсьць першы будынак у Менску, над якім вольна залунаў наш сьцяг — сымбаль Волі. Гэта быў дзень уцёкаў бальшавікоў зь Менску — 19 лютага 1918 году. Сьцяг быў зьняты кайзэраўскімі вайскоўцамі. Пра гэта, дарэчы, зь ня надта ўцямнаю радасьцю шматкроць паведамлялі савецкія гісторыкі. Але штопраўда — нямецкаму афіцэру не прыйшло ў галаву разьдзіраць на шматкі нацыянальны сымбаль беларусаў. Застаецца загадкаю, куды ён трапіў пазьней... Агульнанацыянальная ж вартасьць гэтага помніку, як Дому Беларускага Сьцяга, разумелася яшчэ тады. Ужо ў кастрычніку 1918 году ў менскім часопісе «Варта» быў зьмешчаны славуты здымак былога губэрнатарскага палацу, на гаўбцы якога лунае бел-чырвона-белы сьцяг.

...У 1917 годзе ў Статуце беларускіх нацыянальных культурна-прасьветных гурткоў у войску перадапошні пункт у загадным парадку паведамляў: *«Кожын член беларускай грамады ў войску павінен насіць беларускі нацыянальны знак — белая стужка з чырвонай палоскай пасярэдзіне; усе тры палоскі — белая, чырвоная і белая — аднэй шырыні».* Нядаўна сярод збораў былога Інстытуту гісторыі партыі пры ЦК КПБ, што захоўваюцца ў Нацыянальным архіве Беларусі, дасьледнік Віталь Скалабан выявіў улётку аб'яднаньня «Беларускі гай». Гэтая культурна-асьветніцкая арганізацыя была ўтвораная ў сьнежні 1917 году ў Адэсе пры Беларускай вайсковай радзе Румынскага фронту, дзе і зьявіўся гэты цікавы дакумэнт, надрукаваны, дарэчы, чырвонаю фарбаю. Ахайны бел-чырвона-белы аркушык... Красамоўным сьведчаньнем легітымнасьці нашага сьцягу яшчэ ў той час ёсьць ягоныя выявы на гэтай улётцы, дзе яны аздабляюць

заклік: «Братья-Белорусы, объединяйтесь!» Сам тэкст выдрукаваны па-расейску, што ў пэўнай ступені лягічна ў тыя гады і ў тым месцы. Але сымбаль, сымбаль мусіў чытацца адназначна любым беларусам, да якога й апэлявалі «гаёўцы»... Гэткім сымбалем стаў сьцяг. Душэўскі не памыліўся.

Як бы глыбака не адшукваліся карані сьцяга, у крывіцкіх харугвах ці ў штандарах Уладзіслава IV, перадусім аўтару дакладна трэба было вычуць тое, што беларус пазнае як сваё. І гэта сталася. Не пасьпеў яшчэ сьцяг трапіць ва ўсе куткі краю, як яго ўжо ўважалі за неад’емную частку беларускасьці. Вацлаў Ластоўскі пісаў: *«Белыя нагавіцы, белая кашуля, белая сьвітка, падпераханая чырвоным паясом — вось сыльвэтка беларуса. Зразумела, што і нацыянальны сьцяг беларусаў бел-чырвона-белы. Ён прыгадвае нам нашую белую сьвітку з чырвоным паясом»*[1].

Тамаш Грыб жа паэтычна тлумачыць белую барву як уяўленьне сьвятла і зазначае, што згэтуль, мабыць, паходзіць і назва Беларусі — белая, чыстая, вольная, як сьвятло сонца. Ня менш пашыраная, працягвае дзеяч, у Беларусі і чырвоная барва, як чырвоны ёсьць золак на небе перад узыходам сонца; таму наш бел-чырвона-белы сьцяг — сьцяг адраджэньня і вызваленьня беларускага народу. Цікава, што ўспрымаючы сьцяг па нейкім кароткім часе як нешта цалкам натуральнае й дадзенае ад Бога, беларусы згубілі й дату яго нараджэньня, і забыліся на аўтара...

Архітэктар Дуж-Душэўскі, які падпісваў свае праекты й малюнкі «Klod», а лісты да Антона Луцкевіча «Кляўдыя», ачоліў спачатку дыпляматыю БНР у краінах Балтыі, пасьля стаў дзяржсакратаром ва ўрадзе Ластоўскага... Па зьняволеньні палякамі ў 1921 годзе ён пакінуў Беларусь, краіну, якой падарыў Сьцяг.

---

1 Паводле http://www.angelfire.com/wv/uv/images/vlast1.html.

## Водар свабоды

Усе гарады маюць свае водары, што ўласьцівыя толькі ім. Вільня, напрыклад, пахне тарфяным дымам з комінаў у адлігі ды хвояй у цёплыя летнія ночы. У Мсьціславе вас спаткае густы пах хлеба, які ў любы час разьліваецца над горадам ад тутэйшых пякарняў. Адзін мой прыяцель з Рыгі недзе напрыканцы 80-х заўважыў, што ў Менску пахне ліпаю. У тыя гады ліпаю ў гарадзкім жаргоне называлі й падробку. Выйшаў дасьціпны латыскі жарт. А й сапраўды ўсе летнія месяцы над Менскам лунае ліпавы водар. Калі вы не заўважаеце паху гораду, значыць, вы жывяце ў ім...

Напачатку сакавіка 90 году ў Менску патыхала адлігаю. Кіслотны смог ад заводзкіх ліцеек перамешваўся з чорным дымам аўтобусаў і цэлым букетам пахаў чыгункі й трамваяў. Тады шпалы былі яшчэ драўляныя. І пах шпалавае прапіткі пасьля маразоў доўга вісеў у паветры, ажно пакуль не зьяўлялася лісьце на дрэвах. І прыватных легкавых машын у 90-м было ці не ўтрая меней. У Менску было цішэй.

Адным гэткім адліжным днём мы з прыяцелем, архітэктарам Уладзіславам Рутам, заседзеліся ў Ленінскай бібліятэцы. Перагортвалі стосы беларускіх пэрыёдыкаў 10—20-х гадоў, шукаючы ідэяў для афармленьня першае газэты «Дзень Волі». Нас лучыла тады й атмасфэра падпольшчыны, і нэафіцкая радасьць першаадкрывальнікаў, якія шукалі сябе ў беларушчыне. Бо тады знайсьці што-небудзь сапраўды «БНРаўскае» было амаль немагчыма. Нарабілі багата эскізаў. Ажно праз колькі часу Ўладзіслаў, сын эмігрантаў-вяртанцаў

з Аргентыны, рашуча заявіў мне, што ўсялякае «рэтра» не пасуе да найноўшага выданьня. «Дзень Волі» мусіць выглядаць сучасна, а не як выцягнуты з гарышча. Адзінай саступкаю гістарызму застаўся надпіс на маім малюнку: «НЕЖАЛЕЗНАЯ», напісаны нейкім гомельскім шрыфтам 20-х гадоў. А лягатып атрымаўся стужкавы, які, на нашую задуму, на белым тле паперы мусіў асацыявацца зь сьцягам.

Што да самога малюнку, які як постэр быў вынесены на першую паласу, дык яго пасьля нават рэцэнзавалі ў камуністычным друку. Напрыклад, у «Политическом собеседнике»: *«Ананімны, але «дэмакратычна» (у двукосьсі) настроены мастак намаляваў Леніна на браневіку пасярод балота. А мне помніцца іншая карціна. Тысячы рабочых, салдатаў і матросаў віталі правадыра рэвалюцыі на Фінскім вакзале...»* Як кажуць, каму што помніцца... Але сьмех ня толькі ў незвычайнай памяці рэцэнзэнта, але і ў тым, што на малюнку былі толькі... ногі «правадыра рэвалюцыі». Аднак жа пільныя камуністы адразу пазналі СВАЙГО.

А вось ананімнасьць нам, хто афармляў тую газэту, у 90-м годзе яшчэ была патрэбная. Я, напрыклад, не губляў надзеі паступіць у Акадэмію мастацтваў, а Ўладзіслаў толькі што знайшоў сабе добрую працу ў рэстаўрацыі. Камуністычныя арганізацыі ў кожнай установе з усёй жарсьцю змагаліся за ідэалягічную чысьціню кадраў.

Сьмяяліся мы шмат пазьней. Напрыклад, з расейскага перакладу ў нейкай далёкай газэце эсэ Арлова «Незалежнасьць — гэта...». *«Независимость — это когда твоя девушка говорит, што хочет на уик-энд в вену...».* Слова «вена» было напісанае з малой літары. Выглядала, замест жаданьня наведаць аўстрыяцкі пасад, дзяўчына-наркаманка хоча ўкалоцца, каб быць хоць як незалежнаю... А ў красавіку 90-га было не да сьмеху. Газэту надрукаваць у Беларусі

было немагчыма. І таму давялося ехаць у Латвію, пад эстонскую мяжу, у маленькі горад Валміера (Valmiera). Ад Менску гэта 700 з гакам кілямэтраў. Каб усё было як сьлед, паехалі ўначы. І на кожным прыстанку нас сустракалі новыя водары гарадоў. Вільня, Панявеж, Баўска, Рыга, Сігулда. Тутака ўжо ўсё поўнаю хадою мянялася. Тут пахла незнаёмым нам тады паветрам свабоды.

Друкарня была ў адным мястэчку, а набор адлівалі ў іншым, у Лімбажы (Limbaži), амаль каля мора. Там я й намаляваў «пячатку БНР», бо здалося, што разварот газэты недастаткова расквечаны. Чырвоныя пячаткі расставілі па палосах. А вось жа фарбу на тую чырвань давялося купляць у... суседняй Эстоніі. І глыбока ўначы «Дзень Волі» трапіў у Беларусь.

## Новыя назвы на старых вуліцах

Тое, што адбылося з мною, як склаўся лёс маіх сяброў і паплечнікаў — зьява выключная, малападобная да іншых гісторыяў эпохі вялікага зломў імпэрыі.
На самым пачатку 1990-х мы перабраліся зь Беларусі ў Вільню. Мы былі пэўныя, што зробім тут для Беларусі болей, чым у Менску, тады «Вандэі перастройкі». Гэтаксама, як некалі й нашыя продкі, мы цягнуліся ў «сталіцу краю, у красуню Вільню». Нас было спачатку некалькі сем'яў: Дубаўцоў, Мінкіных, Шаўцовых, Шупаў, мая. Задачаю было — адрадзіць у гэтым сэрцы краю беларускае культурнае й палітычнае жыцьцё, каб уплывы адсюль ізноў праменілі ў Беларусь. Ехалі й у пошуках асабістага шчасьця. Пакрысе тут аказаліся й Лілея Плыгаўка, і Зьміцер Бартосік з Гомля, утварыў сям'ю малады гісторык Сяржук Вітушка, лідэр славутае менскае «Талакі», студэнтам з Магілёва сюды трапіў Андрэй Антонаў, які быў пасьпеўшы павучыцца ў маскоўскім Літаратурным інстытуце, перавёўся зь Менску ў тутэйшую Акадэмію мастацтваў Дзяніс Раманюк, цяпер вядомы фотамастак, сын вялікага беларускага этнографа і мастацтвазнаўца Міхася Раманюка…

Ясна, мы ехалі не на пустое месца. Напрадвесьні распаду краіны саветаў беларушчына закрасавала ў Вільні зноў. Беларускае жыцьцё тут заладзілася й бяз нас. Аднойчы доктар-псыхіятар Валдас Банайціс (Valdas Banaitis), эспэрантыст, чалавек шырокіх ведаў і шырокіх поглядаў, схадзіў на віленскі Галоўпаштамт і выпрасіў адрасы тых, хто выпісвае ў Літве беларускую газэту «Літаратура і Мастацтва». Гэтак азвалася

паўсотні людзей пэўнага культурнага й адукацыйнага ўзроўню, што й утварылі клюб «Сябрына». Затым паўстала Таварыства беларускай культуры ў Літве, тузін хораў, клюбаў, каапэратываў. Мэтаю беларусаў стала разбудова ўласнае прысутнасьці, адраджэньне беларускай грамадзкай дзейнасьці ў Вільні, уласнага рэлігійнага жыцьця. У 1989 годзе на літоўскім радыё загучала праграма «Навіны для беларусаў»… У пошуках сацыяльнага й духоўнага падтрыманьня людзі хапаліся за беларускія клюбы як за саломінку. Для іншых гэта была сьвядомая прага адстаяць сваю ідэнтычнасьць у зьменлівым сьвеце.

Для трэціх гэта было адхланьне, магчымасьць хоць на схіле гадоў азвацца нарэшце беларусам. Гэтак было ўтворанае Віленскае беларускае таварыства палітычных вязьняў і ссыльных. Дасёньня памятаю, як на адной сустрэчы сівы чалавек дагледжанага й саліднага выгляду з трымценьнем у голасе, хвалюючыся, сказаў з моцным літоўскім акцэнтам: *«Я сорак гадоў не гаварыў па-беларуску…»* Гэта быў Сьцяпан Дуж-Душэўскі, сын славутага архітэктара, стваральніка бел-чырвона-белага сьцяга, беларускага лідэра ў міжваеннай ковенскай Літве, сябра Мьціслава Дабужынскага й Вацлава Ластоўскага.

Зрэшты, было й звычайнае чалавечае жыцьцё. Для мяне — жыцьцё маладое…

Лета 1991 году. Ужо абвесьціла сваю незалежнасьць Літва. Яшчэ ёсьць СССР. Задушлівы ліпеньскі дзень. У школах, унівэрсытэтах — ціша. Рэдкія людзі гавораць міжсобку па-славянску, на калярытнай тутэйшай гаворцы. Літоўцы збольшага разьехаліся па Літве, да мора. Савецкія людзі шчыруюць у сваіх садах. Менавіта ў садах, а не на дачах. Гэтак тут казалі. А Вільня пустая. Палова старога гораду мае закінуты й нежылы выгляд. Ледзьве працуюць адзінкавыя прадпрыемствы. Раз на гадзіну ходзіць, нібы згубіўшыся, рагаты рыпучы

тралейбус. У такі дзень файна было схавацца ў засені зьдзічэлага Бэрнардынскага саду, на беразе хуткаплыннай, гульлівай, як маладзенькая котка, Вялейкі. Адчуць пругкасьць прагнага цела, вільгаць вуснаў і шурпатую сухасьць адзежы. Адчуць радасную слодыч збранзавелага ад лета цела й неабмежаваную бесклапотнасьць. І вяртацца ў жыцьцё адно пакліканьнем несупыннае порсткае рэчкі, якая па вострых камянях, пырскаючы растопленымі росамі, убіваецца ў магутную рабочую плоць аліўкавае Вяльлі, што цячэ сюды аж ад Нарачы. Хоць… Вільня ў кожнага свая.

Уся Вільня, яе горы, яе старадаўнія помнікі, маляўнічыя прадмесьці — суцэльны музэй пад адкрытым небам. А як яшчэ назваць горад, у якім сабрана столькі скарбаў чалавечага духу? Варта толькі спыніцца, агледзецца, убачыць, колькі іх атачае чалавека ў Вільні. Гэты горад увабраў у сябе ўсё, што мог даць Бог і стварыць Чалавек. Калі не памыляюся, гэта сказаў Юзэф Пілсудзкі. Тут можна зазірнуць туды, дзе нашыя папярэднікі горача маліліся, дзе яны пралівалі й свой пот й сваю крывю, каб мы не забываліся пра іх... Гісторык Генадзь Сагановіч, які ўвесь час рыўся ў віленскіх архівах, зрабіў мне выпіску за 1617 (!) год: *«…некояе Васілей Харевскі і Юры Ільлініч, старастове церквы Сятое Троіцы віленскае...»* У маёй грудзі было цесна сэрцу, калі я заходзіў пад зводы гэтае старадаўняе царквы ў Базылянскіх мурах. Тады тут яшчэ быў экспэрымэнтальны цэх Ковенскага політэхнічнага інстытуту. Цяпер — украінская грэка-каталіцкая царква. У сьцяне — старажытная эпітафійная пліта князя Канстанціна Астроскага. Тут пачаў сваё служэньне сьвяты Язафат Кунцэвіч. Калі чые ўспаміны будуць таленавітыя, то зьявіцца шанец прачытаць іх у перакладзе. Культурныя кантэксты, нібы плоскасьці, утвораць жывы вобраз часу…

Напачатку 1990-х у Вільні яшчэ жылі старадаўнія,

тутэйшыя назвы вуліцаў. Неяк я шукаў старыя праваслаўныя могілкі, каб пабачыць якія беларускія імёны. З пошукам аніякіх праблемаў ня ўзьнікла. Старыя віленчукі адразу скіравалі мяне на Ліпоўку, на старасьвецкія Спаса-Эўфрасіньнеўскія клады. Я зьвярнуўся да старое кабеты, што парадкавала цьвінтар вакол царквы. Яна параіла паехаць у інвэнтарызацыйнае бюро віленскіх могілак. Гэта, кажа, на Кам'яўніма 18. Я пасмакаваў у роце чужое слова, што па-літоўску значыць «Камсамольская», і зьбянтэжыўся, засумняваўшыся, ці слушна я яго паўтараю. А старая мне й кажа: ты ня бойся, спытай, дзе вуліца Завальная, і табе там падкажуць.

І сапраўды, старыя людзі, ані каліва ня дзівячыся, паказалі мне слушны адрас. Кам'яўніма сама па сабе, Завальная сама па сабе. Цяпер яна завецца Пілімa. У паэта Максіма Лужаніна ёсьць гэткія радкі:

*На зялёнай Пілiме,*
*На Завальнай калішняй*
*За сяброўства пілі мы*
*Старасьвецкім кілішкам.*

Пасьля гэтага я пачаў уважліва прыслухоўвацца да гутарак віленчукоў, пільней вывучаць старую віленскую тапаграфію. Вось п'яніцы радасна вітаюць адзін аднаго: *«Як мы рады, як мы рады, што вы ўсе із Добрай Рады»*. Добрая Рада — гэта такая вуліца на ўскрайку, і яе ваколіцы завуцца гэтаксама. Тамака ж і наркалягічны дыспансэр. Па-літоўску гэтая вуліца завецца Гяросёс Вільціес (Gerosios Vilties).

Таму гаварыць, наколькі ўсё, што мы тут шукалі, знайшлі ці згубілі, было для нас экзотыкай, няслушна. І да канца СССР, да таго рашэньня пра патрэбу адрадзіць у Вільні беларускі дух, што было невядома кім прынятае на менскіх кухнях, мы не пачуваліся тут чужымі. Ні тады, калі за паўтара рубля каталіся

ледзь ня штотыдзень цягнікам «Чайка», ані тады, калі заставаліся тут на даўжэй, знаходзячы ўсё новыя адрасы і новых знаёмых.

З 1990-га да 1991-га амаль усе віленскія вуліцы былі пераназваныя. Радыкальна. Тады тут выдаваліся самыя розныя брашуркі, кшталтам: «Сто перайменаваньняў за год», дзе падрабязна, на ўсіх тутэйшых мовах, вытлумачвалася, дзеля чаго памянялі тыя ці іншыя шыльды. Хоць у старэйшых свае дзівацтвы — па-ранейшаму ўпарта міжсобку называюць Кальварыйскую — Дзяржынскага, а які праспэкт Саванору (Savanorių) — Краснухай (былы праспэкт Чырвонай Арміі). Колішнюю вуліцу Горкага, як часта яе й дасёньня называюць старэйшыя людзі, падзялілі на тры гістарычныя: Вастрабрамскую, Вялікую й Замкавую. Цяпер гэтыя вуліцы ў Вільні носяць кожная сваё імя. Адно што па-літоўску Вялікая, дзе стаіць друкарня Скарыны, завецца пакуль нязвыкла — Дзіджоі (Didžioji). І яшчэ адну вуліцу падзялілі назвамі. Былая Танкістаў цяпер завецца часткова Беларускай, часткова Польскай. А вось за камуністамі гэткіх назваў не было. У сучаснай Вільні зроблена ўсё слушна — зь літоўскага гледзішча. Як пісаў Алесь Разанаў:

*Блукаю па Вільні.*
*На даўніх мурах*
*новыя назвы...*

Беларусы, дарэчы, былі моцна пакрыўдзіліся, калі літоўцы ў 1990-м годзе ліквідавалі вуліцу імя Янкі Купалы ў цэнтры. І гэта ў Вільні! Але неяк і тут выкруціліся. Цяпер імя Купалы носіць былая вуліца Чарняхоўскага, імя Цёткі — былая вуліца палкаводца Кутузава, далі адной вуліцы імя Якуба Коласа, іншай — Францішка Скарыны, а Каліноўскага ўжо й не чапалі. Засталіся ў Вільні й вуліцы Слуцкая, Віцебская, Беластоцкая, Менская ды яшчэ з тузін беларускіх назваў. Вось у такую Вільню мы ехалі ў 1991 годзе.

Хутчэй з СССР. У нашую старую Вільню. Дзе былі зь юнацтва знаёмыя вуліцы, пахі, гісторыі.

Сталічнасьць на Вільню звалілася даволі нечакана. За гэтыя гады горад стаў больш мітусьлівы і, адпаведна, шумны. Да гэтага спрычынілася і постсавецкая аўтамабільная рэвалюцыя. Не засталося аніводнае вуліцы, па якой можна цяпер спакойна прайсьціся напрыканцы працоўнага дня, як дзесяць гадоў таму. А некалі ж нядзельныя званы Катэдры можна было пачуць ва ўсім горадзе…

А тады, напрыканцы старога й напачатку новага жыцьця, рэдкія людзі мінаюць цябе. Ясны восеньскі дзень. Камяніцы старое Вільні. Віленская рэстарацыя «Паланга» як заўсёднае месца сустрэчаў. Тыповы савецкі шкляны фасад, рыпучы савецкі паркет і невынішчальны водар савецкае кухні. Паўзмрок. Турысты не заўважалі яе — звычайны будынак у духу 1970-х гадоў, нічым не прыкметны на тле шыкоўнае віленскае архітэктуры ранейшых эпох. Турысты шукаюць экзотыкі, яе ў Вільні багата. А «Паланга»... была месцам для ўнутранага, так бы мовіць, хатняга ўжытку, для саміх віленчукоў. Напрыканцы савецкіх часоў тут можна было даволі танна й прыстойна пад’есьці. Напрыклад, узяўшы комплексны абед, з абавязковым халодным баршчом ды гарачай адбіўною. Добра памятаю, як тады тут наразалі хлеб. Танюткімі, амаль празрыстымі скібачкамі.

Вось жа ў «Палянзе» я пакрысе й перазнаёміўся зь віленчукамі. З рэдактарам часопісу «Крантай» («Krantai») Вайдотасам Даўнісам (Vaidotas Daunys), з рэдактарам газэты «Шаўрэс Аценай» («Šiaurės Atėnai») Пранасам Моркусам (Pranas Morkus), зь беларускімі віленскімі мастакамі Алегам Аблажэем і Сяргеем Покладам. А таксама з рэдактарам тутэйшае польскае газэты Ўладыславам Струмілам, які выдатна гаварыў па-беларуску й нават перакладаў зь нямецкай для «Нашай

Нівы»... Яго можна было сустрэць у гэтай рэстарацыі ледзь ня штодня. І гэтаму месцу ён прысьвяціў багата сваіх апавяданьняў. Напрыклад, «Memento mori»: *«А ўвечары... Увечары была, натуральна, «Паланга». Сядзелі мы ўгары, але не за столікам справа, як заўсёды, ён быў заняты, а ўселіся ля вакна, адкуль выгляд быў і на ўсю вялікую залю й на сквэр звонку — невялікі, смутнаваты й нейкі таямнічы»*.

Сквэр насупраць сапраўды таямнічы, ціхі, у густой засені. Проста пасярод гарадзкога тлуму. У ім была магіла савецкага генэрала Чарняхоўскага зь вялікім помнікам. Ад таго сквэр называлі Чарняхоўкаю. Яшчэ раней на месцы генэрала стаяла расейская капліца сьвятога Георгія, у гонар касаваньня вуніі. Ад яе за расейцамі й праспэкт зваўся Георгіеўскім. А да таго тут стаяла старасьвецкая капліца сьвятога Юра, і ў беларускай традыцыі праспэкт называлі Сьвята-Юраўскім. Няма цяпер тут ні капліцаў, ні генэральскае магілы. Засталіся старыя дрэвы. Адсюль, з-за вялізарных шкляных шыбаў «П末ангі», можна было гадзінамі цікавацца за вірлівым жыцьцём Вільні. Як з акварыюму. І можна было тут падгледзець прывіды зь мінулага. Хоць штосьці прымроіцца тут магло кожнаму, калі доўга глядзець скрозь шкло на стары віленскі брук. Седзячы тут, я таксама адчуваў шчыльную напоўненасьць этэру за шыбамі. Тут, зусім побач, была колішняя рэдакцыя «Нашай Нівы», дзе жыў Янка Купала, у суседнім пад’езьдзе жыў мастак і кампазытар Чурлёніс, а ў доме насупраць была рэдакцыя «Нашай Долі». Проста наперадзе, на брукаваным пляцы, расейскія карнікі расстралялі дэманстрацыю віленчукоў у крывавым 1905 годзе.

Але можна тут было спаткаць і здані з часоў нядаўніх. Гэтак Струміла, напрыклад, апісаў адно спатканьне: *«Пазнаёміліся мы зь ім даўно, тут, у «Паланзе». На добрым падпітку ён падсеў да нас і напрасіўся на пачастунак. Былы карэспандэнт ТАСС на Кубе,*

*Віктар, п’янеў штораз хутчэй. Ён быў забаўны хлапец, ня злосны й нейкі безабаронны. Падсеўшы да нас аднаго вечара, уважаў сябе за нашага знаёмага і заўсёды даволі бесцырымонна патрабаваў ад мяне на некалькі наступных кілішкаў».*

У свае трыццаць чатыры гады той былы савецкі карэспандэнт шмат чаго перажыў, перажыў і тую краіну, якую рэпрэзэнтаваў на Кубе, і, бадай, самога сябе. Перад самым сваім сконам, проста на эстрадзе ў рэстарацыі, ён усё згадваў сваю кубінскую дзяўчыну Хуаніту. Пасьля напрасіўся да мікрафону, узяў гітару й засьпяваў песьню Гарсія Лёркі...

Закашляўся, захістаўся, зачапіўся за мікрафон. Стойка мікрафону ўпала, суха ўдарыўшыся вобзем, як грудкі сухое зямлі аб вечка труны. Сьмерць наступіла адразу... Дарэчы, заўчасна пайшоў з жыцьця й сам Уладыслаў Струміла. Мяне запрасілі на ягонае пахаваньне нечакана. Ад газэты «Наша Ніва», дзе ён шмат друкаваў сваіх перакладаў. На хаўтурах пазнаёміўся, чарговы раз, зь Янам Сянкевічам, адным зь лідэраў тутэйшых палякаў, дэпутатам Сэйму. За чаркаю ён перайшоў на беларускую, красамоўна распавядаў пра сваю вучобу ў менскім Інстытуце замежных моваў. Згадаў свайго аднакурсьніка Зьмітра Коласа, цяпер вядомага перакладніка й выдаўца ў Менску, яшчэ аднаго нашага агульнага сябра. І гэтак плялося-перапляталася тут усё. Мінулае з сучасным, учора і сёньня, тут і там.

Бываў тут і яшчэ адзін вядомы савецкі карэспандэнт, Кіпрас Мажэйка. Мо памятаеце гэткага вусатага дзядзьку з гладкім тварам, які вёў рэпартажы з Заходняй Эўропы для маскоўскай праграмы «Время»? Ён хваліўся ў «Паланзе», што ягоным настаўнікам музыкі быў Вітаўтас Ландсбергіс (Vytautas Landsbergis). Мажэйка нядоўга пабыў у незалежнай Літве, зьехаў у Маскву. Дый «Паланга» сама мянялася вельмі хутка за

найноўшымі часамі. Раптам тут зрабілі аўтамабільны салён «Мазды». Затым — адно зь першых віленскіх казыно. Публіка хадзіла сюды таксама калярытная, але зусім ня тая... Цяпер ад тае «Палангі» няма і знаку. На яе месцы вырас вялікі бізнэс-цэнтар.

Мы прыехалі сюды зь Менску, Горадні, Маладэчна, Полацку, Гомля. Мы стваралі тут прафэсійную беларускую культуру і адукацыю. Перадусім, стрыжнем усіх беларускіх праектаў у Літве (зрэшты, і ў цэлым сьвеце) стала газэта «Наша Ніва», якую ачоліў Сяргей Дубавец і дзеля працы ў якой сюды прыехаў за ім і я. У рэдакцыі амаль штодня, зранку да апоўначы, віравала жыцьцё. Хто толькі тут ня быў! Дыпляматы і сьвятары, эмігранты і студэнты, мастакі і артысты. Грэўся ля печы мастак з Польшчы, цяпер прафэсар, Лёнік Тарасэвіч, які, разгледзеўшы пярэстыя этыкеткі на нашых бутэльках, расслабіў кампанію, запытаўшыся: а што хлопцы, нармальнае гарэлкі ў вас няма?.. З нармальнаю гарэлкаю «Абсалют» захажываў перакладнік Уладзімер Шчасны, тады часовы паверáны ў справах, а цяпер амбасадар РБ у Лёндане. Варыў для паплечнікаў з БНФ цэлым вядром сасіскі Віктар Івашкевіч. Мы выдавалі газэту, кнігі, дадаткі ў тутэйшай польскай і расейскай прэсе... Тут маляваліся ілюстрацыі для добрых твораў і пісаліся добрыя вершы.

Тыя, хто прыехаў сюды на зломе, стварылі й праграмы на літоўскім радыё («Беларускае слова» і «Навіны для беларусаў Літвы») ды тэлебачаньні («Віленскі сшытак»). У 1991 годзе ў Віленскім пэдагагічным унівэрсытэце адкрылі катэдру беларускай мовы, літаратуры й этнакультуры. У 1993 годзе ў Вільні зноў пачала дзеяць вялікая беларуская школа, што пазьней атрымала імя Скарыны. У 1994 годзе былі створаныя беларускія пачатковыя клясы ў школах Вісагінасу, Шальчынінкаю, Друскенінкаю. Толькі беларускае мастацкае самадзейнасьці ў 1990-я гады ў Літве было ажно 6 калектываў!

Лёсам быў наканаваны прыезд у Вільню цэлага сузор’я мастакоў: Уладзімера Голуба з Горадні, братоў Сяргея і Алеся Покладаў, якія родам з Краснапольшчыны, Вадзіма Шафрановіча зь Відзаў. А ўжо тут яны працавалі й выстаўляліся разам з нашымі віленскімі мастакамі, людзьмі рознага досьведу й рознага маштабу талентаў: А. Аблажэем, А. Балаховічам, К. Балаховіч, С. Зялёнкам, У. Кузьменкам, Э. Падбярэскім... Мне было тут пра каго і пра што пісаць, ходзячы ад майстэрні да майстэрні, з вэрнісажу на вэрнісаж. Былі й іншыя каларытныя пэрсанажы, якія ўліваліся ў наш беларускі вір пачатку 1990-х. Гэтак, праяжджаючы штодзень міма рэдакцыі «Нашае Нівы», нарэшце адважыўся да нас завітаць колішні віцяблянін, доўгавалосы Валер Самусёнак, выпускнік Ленінградзкага горнага інстытуту. У сутарэньні ў старой Вільні ён зь сябрам-земляком абшліфоўвалі камяні для ювэліраў. Але разам з тым, доўгімі вечарамі, займаўся... танцамі ды пантамімай. Урэшце стварыў сам невялічкі калектыў, уславіўся на ўсю Эўропу сваймі плястычнымі пастаноўкамі.

Зьявіўся ў Вільні й выпускнік Інтэрнату імя Ахрэмчыка, менскага «Парнату», былы аднакурсьнік Алеся Поклада і Дзяніса Раманюка, арганіст Аляксандар Ісакаў, які за пару гадоў пабраў блізу ўсе магчымыя музычныя дыплёмы й прэміі... Гэта ён першы заграў на адноўленым аргане ўва ўнівэрсытэцкім касьцёле сьвятога Яна, што яшчэ ў 1864-м перавезьлі сюды з полацкага сабору.

Стварыўшы сабе немалую й утульную сяброўскую штодзённасьць, мы пачалі «капаць» Вільню глыбей...

Неяк знаёмы францускі фатограф прымусіў мяне везьці яго да дому, дзе жыў Рамэн Гары (ён жа Эміль Ажар), бо не даваў веры... Але сапраўды — стаіць дом, сьвецяцца вокны той кватэры, дзе з 1917 да 1927 году жыў маленькі Раманчык-Ромушка Кацаў з сваёй «maman Nina», пра што ведае кожны франкамоўны

чытач, калі ён чытае. Бо ўсю гэтую гісторыю Раман зрабіў здабыткам сусьветнае літаратурнае клясыкі, у якую сам увайшоў ажно пад двума імёнамі — Romain Gary й Émile Ajar. Слава звалілася на яго ў 1956-м, калі ён атрымаў сваю першую Ганкураўскую прэмію — найвышэйшую францускамоўную літаратурную ўзнагароду, за раман «Карані неба».

Француз-фатограф доўга ўвіхаўся вакол будынку, зазіраў у пад’езды, у двор, рабіў здымкі. Па інэрцыі зазіраў усьлед за ім і я. Прыгадваў сюжэты аўтабіяграфічнага раману Гары «Абяцаньне на досьвітку»:

*«Двор дому №16 па вуліцы Вялікая Пагулянка здаваўся мне вялізарнай арэнаю, на якой я засвойваў майстэрства глядыятара, рыхтуючыся да будучых баталіяў. Трапіўшы сюды праз старую браму, вы бачылі пасярод двара агромністую крушню цэглы — рэшткі заводу боепрыпасаў, узарванага партызанамі падчас патрыятычных баёў паміж польскімі й літоўскімі войскамі; крыху далей — дрывотня й вялікая прастора, зарослая крапівой, на якой я здабываў самыя слаўныя перамогі ў сваім жыцьці. Далей, за высокай агароджаю, цягнуліся сады. У двор выходзілі дамы, што стаялі на дзьвюх суседніх вуліцах. Направа былі клеці, у якія я часта забіраўся па страсе, рассунуўшы колькі дошак. Жыхары скарыстоўвалі гэтыя клеці для перахоўваньня мэблі, яны былі забітыя куфрамі й валізамі, якія я багавейна адчыняў. Разам з пахам нафталіну ад іх патыхала загадкавым жыцьцём старамодных рэчаў. Як зачараваны, я гадзінамі праседжваў сярод знойдзеных скарбаў, раскіданых на падлозе нібы пасьля катастрофы карабля…»*[1]

---

[1] Гари, Ромен. Обещание на рассвете. Im Werden Verlag, 2003. С. 41. (http://imwerden.de/pdf/gary_obeschanie_na_rassvete.pdf)

Збольшага тут мала што зьмянілася з тых гадоў. Адно што няма цяпер тых клецяў. Але атмасфэра старое Вільні засталася. Дзіцячая ўчэпістая памяць пакідае нам згадкі часам зусім недарэчныя, але цягам гадоў менавіта гэтыя недарэчнасьці становяцца самымі красамоўнымі сьведчаньнямі і пра нас саміх, і пра эпоху. Трохгадовы Раман Гары запомніў... Ліду, мястэчка за савецка-польскаю мяжою, дзе жылі матчыны сваякі. Чорная зімовая ноч, доўгі лябірынт драўляных хацінаў, празь які ішлі ягоная маці зь лісёнкамі, поўнымі розных сукняў і «фамільнага срэбра». Хлапчук жа з разуменьнем важнасьці моманту нес свой начны гаршчок, моцна прыціскаючы яго да грудзей. Пасьля маленькага Рамана Кацава зь ягонай маці Нінаю прыбіла да Вільні. Менавіта тут будучы пісьменьнік й пабачыў свайго бацьку. Хоць гэтая акалічнасьць так і засталася незразумелаю самому пісьменьніку. «Паляк з расейскім акцэнтам», «расейскі француз», «расейска-літоўскі жыд»... якіх толькі цэтлікаў не напрышчаплялі яму крытыкі й дасьледнікі.

Рамэн Гары з сваёй маці трапілі спачатку ў літоўскую Вільню, а затым акурат у савецкую, у Літоўска-Беларускую ССР, якая скончылася паходам Люцыяна Жалігоўскага і стала польская. Ад тых трывог, якім Гарэцкі быў сьведамы сьведка, у Гары застаўся адно цьмяны ўспамін. Матчына ўсьмешка давала малому Гары адчуваньне бездакорнае чалавечае чысьціні й абароненасьці. Ягоная Вільня — гэта сонечны горад дзіцячых летуценьняў: *«Кожную раніцу пад адзінаццатую гадзіну маці ўбірала мяне ў найлепшыя строі (...), шафёр адчыняў дзьверцы, мы сядалі ў машыну і цягам пары гадзінаў аўтамабіль з адкрытым верхам катаў нас па горадзе, дастаўляючы ва ўсе людныя месцы, дзе зьбіралася «прыстойная публіка»: у Рудніцкую кавярню, у батанічны сад...»*[1]

---

[1] Гари, Ромен. Обещание на рассвете... С. 35.

І праўда, вобраз гораду дзяцінства — вельмі асабісты. Для нас важна ўбачыць тое канкрэтнае адзінства часу і месца вачыма розных сьведкаў. І такую магчымасьць дае нам Мацей Мышка, ад імя якога Максім Гарэцкі вядзе расповед у сваім рамане «Віленскія камунары». Гары, як і Гарэцкі, меў немалы досьвед, каб трапна ахарактарызаваць этнічную фізіяномію гораду. Прынамсі, ён ведаў, чый гэта горад. Ягоны. Гары пісаў:

*«Прызнацца, нават для гэткага мястэчка, як Вільня, гэтай не літоўскай, ня польскай, не расейскай правінцыі, дзе ў той час яшчэ не было фатаграфіі, хітрык, вынайдзены маёй маці, быў празьмерна сьмелы. І яна ў каторы раз магла змусіць нас на блуканьні па вялікіх шляхах, разам з усімі нашымі манаткамі. Неўзабаве віленскім «модніцам» былі разасланыя запрашэньні на ўрачыстае адкрыцьцё «Новага дому парыскіх мадэляў» на вуліцы Вялікая Пагулянка 16 а чацьвертай гадзіне...»*[1] Матчын хітрык складаўся з чыстага пі-ару, пра які да вайны ў Вільні ня ведалі. Маці Ніна разаслала прыгожыя запрашэньні й зьмясьціла рэклямы ў газэтах яшчэ да таго, як яе афішаваньне напоўнілася рэальным зьместам. Але «Новы дом парыскіх мадэляў» на Вялікай Пагулянцы запрацаваў! А недзе побач пасяліўся й Мацей Мышка: *«Прыехаўшы ў Вільню, знайшоў я сабе невялічкі, толькі павярнуцца, але асобны, пакойчык на Вялікай Пагулянцы, недалёка ад кватэры дзядзькі Туркевіча»*[2].

Людзі, што нас атачаюць ці атачалі, кожны па-свойму застаюцца з намі праз усё жыцьцё. Яны пакідаюць нам свой цень, якога ніхто ня мае магчымасьці пазбыцца. Што Гары, што Гарэцкага атачалі ў Вільні тысячы людзей, якія мудрагелістым чынам маюць магчымасьць трымаць і нас у абдоймах свае энэргіі.

---

[1] Гари, Ромен. Обещание на рассвете... С. 27.

[2] Гарэцкі, Максім. Віленскія камунары // Збор твораў у 4 т. Т. 3. Мінск: «Мастацкая літаратура», 1985. С. 191.

Ганна, Валянціна, Юзік, Ян... Альбо, напрыклад, нейкі пан Пякельны, пра якога Гары распавядаў і ангельскай каралеве Лізавеце II, і генэралу дэ Голю, і цэламу сьвету з трыбуны ААН...

...Усьцешаны жвавы француз нарэшце перастаў кляцаць фотаапаратам. Бо стала зацёмна. «Вы аматар Гары?» — паважліва спытаўся ў яго я. «Не, нават не згадаю, што ён пісаў. Памятаю, мне спадабаўся Ажар, але таксама не згадаю, што. Здымкі? Я ведаю, дзе я іх прадам...»

Падобны мэтад параўнальнай культуралёгіі ў нас ня надта пашыраны. Між тым, на межах віленскага культурнага кантэксту ёсьць шмат творцаў, якія непазьбежна ўзбагацілі б наш уласны вобраз Вільні ў розныя часы. Адам Міцкевіч, Тарас Шаўчэнка, Фёдар Дастаеўскі, Чэслаў Мілаш, Іосіф Бродзкі, той самы Рамэн Гары... Сотні літаратараў пакінулі свае сьведчаньні пра гэты горад па-польску, па-габрэйску, па-францыску, па-ангельску... Каштоўнасьць іх у тым, што яны даюць нам магчымасьць убачыць і адчуць сябе і сваё збоку. А каштоўнасьць мэтаду ў тым, каб, супастаўляючы розныя сьведчаньні, рабіць сваё адчуваньне і бачаньне шматмерным, аб'ёмным, жывым.

Вільня. Так, гэты горад моцна зьнітаваны з шматлікімі культурнымі дасягненьнямі беларусаў. Мы нават дасёньня ня ўсё яшчэ адкрылі й пераацанілі. Але кожнага разу, гаворачы пра Вільню, міжволі ўпадаю ў рэтраспэкцыю: было, быў, калісьці. Калісьці тут жыў Скарына і друкаваў першыя беларускія кнігі. Калісьці тут ствараліся першыя беларускія газэты: «Наша Доля», Наша Ніва», «Гоман». Калісьці тут запачаткавалі й беларускую ідэю. Калісьці зусім маладым тут быў і я.

Неяк незаўважна гэтае віленскае шчасьце пачало зьмяншацца. Адыходзілі адзін па адным легендарныя

старыя: Зоська Верас, Юрка і Лявон Луцкевічы, пані Зоя Каўшанка, Сьцяпан Дуж-Душэўскі і шмат, шмат іншых, што вучылі мяне, адчынялі свае дзьверы ў таямніцы і нетры памяці.

Пра «Лясную хатку» Зоські Верас я дазнаўся ад мастакоў. Тут перабывалі, перагасьцявалі сама меней тры мастакоўскія пакаленьні. Ад клясыка Пётры Сергіевіча да маладога мастака зь Берасьця Алеся Юркевіча. З канца 70-х як на пілігрымку выбіраліся яны сюды. Каб гэты дзень прабыць у хатцы. Бывалі тут часта й мастак-рэстаўратар Уладзімер Ракіцкі, фотамастак Зянон Пазьняк, графікі Мікола Купава й Яўген Кулік, жывапісцы Вячка Целеш, Аляксей Марачкін і Віктар Маркавец. Недзе за лесам зьмяняліся акупацыі, тварыліся страшэнныя рэчы, партызанка й галакост, SS і НКВД, Вільня разьвітвалася з сваёй беларускасьцю, а тут па-ранейшаму квітнелі зёлкі, сьпявалі птушкі й перачытваліся старыя рукапісы. Сюды не даляталі гукі маршаў і стрэлаў. Тут і па сёньня лясная прырода стварае ілюзію застыласьці й нязьменнасьці часу. Але «Лясная хатка» згарэла ўжо даўно. Даўно няма й Зоські Верас, чыю труну я нес на клады. У гэтым віленскім закутку, ведамым хіба адно некаторым беларусам, застаўся сад. А ў ім — дзіўныя кветкі, незвычайныя расьліны, якія гэтак любіла Зоська Верас. Ажно ўсё прайшло, мінула... Праўда, стоячы на даўнім ужо пагарэлішчы, адчуваеш ня столькі шкадаваньне, колькі ўдзячнасьць. Бо гэтае месца і людзі, што тут жылі, напоўніцу выканалі сваю ролю акурат тады, калі былі найбольш неабходныя для нацыі, краіны, культуры. У апошнія савецкія дзесяцігодзьдзі. Тады гэта было ці не адзінае адкрытае для ўсіх месца, дзе пра беларускі лёс гаварылі праўду — ня крывячы душою, без афіцыёзных лякіровак і замоўчваньня. Страчаны рай ніколі не вяртаецца.

А Лявон Луцкевіч быў адным зь першых, хто пачаў адраджаць беларускае жыцьцё ў Вільні напрыканцы

1980-х гадоў. Ён нарадзіўшыся быў у Вільні, тут скончаў легендарную Беларускую гімназію. Ягоны бацька, Антон Луцкевіч, быў закатаваны ў кіпцюрох ГПУ, дый сам дзядзька Лявон пасьля вайны адбываў доўгі тэрмін на Калыме... У пачатку 90-х гадоў Лявон Луцкевіч заклікаў падтрымаць незалежнасьць Летувы. Ён аргумэнтаваў гэта тым, што суседняя дэмакратычная краіна будзе служыць на карысьць беларусам. Лявон Луцкевіч тады быў разам зь летувісамі, як і шмат хто зь беларусаў-інтэлігентаў. Ён застаўся ў памяці тых, хто яго ведаў, хто зь ім адраджаў беларускае жыцьцё ў Вільні. Было мне зь ім пра што пагаварыць.

Аднаго разу мне давялося пабываць у лёхах віленскага касьцёлу Сьвятога Духа. Знаёмы ксёндз запрасіў мяне туды на экскурсію разам з француcкімі археолягамі. Лёхі гэтага касьцёлу шырэйшыя за сам касьцёл і спускаюцца на некалькі паверхаў углыб. У гэтых катакомбах за некалькі стагодзьдзяў пахаваныя тысячы людзей. Часам труны ляжаць адна на адной... Існуе старое віленскае паданьне, паводле якога ўваход сюды сьцеражэ белы мніх, які аднаго разу перапудзіў жаўнераў-маскалёў, што вартавалі касьцёл на загад Мураўёва. Дык вось працяг гэтага паданьня ведаў толькі Лявон Луцкевіч. Калі ў Першую сусьветную вайну Вільню занялі немцы, дзядзька спадара Лявона Іван Луцкевіч выклікаўся спраўдзіць гэтыя аповеды. Пэўнае ўлады ў горадзе не было, а таму была магчымасьць без усялякіх дазволаў злазіць у касьцельныя катакомбы. Дамовіўшыся з вартаўніком, Іван Луцкевіч аднае ночы спусьціўся па вяроўцы ў тыя самыя скляпеньні. Ажно раптам вяроўка парвалася, і ён упаў... Калі падняўся, то пабачыў насупраць сябе... белага мніха. Чыркнуўшы запалкаю, разгледзеў, што гэта мумія, якая выпала з спарахнелае труны. Падобных муміяў тутака тысячы. Гэтак менавіта Іван Луцкевіч наноў адкрыў сьвету вялікі нэкропаль касьцёлу Сьвятога Духа. Доўгі час, недзе да 1930-х гадоў, тут было нешта накшталт кунсткамэры, куды хадзілі цікаўныя.

Калі я ішоў гэтым сярэднявечным вусьцішным лябірынтам сьледам за мніхам, жывым, дамініканцам у белым каптуры, я прыгадваў артыстычны выклад гэтае гісторыі спадаром Лявонам. Блукаючы па вулках старое Вільні, па справах ці бязь іх, я найперш прыгадваю ягоныя, беларускія інтэрпрэтацыі віленскае гісторыі.

Апавяданьні Лявона Луцкевіча спляталіся адно з адным у бясконцы ланцуг-повязь, што паядноўвае нас зь бясконцасьцю часу і бясконцасьцю Вільні. У якім касьцёле браў шлюб Браніслаў Тарашкевіч, чаму Луцкевічы і Аляхновіч прынялі кальвінізм, што падавалі й што гралі ў рэстарацыях Штраля, як апранаўся Леў Вітан-Дубейкаўскі ды які голас быў у айца Аляксандра Каўша... Лявон Луцкевіч быў ня проста носьбітам традыцыі, ён быў яе палымяным прапагандыстам. Нават калі ён чуўся блага ці быў стомлены, у летні сквар і ў марозную непагадзь, калі яго хацелі чуць, ён заўсёды быў. Бо ўважаў сябе ня толькі за чычэронэ, але й за астатняга магіканіна несавецкае беларушчыны ў Вільні. Толькі ён ужо мог з пэўнасьцю паказаць месцы, дзе быў мячэт, лютэранскія могілкі, кнігарня Станкевіча, бібліятэка-чытальня «Веды», друкарні імя Скарыны, паказаць тую Вільню, якой ня будзе ўжо ніколі...

Жыў тут яшчэ адзін калярытны стары — Аляксей Анішчык. Ён вельмі моцна паўплываў на тых, хто на пачатку 1990-х захапіўся ідэяй адраджэньня беларускага жыцьця ў Вільні. Нягледзячы на свой ужо паважны ўзрост, ён выдаваў на ратапрынце газэту «Пагоня», удзельнічаў ва ўсіх грамадзкіх справах. Ён рупіўся пра ўсё: і пра беларускую школу, і пра катэдру беларусістыкі ва ўнівэрсытэце, і пра беларускую праграму на тэлебачаньні, і пра нашыя справы маладых. Ён паўсюль імкнуўся што-небудзь прыўнесьці сваё — ці то добрым словам, ці то добраю парадаю, ці то нейкімі дакумэнтамі, успамінамі. А ўспомніць

спадару Анішчыку было што. Ён быў аднаклясьнікам і сябрам вядомага навукоўца Барыса Кіта, сябраваў зь іншымі дзеячамі беларускае эміграцыі, выступаў у 1944 годзе на Другім Усебеларускім кангрэсе, хаваўся пасьля вайны ў Польшчы ад савецкіх карных органаў, але быў схоплены і засуджаны на сьмерць. Потым прысуд замянілі на 25 гадоў лягераў, у якіх была катаржная праца на шахтах. Пасьля вызваленьня ў 1962 годзе пасяліўся ў Літве. Працаваў інжынэрам і пісаў вершы ды ўспаміны, некалькі кніг якіх удалося выдаць толькі пасьля распаду СССР.

Да іншых старэйшых заўсёды цяжка было прабіцца. Але ня ў Вільні. Ці рана, ці позна, мы станавіліся сябрамі. Бо тут знаходзіўся шлях, на якім такое было магчымае. Літва, нібы адмыслова дзеля Беларусі, стварае дыдактычныя прыклады — узоры быту нацыянальнай дзяржавы. Нашая тоеснасьць — адно ў мінуўшчыне. Вільня – старая сталіца, калыска беларускай культуры, нібы згублены шанец Беларусі, надта ж далёкая ад цяперашніх нашых менскіх рэаліяў. Гэтаксама далёкая, як і праўдзівая беларушчына, якая тут, у Вільні, ніколі не была савецкая.

Балючым і, я ўпэўнены, галоўным ударам па ўсёй беларушчыне ў Вільні стаў рэфэрэндум Лукашэнкі ў 1995 годзе, пасьля якога фактычна былі зьнішчаныя галоўныя атрыбуты нацыянальнай ідэнтычнасьці: мова, сьцяг, герб. Калі беларускасьць непатрэбная ў Беларусі, то навошта чапляцца за яе ў Літве? Гэтая лёгіка стала галоўнай матывацыяй для тысячаў віленскіх беларусаў, паўбеларусаў, небеларусаў, што яшчэ нядаўна баранілі тую самую беларушчыну. Лукашэнкаўскае чыноўніцтва рэзка абмежавала кантакты з дыяспарай. А зь іншага боку, суседзі, літоўцы ці палякі, пазіралі на мяне ўвесь час менавіта як на беларуса, на радзіме якога ўсталяваўся дзіўны рэжым. Пакрысе, не вытрымліваючы канкурэнцыі з польскімі, расейскімі ініцыятывамі, амаль заглухла й аматарская

беларуская культура. Беларусы ў Літве вымушаныя былі адаптавацца да жыцьця ў новых палітычных і культурных рэаліях, бо літоўскі ўрад абвесьціў шлях на інтэграцыю ў эўрапейскія і эўраатлянтычныя структуры ды рашуча абарваў эканамічныя і тэхналягічныя сувязі, што склаліся ў савецкія часы.

Цяпер я зь зьдзіўленьнем згадваю пра назаўсёды згубленую беларускую Вільню. Гэта быў горад вялізарнай сканцэнтраванай энэргіі, сталіца выдавецтваў, што друкавалі кніжкі кірыліцай і лацінкаю, асяродак літаратурных часопісаў і тэатраў. З гэтага гледзішча зь Вільняю нішто не магло канкураваць у нашым беларускім сьвеце. Штодня ходзячы вуліцамі Вільні цягам 13 гадоў, часта лавіў сябе на думцы, што Горад, якім я быў зачараваны, зьнікае без папярэджаньняў і тлумачэньняў. Для гісторыі Вільні, магчыма, ня гэтак і важна, дзе знаходзілася той ці іншы пункт грамадзкага харчаваньня альбо месца масавага адпачынку. Але гэта не гісторыя места, гэта толькі нясвоечасовыя мэмуары, дзе прыватныя назіраньні, што ні да чога не абавязваюць, важнейшыя за дакладнасьць. Прыметнік «зьніклая» ў дачыненьні Вільні ўжываецца гэтак жа часта, як перад вымаўленьнем сталіцы Італіі цяжка ўстрымацца ад таго, каб не дадаць «вечны». У кожнага зьнікае свая Вільня, і кожны з нас па-свойму схільны разумець Вечнасьць.

Думаю, што разьвітаньне з прамінулай Вільняй як «Крывіцкай Мэккаю» — цяжкае й балючае, але непазьбежнае, калі мы хочам, каб духі памерлых пакінулі нас у спакоі.

Вільню атрымалі літоўцы. І Вільня ўпершыню за шмат стагодзьдзяў стала-такі сталіцаю паўнавартаснай краіны, горад выконвае зусім іншыя функцыі ды адпавядае зусім іншым уяўленьням. Маленькія крамкі ў цэнтры гораду замянілі крамы самаабслугоўваньня,

якія належаць вялікім гандлёвым сеткам. Твараў прадавачак, якія працуюць у суседняй краме, запомніць немагчыма. Вуліцы старога гораду пераўтвараюцца ў суцэльны кіч, з процьмаю кавярняў, гандляроў, амэрыканскіх і японскіх турыстаў, дзе ўсё меней месца для паэтаў ці мастакоў. Вільня зьмянілася амаль непазнавальна за апошні тузін гадоў. Ужо амаль усе чыста гавораць па-літоўску. Не засталося ў спусьцелых, зьнямелых дварах Старое Вільні заімшэлых дрывотнікаў, старога дзікага бруку. Ня тхне з падваротняй бруямі й таннай каваю з сасіскамі. Не лунае больш незабыўны водар каміновага дыму з кіславатым прысмакам тарфяных брыкетаў…

Зь ціхага й маларухомага, хай і вельмі сымпатычнага закутку спачатку Эўропы, затым і імпэрыі, Вільня ператварылася ў сучасны горад, які мусіць быць вітрынаю дзяржавы. Цяпер адно Літоўскае дзяржавы.

# На разьвітаньне

## Дзень сёньняшні

Сёньняшні дзень не падобны да ўчорашняга. Па-іншаму легла шэрань, зьляцеў апошні кволы ліст, што ўжо меўся зваліцца тыдзень таму. Часы мяняюцца й не паўтараюцца. Але не мяняюцца людзі. Чалавечыя страхі й пажады, пакуты і асалоды нязьменныя. Прынамсі, ад тае гадзіны, як чалавек быў створаны. У гэтым сэнсе чалавецтва зноў і зноў уваходзіць у тую ж самую плынь, зь якой набягаюць нашыя прагныя жарсьці, жальбы й радасьці. Мяняюцца эпохі з сваймі стылямі, як дэкарацыі на сцэне, а акторы, у грыме часу ці безь яго, — усё тыя ж. Гэта мы.

## Проста гульні

Кожны з нас бачыў, як дзеці малюнак, што ім не спадабаўшыся, ці нягеглую скульптурку з плястыліну зьнішчаюць, каб пачаць наноў. Хто з нас, малечаю, ня быў зазлаваны правіламі той гульні, што прагульваў? І манілася зьмяніць правілы пасярод усяго, каб мець шанец перамагчы.

Гэтак і тыя дарослыя ўжо беларусы, каму то недаспадобы назва нашае краіны, то саманазва, то месцазнахожаньне і характар сталіцы. Ім ня сьпіцца ад пярэбараў у галаве «сапраўдных» назваў свайго

народу — крывічы, литвины, rusiny, россы, ліцьвіны, палешукі, яцьвезі et cetera.

Як дзяўчына прымервае сукні, гэтак такія дзеці-пераросткі прымерваюць «сапраўдныя» сталіцы — Полацак ці Наваградак, Вільня ці Горадня. Як Ямеля, лежачы на печы, яны хочуць заехаць некуды падалей ад неўпадабанае імі рэчаіснасьці ды прачнуцца ў прыгожай і заможнай «Краіне Замкаў», пашпартам якое можна ганарыцца.

Гэта як бы французы раптам пачалі ніякавець ад сваёй назвы з прычыны германскага паходжаньня плямёнаў франкаў і, ушчэнт закамплексаваўшы, узяліся выбіраць сабе імя — Аквітанія ці Гальлія :)))

Ніхто, вядома ж, не забароніць чалавеку лічыць сябе тым, кім ён сябе сам лічыць — старапольскім шляхціцам ці зухаватым казаком, індзейскім правадыром ці сьмелым каўбоем. Але рэчаіснасьць і правілы гульні ў ёй не зьмяняюцца адно ад нашых крозаў, нават калі хто ў сваю краіну мрояў паселіць яшчэ пару, ды хай і тузін, сваіх сяброў. Вакол нас — Беларусь. Сталіца, у якой жыве кожны пяты беларус, з усіх куткоў краіны, таксама адна. Калі мы адпрэчваем уласную мову — будзем карыстацца суседзкай. Хочам мы таго ці не.

Падабаюцца нам тыя правілы, паводле якіх мы сёньня саступаем, ці не. Трэба пасталець, прыняць тыя правілы гульні, што ўсталяваў Лёс, і навучыцца перамагаць. Трэба вучыцца лепей гуляць, каб узяць верх. Нават скрозь сьлёзы. Праз боль. Паводле правілаў.

## Шакаляд і крыўда...

Нам крыўдна. Мы крыўдуем немаведама на каго. На Расею, Амэрыку і Эўропу. На апазыцыянэраў, якія ўзялі ўдзел у выбарах, і на тых, хто застаўся ўбаку, удаючы разважлівасьць. Тымчасам на ўсіх экранах сьвету міжнародныя навіны распачынаюцца закалотамі ў Кот-Дывуары, пасьля перамогаю народу ў Тунісе, у Эгіпце... Беларусь займае зусім ня тое месца ў эўрапейскай палітыцы, як бы нам хацелася. Куды сьціплейшае.
Бо ў Кот-Дывуары, напрыклад, ці палова сусьветнага ўраджаю какавы. Прыплюшчыце вочы. А цяпер уявіце, што шакаляду стала напалову меней! А блізу мільёна тунісцаў жыве ў Францыі, хоць ад берагу Тунісу найбліжэй да Італіі. Што ўжо казаць пра Эгіпет і ягоны ўплыў на суседзяў.

Беларусь на суседзяў мае ўплыў мінімальны. Перадусім, што крыўдна, — у культуры. Край, які даў сьвету цэлае сузор’е мастакоў, музыкаў і пісьменьнікаў, якія шмат у чым передвызначылі шляхі мастацкай культуры Эўропы, застаўся ў смузе ружовага туману. Пра нас сёньня амаль нічога ня ведаюць нават у суседніх краінах. Пакрысе спаўзьлі весткі зь Беларусі на другія, трэція палосы газэтаў. Намі перастаюць цікавіцца. Ад нас стаміліся. Праблема Беларусі пачынае раздражняць. Бо, па вялікім рахунку, мы засталіся ў тым самым 1988 годзе, калі на Дзяды зьбілі шэсьце на Курапаты. Улада з асалодаю б’е людзей па-ранейшаму. Па-ранейшаму гэтая ўлада непахісная і недатыкальная. І пра наш боль ведама ў сьвеце ненашмат болей, чым тады, у 1988-м, пасьля Чарнобылю і Курапатаў... І дасёньня ня ведаем усёй праўды пра размах бальшавіцка-расейскага тэрору. Па-ранейшаму ахвяры Курапатаў і Катыняў застаюцца ў безыменных магілах, над якімі няма як нават паставіць крыжы. Застаюцца пытаньні: чаго мы яшчэ НЕ зрабілі за гэтыя гады, у якіх кампаніях, шэсьцях, мітынгах, выставах, канцэртах не ўзялі ўдзелу? І што рабіць далей...

## Іншасьвет Сеціва, альбо Штосьці наперадзе…

Беларусы вельмі шануюць сваю асабістую прастору. Калі беларус заходзіць у вагон, у якім сядзіць усяго адзін чалавек, то ён беспамылкова знойдзе пункт, найбольш аддалены ад другога чалавека, каб сесьці самому. Мо таму ў нас пасьля КПСС гэтак і ня высьпелі вартыя ўвагі партыі… Сама думка пра партыйную дысцыпліну ці пра патрэбу ў рэгулярных сходках — балючая для здаровай беларускай псыхікі. Падазраю, тое самае тычыцца й амаль бясплённых у Беларусі спробаў цягам апошняе чвэрці стагодзьдзя запусьціць рухавік рэлігійнага жыцьця.

Беларускі краявід, у адрозьненьне, скажам, ад афрыканскага, заўсёды застаецца неразгорнуты. Гэта від у прачыненыя дзьверы. Калі ідзеш па лесе, бачыш толькі тыя дрэвы, што каля цябе, але ня бачыш лесу. Ягоны вобраз ствараецца ад дрэва да дрэва і — лапік блакіту ўгары. Гэта адчуваньне лесу, а не яго бачаньне, не сузіраньне. Цяжка ўявіць сабе групавую экскурсію ў беларускі лес. Каб пачуць птушак і ўбачыць зьвера, трэба ісьці аднаму. Нашыя зьвяры ня ходзяць табунамі. Лось, мядзьведзь, рысь — вялікія індывідуалісты. І пабачыш іх у прачыненыя дзьверы. Адзін.

Наш краявід, нашае натуральнае асяродзьдзе зьляпіла і нас. Таму замах на сваю асабістую прастору беларус успрымае балюча. Вядзецца не пра абстрактныя дэмакратычныя правы чалавека, а пра тое, што належыць мне пэрсанальна. Уяўляеце, напрыклад, што вы вяртаецеся дахаты, а там пабываў бяз вашага ведама нехта чужы. Можа й ня скраў нічога. Мо й не было чаго красьці. Але адчуваньне апаганенасьці сваёй прасторы, свайго маленькага сусьвету балюча адбіваецца ў людзкім сэрцы.

У маю электронную паштовую скрыню, што на tut.by, непрачытаныя лісты не прыходзяць. То бок

новыя лісты, не чытаныя мною, пазначаюцца, як ужо чытаныя. Ня мною. Хіба кожны ўжо беларус сутыкаўся з ускрытымі паштовымі капэртамі, перагледжанымі пасылкамі. Паштаркі толькі вінавата ўсьміхаюцца, просячы ўсё ж расьпісацца за бандэроль, што ўжо нехта ператрэс ды крыва заклеіў назад, нават ня дбаючы пра супадзеньне штэмпэляў… Спачувальна ўздыхаючы, яны аддаюць табе пасылачку. Усім усё ясна. Адчуваньне, што ў цябе нешта скралі, застаецца.

Як ня выкрасьліш, не перапішаш у нашай гісторыі і таго, што ў нас скралі амаль усё, што было магчыма: людзкія жыцьці і сьвятыя абразы, музэйныя і архіўныя скарбы, памяць і славу. У нас адабралі, зьнішчылі, пусьцілі парахном амаль усё, што нам было дарагое, — геніяльныя творы, бажніцы, палацы, курганы. Дзіва, бо ёсьць яшчэ што й сёньня апаганьваць, рабуючы сьвятыні ды музэі. Што можа біць мацней у беларускае сэрца? Дзіва ня тое, якое мы займаем сёньня месца. Дзіва — тое, што мы ўвогуле ёсьць.

Мне спачуваюць на мытнях, у паліклініцы, у падатковай інспэкцыі, у пад’ездах. Бо мною паўсюль ужо шматкроць пацікавіліся. Застаецца ўсьміхацца, адводзячы вочы. Спачуваюць беларусы. Бо гэта цалкам супраць нашай прыроды — зазіраць праз плячо, чытаць чужыя лісты, здаваць на аналіз палітычнае добранадзейнасьці сваю сьліну, здымаць адбіткі пальцаў у людзей. Тыя, хто руліць, хочуць пераламаць саму нашую натуру й натуральную гідлівасьць да зграйнага існаваньня. Але ўсім усё ясна…

Усім ясна, чаму, напрыклад, у нашым краі нішчацца бязьлітасна й несупынна памяткі мінуўшчыны. Бо начальства прадае дзялкі, на якіх яны стаяць, тым, хто болей заплаціць. Яму, начальству. Усім ясна, чаму ў такім ганебным стане нашая мова. Ясна, дзеля чаго ня можна ў нашай краіне голасна ўслаўляць Беларушчыну. Ясна, чаму людзі ня вераць у вынікі

раскрыцьця справаў пра выбухі ў Віцебску і ў Менску. Ясна, чаму ня могуць уздыхнуць вольна тыя, хто жыве сваім одумам і сваёй ініцыятываю.

Часам здаецца, што ўжо прагулялі ўсё. Не застаецца ў Беларусі тэмаў, у якіх бы гучала нота аптымізму. Чаго б тое ні тычылася — месца мастацтва ў беларускім грамадзтве, ролі асьветы і адукацыі, помнікаў старасьветчыны ці лёсу нашага лесу. У нас скрадаюць і нашую спадчыну, і нашую будучыню.

Каб не было магчымасьці праз глябальнае павуціньне інтэрнэту стасавацца з аднадумцамі й паплечнікамі ў цэлым сьвеце — як не апусьціцца да адчаю ад відовішча ўсяго, што робіцца ў нашым доме? Але ў такія дні сумневаў, у дні нязносных роздумаў пра наканаваньні для маёй Айчыны, толькі, бадай, ты адзіны мне падтрыманьне й апірышча — магутны, праўдзівы і вольны інтэрнэт! :)

**Біяграфія**

Сяргей Харэўскі (нар. 1967,  Менск) — мастак, літаратар, гісторык архітэктуры, культуроляг, мастацтвазнавец.

Вучыўся ў Менску ў мастацкай школе, у Менскай мастацкай вучэльні імя А. Глебава, у асьпірантуры Беларускай Акадэміі мастацтваў; у Пецярбурзе — у Інстытуце жывапісу, скульптуры і архітэктуры ім. І. Рэпіна і ў Варшаве — на курсах кампутарнай графікі, PR-мэнэджмэнту, у летняй школе Варшаўскага ўнівэрсытэту.

Цяпер выкладае ў Беларускім калегіюме і Эўрапейскім гуманітарным унівэрсытэце (Вільня).

Як мастак-графік афармляў кнігі розных выдавецтваў, быў мастацкім рэдактарам часопісу «Бярозка», газэтаў «Свабода» і «Наша Ніва» (ад моманту аднаўленьня), супрацоўнічаў з рознымі радыёстанцыямі і тэлеканаламі ў Менску, Вільні, Варшаве, Празе. Тэксты С. Харэўскага перакладаліся й друкаваліся па-вугорску, па-летувіску, па-нямецку, па-польску, па-расейску, па-ўкраінску, па-чэску. Супрацоўнічаў са СМІ Літвы, Чэхіі, Нямеччыны, Польшчы, Расеі, Люксэмбургу.

СЯРГЕЙ ХАРЭЎСКІ
ПраЧутае

Аўтар ідэі сэрыі *Максім Жбанкоў*
Каардынатар *Алесь Анціпенка*
Галоўны рэдактар *Валянцін Акудовіч*
Рэдактар *Настасься Мацяш*
Карэктар *Настасься Алехна*
Дызайн вокладкі *Сяргей Ждановіч*

У сэрыі **«Бібліятэка «Беларускі калегіюм»** выйшлі:
**Віталь Сіліцкі** «Адкладзеная свабода»,
**Алесь Анціпенка** «Быць (пры)сутным»,
**Валер Булгакаў** «Беларусь 1994–2004 гг.:
разбудова дзяржавы і перасьлед нацыі»

Фармат 84x1081/32. Папера афсэтная. Гарнітура «Calibri».
Друк афсэтны. Наклад 300 асобнікаў.

Паліграфічнае выкананьне:
Вільня